

**Узьбярэжная ў Пінску.** Гравюра 1872 г.

# Зьмест



• Нацыянальныя •
• этнічныя •
• культурныя •
• моўныя •
• рэлігійныя •
меншасьці
ў Беларусі




**Інфармацыйна-культурны бюлетэнь**

**Зіма 1995—1996 No.2**

*Выданьне фінансуецца Беларускім Фондам Сораса.*

*Наклад 499 асобнікаў.*

*Выдавец:* „Эўрафорум“ Цэнтар Эўрапейскіх Досьледаў і Культурных ініцыятываў

Група па абароне й дасьледаваньню нацыянальных меншасьцяў




# Ад рэдакцыі

Другі выпуск нашага бюлетэню мае тэматычную накіраванасьць. Значная частка зьмешчаных у ім матар'ялаў прысьвечана праблемам рэгіяналізму. Увага да гэтага пытаньня не выпадковая. У апошняй чвэрці дваццатага стагодзьдзя рэгіяналізм стаў заўважным фэномэнам жыцьця нават у тых краінах Заходняй Эўропы, у якіх, здавалася б, „нацыянальнае пытаньне“ вырашана даўна й канчаткова. Шмат якія праявы гэтага фэномэну згаданыя ў артыкуле В.Мацюшэнкі. Варта будзе дадаць яшчэ й такія зьявы, як кельцкае й, асабліва, уэльскае адраджэньне; спробы такіх італійскіх інтэлектуалаў, як Таніна Гуэра, складаць вершы на дыялектах; аналягічныя памкненьні ў Летуве й Латвіі; ці яшчэ больш нечаканае ўзьнікненьне карпата-русінскага руху на Ўкраіне і ў Славакіі або дыгорскага ў Асеціі.

Храналягічна ўсе гэтыя зьявы супадаюць з хваляй постмадэрнісцкіх настрояў у філязофіі, культуралёгіі, літаратуры, архітэктуры й г.д. І гэта зноў жа такі не выпадкова. Пры ўсёй канцэптуальнай (як сьцьвярджаюць філёзафы) нявызначанасьці й эклектычнасьці постмадэрну, нельга не заўважыць яго сувязь з нэакансэрватызмам, апэляцыю да традыцыі, усьвядомленай у якасьці антытэзы сацыяльнай і тэхнагеннай утопіі. Рэгіяналізм і, увогуле, увесь „этнічны парадокс“ сучаснасьці сталі адной з канкрэтных праяваў постмадэрнісцкай сьвядомасьці. Зьвяртае на сябе ўвагу, што рэгіяналісцкія рухі адрадзіліся ці ўзьніклі спантанна й ня мелі нейкай відавочнай сувязі паміж сабою. Пры гэтым трэба падкрэсьліць пэўную сынхроннасьць іх разьвіцьця нават у межах розных, прынцыпова антаганістычных сыстэмаў, падзеленых „сталёвай заслонаю“. Прыкладам таму наш, беларускі, дакладней палескі рэгіяналізм.

Апошняму пытаньню прысьвечана вялікая колькасьць разнастайных матар'ялаў, зьмешчаных у другім выпуску. Да іх хацелася б дадаць наступнае. Беларусь уяўляе сабою надзвычай гамагенную, аднародную цэласнасьць. Рэгіянальныя адрозьненьні тут куды менш выяўлены чымся практычна ва ўсіх суседніх народаў. Нагадаем шматлікія субэтнічныя групы ў расійцаў, украінцаў, палякаў і, асабліва, летувісаў і латышоў. Адзінае выключэньне — Палесьсе, дакладней, яго заходняя частка. Характэрна, што рэгіён гэты своеасаблівы ня толькі ў моўных ці антрапалягічных адносінах, але нават і ў кліматычных. У своеасаблівасьці яго й яго насельнікаў, здаецца, ніхто й ніколі не сумняваўся. Разам з тым ніколі не існавала й, напэўна, ніколі й ня будзе адзінай думкі адносна этнічнай прыналежнасьці жыхароў Заходняга Палесься.

Яшчэ ў другой палове XIX ст. склаліся тры пункты гледжаньня на гэтую праблему. Згодна зь першым, што меў найбольшую колькасьць прыхільнікаў, палешукі лічыліся ўкраінцамі. Галоўнай падставай для такога меркаваньня было падабенства палескіх гаворак да ўкраінскай мовы. Падкрэсьлім, што такой думкі прытрымліваўся ня толькі, умоўна кажучы, „украінскі бок“, але й шэраг беларускіх навукоўцаў, якіх цяжка абвінаваціць у адсутнасьці патрыятычных пачуцьцяў (Я.Карскі, Е.Раманаў і г.д.).

Адпаведна другому падыходу палешукоў адносілі й адносяць да беларусаў. Колькасьць прыхільнікаў такога пункту гледжаньня стала павялічваецца. І адбываецца гэта ня толькі таму, што пераважная большасьць палешукоў сёньня ўсьведамляе сябе беларусамі (а менавіта самасьвядомасьць — галоўная падстава этнічнай ідэнтычнасьці). Падставай таго ёсьць традыцыйная матар'яльная культура Палесься, якая ня толькі непадобна на ўкраінскі архетып, але і ў некаторых сваіх праявах (напрыклад — у адзеньні) выступае як своеасаблівы сымболь беларускасьці.

І, нарэшце, згодна з трэцім падыходам, своеасаблівасьць палешукоў настолькі істотная, каб аддзяляць іх і ад беларусаў, і ад украінцаў. Упершыню такія думкі былі выказаныя яшчэ П.Баброўскім і П.Шпілеўскім у сярэдзіне XIX ст. А ў пачатку 80-х гг. ужо XX ст. сфармаваўся палешуцкі („яцьвяскі“) рух. Пра яго ў апошнія гады пісалася ўжо шмат (у тым ліку й аўтарам гэтых радкоў), таму ёсьць сэнс спыніцца на двух наступных момантах. Наяўнасьць этнічнай самасьвядомасьці нават у адносна нязначнай колькасьці прадстаўнікоў групы зьяўляецца сур'ёзнай падставай для пастаноўкі пытаньня аб вылучэньні яе ў якасьці суб'екта міжэтнічных адносінаў — г.зн. у якасьці меншасьці.

Трэба аднак адзначыць, што колькі-небудзь абсалютна надзейных крытэрыяў такой атрыбуцыі няма ні ў айчынным, ні

ў міжнародным заканадаўстве. Прыкладам таго — Эўрапейская хартыя правоў лінгвістычных меншасьцяў, надрукаваная ў нашым бюлетэні, у якой вызначэньне парамэтраў такіх меншасьцяў надзвычай шырокае. Як сьцьвяржаюць экспэрты Рады Эўропы, зроблена гэта наўмысна, каб не абмяжоўваць сувэрэннае права кожнай краіны самой вырашаць гэтае пытаньне. Трэба дадаць, што зыходзячы з тых жа меркаваньняў у міжнародным праве адсутнічае вызначэньне нацыянальнай меншасьці. Таму з пункту гледжаньня міжнароднага права пытаньне наданьня палешуком статусу меншасьці застаецца адкрытым. Не выратоўваюць і спасылкі на прэцэдэнты ў іншых краінах. Так, напрыклад, у мінулым годзе ўлады Славакіі прызналі карпата-русінаў у якасьці меншасьці на той падставе, што яны стварылі ўласную граматыку. Аднак у той жа час улады Украіны, у якой жыве большасьць карпата-русінаў, ня толькі не прызналі іх, але й нават выказалі афіцыйны дыпляматычны пратэст з гэтай нагоды. У гэтым кантэксьце прызнаньне палешукоў статуснай меншасьцю выглядае яшчэ больш праблематычным. Да таго яшчэ трэба дадаць, што сам паляшуцкі рух, мякка кажучы, перажывае відавочны крызыс, калі не сканаў увогуле. Прычыны паразы „яцьвяскай" ідэі заслугоўваюць больш дэталёвай размовы. Чыста аб'ектыўна яна мела ўсе падставы для рэалізацыі. Аднак нацыянальная міталёгія, створаная лідарамі руху, аказалася празьмерна казачнай для інтэлектуалаў, і празьмерна мудрагелістай і ненатуральнай для прадстаўнікоў асноўнай масы інтэлігенцыі (перш за ўсё — настаўнікаў), дзякуючы намаганьням якой у першую чаргу й ствараюцца нацыі. Магчыма, гадоў праз 10-15, калі падрасьце новае пакаленьне, паляшуцкі рух разгорнецца з новай сілаю. Разам з тым параза сёньняшняй паляшуцкай ідэі робіць для Беларусі дастаткова актуальнай яшчэ адно праблему — праблему ўкраінскіх прэтэнзіяў на тэрыторыю Палесься.

Разуменьне палешукоў у якасьці ўкраінцаў характэрна для ўсёй украінскай нацыянальна-інтэлектуальнай традыцыі, аб чым ужо згадвалася ў папярэднім нашым нумары. Заўважым, што ў апошнія гады актыўнасьць Украіны ў гэтым напрамку значна павялічылася. Дастаткова нагадаць упартае змаганьне за ўкраінізацыю беларусаў на, скажам, нэўтральнай тэрыторыі — на Беласточчыне, прыкладам чаго зьяўляецца выданьне ўкраінскага часопісу Падляшша „Над Бугам і Нарвою" або захады Акадэміі навук Украіны да вывучэньня ўкраінцаў на Беларусі (справа, зразумела, добрая, але ў гэтым кантэксьце падазроная). Дададзім да гэтага і пазыцыю ўкраінскай амбасады, адпаведна якой на Беларусі жыве 1,5 млн. украінцаў (Форум, №1, С.18 ) або „Інформаційного бюлетеню" — выданьня Міністэрства Украіны па справах нацыянальнасьцяў, міграцыі й культаў (падкрэсьлім — афіцыйнае дзяржаўнае выданьне), у нумары два якога за 1995 год сьцьвяржаецца, што „етнічною українською теріторею є Берестейщина" (с.56). Канечне, можна казаць, што ўсё гэта робіцца дзеля захаваньня ідэнтычнасьці ўкраінскай меншасьці. Аднак ня трэба забываць, што памкненьні да тэрытарыяльнай анэксіі Палесься Украіна дэманстравала яшчэ ў XVII ст. і двойчы зьдзейсьніла іх падчас Першай і Другой сусьветных войнаў. У сувязі з гэтым узьнікае пытаньне, ці разумее „ўкраінскі бок", што заявы адносна „ўкраінскай этнічнай тэрыторыі" хвалі захапленьня на Беларусі ня выклічуць.

Наша рэдакцыя ўсьведамляе ўсю складанасьць і неадназначнасьць палескай праблемы. Мы спадзяемся, што круглы стол, асабліва з удзелам прадстаўнікоў украінскіх суполак, будзе першым крокам на шляху паразуменьня й зьбліжэньня пазыцыяў. Таму мы будзем вяртацца да гэтай праблемы яшчэ ня раз і запрашаем да канструктыўнага супрацоўніцтва ўсе зацікаўленыя бакі.

***Павал ЦЕРАШКОВІЧ***

*23 кастрычніка 1995 году „Эўрофорум“ (Цэнтар Эўрапейскіх Досьледаў і Культурных Ініцыятываў) наладзіў сэмінар пад назваю „Геакультурныя пэрспэктывы Заходняга Палесься як полікультурнага рэгіёну“. Гэта было першае мерапрыемства ў межах праграмы „Другая Эўропа“.*

*У рабоце сэмінару прынялі ўдзел: Адам Мальдзіс (дырэктар Нацыянальнага навукова-асьветнага цэнтра імя Ф.Скарыны), Ігар Бабкоў (дырэктар „Эўрофорума“), Алег Дзярновіч (кіраўнік праграмы „Другая Эўропа“), Фёдар Клімчук (навуковы супрацоўнік Інстытута мовазнаўства АН Беларусі), Павал Церашковіч (рэдактар бюлетэню „Форум“), Павал Знавец (дэпутат Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь), Юры Шаўцоў (карэспандэнт газэты „Белорусский рынок“), Андрэй Дынько (журналіст), Уладзімір Замкавец (таварыства „Просвіта“), Алег Пархач (таварыства „Просвіта“), Валер Каліноўскі (карэспандэнт газэты „Звязда“). Ніжэй мы друкуем тэксты выступленьняў некаторых удзельнікаў сэмінару.*

*Алег Дзярновіч*

# *Фармуляваньне асноўных праблем дасьледаваньня Заходняга Палесься*

Праблематыка Заходняга Палесься зьяўляецца адною са спэцыфічных зьяваў найноўшага этапу разьвіцьця беларускай гуманітарнай думкі. Адначасова з чыста сцыентысцкімі й нэапазытывісцкімі поглядамі на гэты немалы рэгіён існуе нейкая аўра інакшасьці ці загадкі, што зьвязанае з традыцыяналізмам насельніцтва Заходняга Палесься, з захаваньнем найбольш архаічных рысаў сьветапогляду, ўвогуле зь непадобнасьцю Заходняга Палесься на іншыя рэгіёны краіны. Разам з тым, прызнаньне праблематыкі Заходняга Палесься ёсьць сьведчаньнем сьпеласьці беларускай грамадзкай думкі, паказчыкам яе адкрытасьці, адмовы ад жорсткіх цэнтралісцкіх канцэпцыяў. Такім чынам, гаворка вядзецца пра беларускую мазаіку.

За мінулае дзесяцігодзьдзе праблемы Заходняга Палесься мелі дыскусійны характар у беларускіх мас-мэдыях, а таксама ў навуковай літаратуры. Сфармулюем асноўныя праблемы, якія выклікалі найбольшыя спрэчкі й якія зьяўляюцца актуальнымі для сёньняшніх навукоўцаў, культуролягаў, палітыкаў і журналістаў Беларусі.

### *I. Этнагенэз насельніцтва Заходняга Палесься*

Традыцыйная схема саюзна-плямённых і раннефэўдальных этнапалітычных супольнасьцяў IX-X стст. на тэрыторыі Беларусі (крывічы, дрыгавічы, радзімічы) усё ж не дазваляе растлумачыць спэцыфіку рэгіёну. Ці, як яшчэ напісана ў апошнім сынтэтычным выданьні „Нары-

сы гісторыі Беларусі“ т. 1, „гэта былі даволі ўстойлівыя этнаграфічныя аб'яднаньні..., якія ўтварыліся стыхійна“ [с. 57]. У некаторай ступені ўдакладняе сытуацыю расьсяленьне ў Пабужжы валынянаў. Але гэты факт адначасова заблытвае — атрымліваецца, што ў Пінскім Палесьсі ў X ст. пераважалі дрыгавічы, а ў Берасьцейскім Пабужжы была значная колькасьць валынянаў. Сёньня мы вядзем размову пра дастаткова этнічна цэльны й адметны рэгіён.

Магчыма, нейкая разгадка прыхаваная ўсё ў той жа балта-славянскай тэзе, ці, як гэта можна назваць інакш, антытэзе балты — славяне. Па дастаткова хрэстаматыйным меркаваньні паўднёва-заходнія землі Беларусі ўваходзілі ў так званую прарадзіму славянаў і належалі да Праскай археалягічнай культуры (Культура тыпу Карчак). У Жалезным веку (7-6 ст. да н. э. — 8 ст.н. э.) большую частку тэрыторыі Беларусі займалі балцкія плямёны й толькі на поўдні й паўднёвым-захадзе жылі славяне. А ўжо да канца 1-га тысячагодзьдзя н. э. славяне расьсяліліся амаль па ўсёй тэрыторыі Беларусі. У такім разе Заходняе Палесьсе — раён найдаўнейшага пражываньня славянаў на тэрыторыі Беларусі.

Але тут ізноў узьнікае балцкі сюжэт. Заходняе Палесьсе ў X-XIII стст. было памежнаю тэрыторыяй паміж групамі славянскіх „плямёнаў“ (дрыгавічоў, валынян, мазаўшан) і балтамі (яцьвягамі). Спрэчным і дыскусійным застаецца пытаньне пра межы расьсяленьня яцьвяскіх плямёнаў. Бальшыня сучасных польскіх дасьледчыкаў старажытную яцьвяскую тэрыторыю абмяжоўваюць раёнамі Сувалкіі. В. Сядоў на падставе даных гідранімікі й археалёгіі сьцьвярджае, што яцьвягі займалі большую тэрыторыю, уключна Нёманска-Бугскае міжрэчча. Але важна тое, што на тэрыторыі ўсёй Заходняй Беларусі раньнія (III-IV ст. н. э.) яцьвяскія могільнікі пакуль ня знойдзеныя. Каменныя курганы, падобныя на пахаваньні яцьвягаў, фіксуюцца ў Панямоньні ў X-XIII стст. У XIII-XIV стст. на зьмену курганом прыйшлі каменныя магілы яцьвягаў. Верагодна, міграцыя яцьвягаў сюды была зьвязаная зь нямецкім наступам.

Такім чынам, прапануем наступную схему: Заходняе Палесьсе можа зьяўляцца часткаю тэрыторыі фармаваньня славяншчыны (праўда, адносна аддаленую ад асноўнага ядра прарадзімы); на гэтую тэрыторыю пазьней мігравалі заходнія балты. Наяўнасьць усіх гэтых этнічных чыньнікаў спрычынілася да фармаваньня спэцыфікі насельніцтва Заходняга Палесься.

### II. Лінгвістычнае вызначэньне

З праблемаю этнагенэзу насельніцтва Заходняга Палесься зьвязаная таксама праблема лінгвістычнага вызначэньня мовы гэтага насельніцтва. Хрэстаматыйным зьяўляецца той факт, што Яўхім Карскі паўднёва-заходнюю этнаграфічную мяжу Беларусі праводзіў па лініі Тураў-Лунінец-Івацэвічы-Пружаны. Усё сёньняшняе Заходняе Палесьсе ўключыў у склад Беларусі Мітрафан Доўнар-Запольскі. Магчыма, гэта было зробленае паводле гістарычных меркаваньняў — рэгіён Заходняга Палесься быў традыцыйна зьвязаны з Панямоньнем са старажытнасьці; пасьля 1569 г., калі Ўкраіна перайшла пад юрысдыкцыю Кароны Польскай, Заходняе Палесьсе засталося ў складзе ВКЛ, было яго арганічнаю гаспадарчаю й культурнаю складоваю часткаю; надалей Заходняе Палесьсе ўяўлялася адным з гістарычных рэгіёнаў Беларусі. Між тым шматлікія дасьледчыкі падкрэсьлівалі адрознасьць гаворак насельніцтва Заходняга Палесься ад беларускай мовы. Тэзыс аб пераходнай этнамоўнай тэрыторыі не даваў адказы на ўсе пытаньні — дастаткова выразнаю была адасобленасьць заходне-палескіх гаворак. Ці ёсьць гэта ўкраінскаю моваю? Цалкам даны тэзыс для ўсяго насельніцтва Заходняга Палесься не дазваляе прыняць менавіта стракатасьць гаворак.

На нашай памяці рабіліся спробы кадыфікаваць разнастайныя палескія гаворкі й на іх падставе ўтварыць адзіную літаратурную мову. Магчыма, гэтыя спробы не ўдаліся з-за нерэалістычнасьці „яцьвяскіх“ лёзунгаў, якімі абгрунтоўвалася неабходнасьць стварэньня літаратурнай мовы.

Складанасьць лінгвістычнага вызначэньня паўплывала й на цяжкасьць акрэсьленьня беларуска-ўкраінскай этнічнай мяжы. У міжваенны пэрыяд беларускія і ўкраінскія культурніцкія й палітычныя ўтварэньні дзейнічалі на тэрыторыі Заходняга Палесься часам цераспалосна.

### III. Нацыянальнае самавызначэньне

Нельга сказаць, што праблема нацыянальнага самавызначэньня актыўна фармулюецца самім насельніцтвам Заходня-

га Палесься як актуальная. Культурна-палітычна абсалютная большасьць заходніх палешукоў вызначаюцца як беларусы — гэта значыць як грамадзяне Рэспублікі Беларусь, якія зьяўляюцца тут аўтахтоннымі жыхарамі. Тут дзейнічае новаэўрапейскі прынцып нацыя-дзяржава. Але сярод палешукоў шырака распаўсюджана адчуваньне сваёй адметнасьці ад іншых людзей такога дзяржаўна-юрыдычнага стасусу.

### *IV. Канфэсійная спэцыфіка*

Заходняе Палесьсе зьяўляецца рэгіёнам са сваёю канфэсійнаю спэцыфікаю. Унійныя працэсы ў др. пал. XV ст. — XVI ст. мелі моцную падтрымку на Заходнім Палесьсі і Валыні. Уяўляецца, што аб'яднаўчы сабор 1596 г. невыпадкова адбыўся ў Берасьці. Заходняе Палесьсе да нядаўняга часу было фактычна адзіным рэгіёнам у Беларусі, дзе ў 70-80-я гг. XX ст. існавалі праваслаўныя суполкі ня як адзінкавая зьява. Між тым Заходняе Палесьсе паступова пераўтвараецца ў нэапратэстанцкі абшар. Вось гэтыя рэлігійныя імпульсы, што сыходзяць з Заходняга Палесься, рэзка вылучаюць рэгіён сярод іншых.

### *V. Этнічны традыцыяналізм*

Заходняе Палесьсе зьяўляецца рэгіёнам, дзе найбольш устойліва захаваліся многія рысы традыцыйнай культуры.

### *VI. Палітычны кансэрватызм*

Нягледзячы на наяўнасьць такіх фактараў, як актыўнае рэлігійнае жыцьцё і этнічны традыцыяналізм, пераважная большасьць насельніцтва Заходняга Палесься на выбарах 1994-1995 гг. выказалася за дэструктыўныя ідэі, якія толькі па форме былі кансэрватыўнымі, гэта значыць апэлявалі да старых парадкаў. Пры ўсёй розьніцы Заходняга Палесься і, да прыкладу, Падняпроўя, статыстычныя дадзеныя выбараў там ня шмат у чым адрозьніваюцца.

### *VII. Гаспадарчыя пэрспэктывы*

Яны ўяўляюцца досыць цьмянымі. Масавыя дзяржаўныя (калектыўныя) гаспадаркі ў Заходнім Палесьсі былі пабудаваныя на экстэнсіўнай эксплюатацыі мэліярацыйных сыстэм. На іх функцыянаваньне патрэбныя калясальныя сродкі, якіх ужо няма. Гэтая залежнасьць ад мэліярацыйных сыстэм зробіць рэфармаваньне сельскай гаспадаркі Заходняга Палесься найбольш складаным у параўнаньні зь іншымі рэгіёнамі Беларусі.

Зьнешняя палітыка кіраўніцтваў Расеі і Беларусі вядзе да стварэньня жорсткага мытнага рэжыму на беларуска-ўкраінскай мяжы, што абмяжоўвае традыцыйныя гаспадарчыя, культурныя і асабістыя сувязі насельніцтва Заходняга Палесься з Украінаю, спрычыняецца да падзеньня жыцьцёвага ўзроўню насельніцтва рэгіёна.

### *VIII. Моўна-культурная пэрспэктыва*

Нявырашанасьць праблемы этнічнага статусу насельніцтва Заходняга Палесься як лінгвістычнай меншасьці ставарае пагрозу далейшаму існаваньню самабытнай культуры і моўных традыцый Заходняга Палесься. Той комплекс моўна-этнаграфічна-культурных адметнасьцяў, якія вылучаюць заходніх палешукоў сярод іншых аўтахтонных жыхароў Беларусі, зьяўляецца самакаштоўным. Дзеля захаваньня гэтых культурных у шырокім сэнсе адметнасьцяў неабходна канстытуіраваць этна-культурны статус заходніх палешукоў. Што гэта будзе — асобная этнаграфічная група ўнутры беларускай нацыі (што найбольш верагоднае і рэалістычнае), ці нейкі іншы варыянт — вось праблема. У любым выпадку можна канстатаваць, што ў Беларусі існуе лінгвістычная меншасьць — заходнія палешукі, асобныя правы якіх абараняюцца міжнародным заканадаўствам.

Дазволю сабе крыху патэтыкі на заканчэньне.

У абмеркаваньні праблематыкі Заходняга Палесься ёсьць важны аспэкт — сёньня ініцыяваньне гэтага абмеркаваньня належыць грамадзкім арганізацыям. Мы зыходзім з тэзы, што беларускае грамадзтва ёсьць зьяваю значна шырэйшаю за беларускую дзяржаву, што беларуская супольнасьць мае свой патэнцыял, свае інтэлектуальныя і матар'яльныя рэсурсы. У сытуацыі, калі дзяржаўныя структуры часта зьяўляюцца прычынаю дэстабілізацыі ў супольнасьці і дзяржаве, беларуская грамадзкасьць мусіць узяць на сябе адказнасьць за канструктыўнае вырашэньне актуальных праблем краіны.

*Андрэй ДЫНЬКО*

# *Паўставаньне фэномэну ўкраінскамоўных беларусаў*

Стан Заходняга Палесься, стан ягонае культуры, самасьвядомасьці палешукоў уяўляецца мэтафараю стану Беларусі *in extremis*, яе тутэйшасьці, самазабыцьця. Сёньня рэальна можна весьці гутарку пра пустку ў культурным полі Сярэдняй Эўропы, пра вакуум саматоеснасьці, што захоўваецца паміж беларусамі, украінцамі й палякамі. Лягічна Заходняе Палесьсе мусіла б стаць полікультурным рэгіёнам, але ў апошнія дзесяцігодзьдзі ўзьнікла загроза таго, што на Берасьцейшчыне й Піншчыне ўтворыцца своеасаблівая расійска-савецкая „краіна".

Толькі бесстаронньні навуковы аналіз можа даць адказы на пытаньні: хто такія палешукі, у якой мове яны гавораць і якім шляхам павінен ісьці гэты край.

Містыфікатарствам займаюцца тыя, хто кажа, што праблемы Берасьцейшчыны й Піншчыны няма, што Беларусь адзіная, непадзельная, унітарная, бо, усё ж такі, пад Берасьцем і Пінскам гавораць у дыялектах украінскае мовы. Ігнараваньне культурнай адметнасьці Палесься небясьпечнае для Беларусі: безаглядная гвалтоўная беларусізацыя тых, хто ніколі не гаварыў па-беларуску, падштурхоўвае людзей да таксама чужое ім расейшчыны.

Тыя, хто сьцьвярджае, што Палесьсе — на сто адсоткаў украінскае, самі ведаюць, што гэта ня так. І рэч ня толькі ў тым, што берасьцейцы й пінчукі запісаныя беларусамі ў пашпартох, што яны адчуваюць сябе беларусамі. Палесьсе зьнітаванае зь Беларусьсю тым, што гістарычна яно належала да Вялікага княства Літоўскага, да Менскай і Гарадзенскай губэрняў, што перажыло супольную люмпэнізацыю ў савецкі пэрыяд, які й прывёў да стварэньня беларускае самасьвядомасьці палешукоў і ўтварэньня палеска-беларускай інтэлігенцыі ў 60-80-х гадох. Зь Беларусьсю лучыць Берасьцейшчыну й Піншчыну асоба Дуніна-Марцінкевіча, ягоная „Пінская шляхта", напісаная пінскай гаворкай, асобы Франца Савіча і Рамана Скірмунта, аўтара лемантара ў мясцовай мове. Але толькі беларусізацыя і адраджэньне 80-х гадоў упершыню паставіла перад берасьцейцамі-пінчукамі пытаньне: ці магу я быць беларусам, калі мая мова не беларуская? Раней ён гаварыў у дыялекце сваёй вёскі, які натуральна быў ягоным жаргонам, калі хочаце, гэтаксама натуральна, як і ўсе, вучыўся па-расейску; беларускасьць жа не вымагала выбару, доўжыўся замарожаны стан сьвядомасьці. Цяпер жа перад палешуком паўстае дылема: кім былі мае продкі і кім будуць мае дзеткі?

Зрэшты, украінская плынь была досыць моцнай сярод палешукоў, яна была ўспрынятая і засвоеная: так, верш Ральківського (Лэвчука):

*Очерет мені був за колиску,*
*В болотах я родився і зріс.*
*Я люблю свою хату поліську,*
*Я люблю свій зажурений ліс*

— стаўся ўлюбёнаю народнай песьняй. „Поліська хата на Україні" — гэта й энтузыязм міжваенных „Просвіти", „Сільроба" ды „Сільсоюза", гэта й разгалінаванасьць, сіла, рамантызм антынямецкага ды антысавецкага руху ОУН-УПА падчас Другое сусьветнае вайны.

Гістарычна Берасьцейшчына й Піншчына мелі вялікую патрэбу ў гандлі з хлебнаю Валыньню. Апроч таго, духоўным цэнтрам, які прыцягваў пале-

шукоў, быў і ёсьць Пачаеў. Напрыканцы XIX ст. узмацніўся іншы эканамічны вэктар: чыгунка й шаша Масква — Варшава. (Дарэчы, заўважым, калі б сёньня Берасьцейшчына ўваходзіла ў склад Украіны і тая кантралявала б шашу, чыгунку ды палівапровады, Расея наўрад ці была б так крэўна зацікаўленая ў сваім уплыве на Беларусь.) Найважнейшым чыньнікам беларусізацыі Берасьцейшчыны й Піншчыны былі буйныя інвэстыцыі, ажыцьцёўленыя ў савецкі пэрыяд: мэліярацыя, індустрыялізацыя, электрыфікацыя, пракладаньне шляхоў камунікацыі. Лічыцца беларусам было прэстыжна й выгодна як з эканамічнага гледзішча (Беларусь жыла заможней, чымся Ўкраіна й нават памежныя раёны Польшчы), так і з палітычнага (палякаў ды заходніх украінцаў лічылі ня цалкам добранадзейнымі). Цяпер жа становішча карэнным чынам зьмяняецца: на інвэстыцыі можна больш не спадзявацца, па тэмпах рэформы, а значыць, і па ўзроўні эканамічнага разьвіцьця, Беларусь далёка адстала і ад Польшчы і, як стала зразумела за апошні год, ад Украіны. Пры гэтым, аднак, эканамічныя сувязі паміж Берасьцейшчынай ды Піншчынай і рэштаю краіны застаюцца надзвычай цеснымі. Палешукі паступова пераарыентоўваюцца на Жыровіцкі духоўны цэнтар, узьніклі супольныя для беларускамоўных і для ўкраінскамоўных беларусаў традыцыі, духоўныя вартасьці, стэрэатыпы несавецкага, некамуністычнага кшталту, то бок тыя, якім гарантаванае працяглае існаваньне. На пэрспэктывы Палесься паўплывае й важлівасьць гэтага рэгіёну для сьвядомасьці беларускамоўных беларусаў: Белая Вежа й пушча, Берасьцейская крэпасьць, Берасьцейская вунія, Днепрабуг і г.д.

Ступень зрусіфікаванасьці Берасьцейшчыны й Піншчыны розная: Берасьце зрусіфікаванае моцна, гэты горад вайскоўцаў ды вайсковых пэнсіянэраў стаўся апірышчам разнастайных рэваншысцкасавецкіх арганізацыяў. Пінск з гарадкамі й мястэчкамі Піншчыны захаваў традыцыйную культуру ў большай ступені, але цяпер апынуўся ў вельмі складанай эканамічнай сытуацыі. Менавіта тут моцныя беларускія правыя партыі й рухі. У Берасьці адрадзілася „Просвіта Берестейщини“, якая мае працягваць справу міжваеннае „Просвіти“. На цьвёрда ўкраінскіх пазыцыях стаіць Таварыства ўкраінцаў Берасьцейшчыны й ягоная газэта „Голос Берестейщини“. Створанае Палеска-Загародзкае навуковае таварыства, якое мае на мэце найперш стараннае вывучэньне заходнепалескіх дыялектаў і кайнэ. Ад згуртаваньня „Полісьсе“ й газэты „Збудінне“ застаўся нашчадак — фэстываль заходнепалескае песьні. Нястомна працуюць энтузыясты й гурткі ўсьцяж усяго краю. Менавіта гэтыя людзі закладаюць падмурак будучае полікультурнасьці. Яны стварылі новы музэй у Моталі, яны абараняюць беларускія ды ўкраінскія клясы й школкі. Зрэшты, у Берасьці, нягледзячы на прыхільнасьці аддзелаў народнае адукацыі, меней за 1% першаклясьнікаў пайшлі ў беларускія клясы. Можна быць упэўненым, што калі б навучаньне ў краі пераводзілася на ўкраінскую мову, сёньня сытуацыя была б больш ці менш нармалёвай, як у тым Менску ці Горадні.

Што тычыцца рэлігіі, традыцыя набажэнстваў у берасьцейскім дыялекце ўкраінскае мовы падтрымліваецца ва ўніяцкай царкве Сьв.Мікіты ў Кастэмалотах, што ў Польшчы. У цэлым жа рэлігійнае адраджэньне адбылося: на ростані павярталіся крыжы, у цэрквы — ручнікі. Імкліва разьвіваецца пратэстанцтва.

Гэбраі былі згубілі рэлігію й мову, але ня страцілі сваёй саматоеснасьці. Берасьцейцы й пінчукі захавалі мову й рэлігію, але не набылі саматоеснасьці. Страта нацыянальнае арыентацыі вядзе да трыюмфу Хама, люмпэна, да краху. Магчыма, мая думка гучыць трохі парадаксальна: беларуская інтэлігенцыя мусіць давесьці берасьцейцам ды пінчуком, што яны зьяўляюцца ўкраінскамоўнымі беларусамі й павінныя ганарыцца гэтым. (Жывуць жа нямецкамоўныя французы Эльзасу, беларускамоўныя палякі Віленшчыны!) Без дапамогі ж беларускай інтэлігенцыі палешукі наўрад ці здолеюць захаваць і замацаваць сваю адметнасьць.

*Олег ПАРХАЧ*

# *Проблема розмежування білоруських та українських говорок — один із способів гармонізації міжнаціональних стосунків*

Шановне панство!

Шановні колеги!

Користуючись нагодою, хочу звернути вашу увагу щодо проблеми розмежування білоруських та українських говорок в західно-південному регіоні Білорусі.

Останнім часом, з ростом української національної свідомості корінного населення на Берестейщині, ця проблема видається дуже важливою. На мій погляд, її рішення є одним із способів усування різних політичних спекуляцій стосовно етнічних процессів в цьому регіоні.

Коротко з'ясую, чому я вжив термін „Берестейщина", а не „Полісся" або „Західне Полісся". Під назвою „Берестейщина" я маю на увазі весь українськомовний регіон в Брестській області, котрий, поперше, має історичне коріння як Берестейська земля у складі Галицько-Волинського князівства, по-друге, географічно охоплює не тільки поліські низини, котрі займають прикладно половину українськомовного регіону, але ж таксамо і Підляське узвишшя, де знаходяться Кам'янець з Високим та високу рівнину Загороддя з Пинськом, Яновом, Дорогичином та інш. Саме сухі Підляське узвишшя і рівнина Загороддя спочатку і найбільш рясно заселялись українськими, в загальному землеробчими, племенами. Болотисте та лісове Полісся було заселене пізніше.

Слово „Берестейщина" походить од стародавньої, вірної назви міста Брест — Бересть. До цього часу місцеве населення називає Брест — Бересть. Назва „Берестьє" в пісьмових джерелах не трапляється, вона з'являється штучною. Що цікаво, слово „Брест" є зрусіфікованою калькою польського „Brześć", в той час як „Brześć" — калькою українського „Бересть".

Що ж являють собою берестейські (берестейсько-пинські) українські говірки в сучасному їх стані?

Через те, що в Брестській області відсутнічае освіта на літературній українській мові, нема українського радіо і телебачення, українські говірки не насичуються сучасною українською лексикою і являть собою українсько-російську мішанину. Взагалі, українська мова на Берестейщині доведена до такого стану, відносно лексічного накопичення, що здатна, на мій погляд, обслуговувати тільки побут сільського населення та вживатись як носій українського фолькльору. І дійсно, коли українські академічні словники нараховують майже 300 тыс. слів, український словниковий запас пересічного берестейця — не більше 5 тыс. слів. Але ж він говорить українською мовою, українською за граматичною і фонетичною структурою. Головний масив берестейсько-пинських говорок не знає жодної білоруської фонетичної і граматичної риси, тоді як літературні українські — майже всі. На мій погляд, берестейські говірки, по своїй структурі, ближчі до української літературної мови, ніж гуцульські, лемкивські або надеянські говірки і відрізняться од літературної української мови лише наступними фонетичними та граматичними рисами.

Перша — брак вказівних займенників „це" або „се", котрі вживаються в літературній мові паралельно, але перевага надається займенникові „це". У нас вживаються „цьоє, сьоє, ціте, сіте, єто, гето, гете". Друга — це вживання в берестейських говірках голосних звуків менш високого підйома в ненаголошених закритих складах і в кінці слів, ніж в літературній

українській мові. Наприклад, в літературній мові „радість" — у нас „радоуcть", „кінець" — „коунець", „хлопців" — „хлопцуюв". З цією особливостю зв'язане вживання в прикметниках множини закінчень „иї", „и", а не „ії", „і". Наприклад: по-нашому „чорниї", „чорни", літературна ж мова вимагає „чорні", „чорнії" (фолькл.). Берестейські говірки не знають таксамо прийменників та префіксів в дієсловах „від". В літературній мові вживається паралельно і „від", і „од" — від'їхати, од'їхати, від Берестя, од Берестя, у нас — тільки „од". Є ще така особливість, як уживання у прикметниках жіночого роду в родовому відмінку закінчень „еї", „єї" замість літературного „ої", наприклад, „чорнеї", „білеї", „добреї"; літ. „чорної", „білої", „доброї".

Ось і всі головні особливості основного масива берестейських говорок. Але ж в цьому масиві трапляються островні говірки, котрі трішки ускладняють загальну картину. Для них притаманна карпатсько-волинська вимова звука [а;йа] як [е;йе], наприклад — „єма", „чес", „зєть", „єблуко". Зустрічаються говірки, де на місці етімологічного [о] в наголошених складах замість [і] вживається [у], [и], наприклад, „кунь", „вуз", „стил", „вил". Ця риса часто носить факультативний характер і окрема людина може говорити і „кінь", і „кунь", „кинь".

Крайні північні і східні берестейські говірки можна назвати переферійними: вони знають діфтонги на місці етімологічних [о] та [ѣ] (ятя) — „куонь", „вуоз", „діети" або „діеті", „сіено", м'який приголосний [л] — „ходилі", „ходілі", м'які приголосні перед етімологічним [і] — „міска", „зіма", „ходіті", „робіті", отвердіння етімологічних м'яких [р], [ц]. Але ж тут нема білоруського дзекання та цекання і акання.

До переферійних берестейських українських говорок примикають говірки, в яких поруч з українськими особливостями, такіми як окання, тверда вимова приголосних перед [е] і [і] та інш., трапляється і білоруське дзекання та цекання або одне цекання. Такі говірки не з'являються ні українськими, ні білоруськими, а перехідними.

Наявність дзекання та цекання я взяв як головну рису для розмежування українських та перехідних говорок. Як відомо, класичною з'являється праця академіка Є.Карського „Белорусы", в якій він показав розселення білорусів. В першому томі „Белорусов" він зробив спробу відокремити білорусів од українців по мові, але, на мій погляд, не дав раду це зробити. А все тому, що змішав мову та бадання антропологів і не визначив смугу перехідних говорок. Згідно з його мапою і з'ясуванням кордону поміж українцями і білорусами по мові, головним чинником є присутність в говірках окання і твердої вимови приголосних перед етімологічними [е] та [і]. Дзекаючі та цекаючі говірки він зарахував до українських тому, що, згідно з його припущенням, українці, як антропологічний тип, могли ці мовні риси сприйняти від білорусів. Уважаю, що цей підхід помилковий, бо як визнати присутність в українськіх говірках або в українській мові основної білорускої риси дзекання та цекання, тоді треба признати, що білоруська мова — це діалект української. І, навпаки, признаючи, що білоруські говірки або білоруська мова може не знати дзекання та цекання, але знає наявність окання та твердих приголосних перед етімологічними [е] та [і], в такому випадку треба сказати, що українська мова — це діалект білоруської. Це абсурд. Але ж оцей абсурд культивують деякі білоруські лінгвісти, зараховуючи берестейсько-пинські говірки до білоруських. Достатньо подивитись прац „Нарысы па беларускай дыялекталогіі" (Мінск, 1964) або „Дыялектычны атлас беларускай мовы" (Мінск, 1963).

Таким чином, за адміністративним подiлом українські говірки охоплюють Берестейський, Малоритський, Жабінковський, Кам'янецький, Кобринський, Яновський, Пинський, Дорогичинський райони повністю, південну частину Пружанського, 2/3 Березівського, південну окраїну Ивацевіцького, західну окраїну Лунінецького, західну половину Століньського районів і межують з перехідними говірками де є білоруське дзекання та цекання, а таксамо українське окання і тверда вимова приголосних перед [е] або [і]. Чи стануть перехідні говірки білоруськими або українськими, покаже час.

*Фёдар КЛІМЧУК*

# *Некаторыя асаблівасьці этнанацыянальнай самасьвядомасьці заходніх палешукоў*

На тэрыторыі сучаснай Берасьцейскае вобласьці па дыялектных, этнаграфічных ды іншых асаблівасьцях выдзяляюцца тры асноўныя зоны.

1. Уласна заходнепалеская (берасьцейска-пінская, загародзкая) зона. На поўначы яна абмежаваная лініяй: на поўнач ад Камянца, на поўдзень ад Шарашова, Пружанаў, на поўнач ад Бярозы, Белаазёрска, на поўдзень ад Целяханаў, на поўнач ад Лагішына, на паўднёвы захад ад Лунінца, на паўночны ўсход ад Століна. У ёй выдзяляюцца невялікія пэрыфэрыйныя рэгіёны: ваколіцы г.Бярозы, рэгіён на поўдзень ад Целяханаў, ваколіцы г.Століна.

2. Паўночнаберасьцейска-ўсходнепалеская зона: раёны Шарашова, Целяханаў, Лунінца, Мікашэвічаў, Давыд-Гарадка, рэгіён на поўдзень ад Ганцавічаў. Ёсьць рэгіёны пераходнага характару паміж 1-й і 2-й зонамі: ваколіцы Пружанаў, в.Лунін і яе ваколіцы (на паўднёвы захад ад Лунінца), в.Беражное й яе ваколіцы (на паўночны ўсход ад Століна).

3.Панямонская зона: раёны Баранавічаў, Ружанаў, Івацэвічаў, Ляхавічаў, Чучавічаў (на поўначы Лунінецкага раёну).

Па веравызнаньні ўва ўсіх трох зонах пераважаюць праваслаўныя. Так, у 1897 г. сярод асобаў, роднай мовай якіх зафіксаваная беларуская, украінская (маларуская) і расійская (вялікаруская) у першай і другой зонах праваслаўныя складалі звыш 96%, (рыма-каталікі 3,3%), у трэцяй, панямонскай зоне (у межах сучаснай Берасьцейскае вобласьці) — каля 90%.

Ніжэй гутарка пойдзе пра першую, уласна заходнепалескую ці ўласна берасьцейска-пінскую зону. Яна выдзяляецца як на грунце моўных[1], так і на грунце этнаграфічных[2] асаблівасьцяў.

Калі казаць пра этнанацыянальную самасьвядомасьць карэннага насельніцтва вызначанага рэгіёну, неабходна адрозьніваць наступныя катэгорыі: 1) этнічная прыналежнасьць; 2) этнічная самасьвядомасьць; 3) афіцыйная нацыянальная прыналежнасьць; 4) нацыянальная самасьвядомасьць.

Этнічная прыналежнасьць — гэта прыналежнасьць да пэўнае групы, якая характарызуецца супольнасьцю мовы або гаворкі, культуры, паходжаньня, этнічная самасьвядомасьць — гэта ўсьведамленьне прыналежнасьці да такой групы. Адзначаныя катэгорыі не заўсёды супадаюць. І ўсё ж, калі мець на ўвазе сытуацыю да 1939 г. (год уваходжаньня Заходняе Беларусі ў склад БССР) і, відавочна, папярэднія стагодзьдзі, дык этнічная самасьвядомасьць берасьцейска-пінскіх „палешукоў“ характарызавалася трывалай устойлівасьцю ў наступных двух аспэктах: 1) прыналежнасьць да „руських“, г.зн. да ўсходніх славянаў, і 2) прыналежнасьць да ўсходнеславянскае этнаграфічнае групы, якая засяляла і засяляе асноўную тэрыторыю Берасьцейска-Пінскага Палесься. У якасьці саманазову дамінаваў этнонім „руськы“ (руськія), які азначаў усіх усходніх славянаў.

Афіцыйная нацыянальнасьць — гэта запіс аб нацыянальнай прыналежнасьці падчас перапісаў, у пашпарце, у вайсковым білеце, у пасямейных кнігах, у іншых афіцыйных дакумэнтах. Афіцыйную нацыянальнасьць на Берасьцейска-Пінскім Палесьсі ўстанаўлівалі афіцый-

ныя асобы. Як ужо казалася, да 1939 г. заходнія палешукі ў абсалютнай большасьці называлі сябе „руськымы“ (рускімі). Ім жа афіцыйна даваліся іншыя этнонімы. Іх мы прывядзем ніжэй. У 40-70-я гады людзі называлі толькі адзін перапіс, калі пыталіся, да якой нацыі далучае сябе чалавек. Апытвалі як найменей галаву сям'і. Гэта савецкі перапіс 1939 г., матар'ялы якога не апублікаваныя.




Пэўнай спэцыфікай характарызаваліся савецкія перапісы 1959, 1970, 1979, 1989 гг. Пры Цэнтральнай Статыстычнай управе ў Маскве выпрацоўваліся інструкцыі па правядзеньні перапісаў. Згодна з гэтымі інструкцыямі ўстанаўліваўся сьпіс народаў СССР. Апроч таго, інструкцыі ўстанаўлівалі сьпіс назваў групаў насельніцтва, якія падчас перапісу неабходна далучыць да тых ці іншых нацыяў. Прыкладам, сванаў неабходна было далучыць да грузінаў, талышаў — да азэрбайджанцаў, гуцулаў — да ўкраінцаў і г.д. На Палесьсі, якое ўваходзіла ў склад Беларусі і Ўкраіны й дзе назіралася нямала супольнага ў этнанацыянальнай самасьвядомасьці, гэтая праблема вырашалася наступным чынам. Калі апытаны называў сябе мясцовым, тутэйшым, мясцовым рускім (у адметнасьць ад рускіх — выхадцаў з Расеі), русінам, палешуком, пінчуком (у 1939 г. частка Пінскага павету ўвайшла ў склад Украіны), альбо тлумачыў сваю нацыянальную прыналежнасьць апісальна, дык у Берасьцейскай вобласьці Беларусі, згодна зь інструкцыяй, яго запісвалі беларусам, а, прыкладам, у Валынскай і Ровенскай вобласьцях Украіны — украінцам.

У шэрагу выпадкаў ішлі яшчэ далей. Прывяду канкрэтныя прыклады. У 1959 г. праводзіўся перапіс насельніцтва. Аўтар гэтых радкоў жыў тады разам з бацькамі ў вёсцы Сіманавічы Дарагічынскага раёну, працаваў настаўнікам. Заходзяць у хату людзі, якія праводзяць перапіс. На кожнага члена сям'і — бацьку, маці, мяне, братоў, сясьцёр — заводзіцца лісток. У лістку запаўняецца ўсё — год нараджэньня, адукацыя й г.д. Пра нацыянальнасьць і родную мову не пытаюцца. Празь некаторы час даведваюся, што гэтак жа праводзілі перапіс ня толькі ў Дарагічынскім, але і ў Берасьцейскім, Камянецкім, Столінскім, Пінскім ды іншых раёнах, а таксама... у іншых рэспубліках СССР. Праводзіцца перапіс 1989 г. Скардзілася адна жанчына з Дарагічынскага раёну. Падчас перапісу й дзеля яго некалькі дзён не выходзіла з дому й нікуды ня езьдзіла. Перапішчыкі ж у гэтую вёску ўвогуле не прыходзілі. Правялі перапіс у другой вёсцы, у сельсавеце, проста па сямейных кнігах.

Прыводзім дадзеныя перапісаў насельніцтва і спэцыяльных вылічэньняў па Берасьцейска-Пінскім Палесьсі. Зьвесткі прыводзяцца па адміністрацыйных адзінках, якія ўключалі Берасьцейска-Пінскае Палесьсе. Для 1857—1917 гг. гэта Брэст-Літоўскі, Кобрынскі, Пружанскі паветы Гарадзенскай губэрні і Пінскі павет Менскай губэрні. Для 1919 г. — тыя ж паветы Берасьцейскай акругі. Для 1921—1931 гг. — Берасьцейскі, Дарагічынскі, Кобрынскі, Косаўскі, Лунінецкі, Пінскі, Столінскі паветы Палескага ваяводзтва. Для 1959—1989 гг. — гэта Берасьцейская вобласьць.

Адносна 1857 г. мы выкарыстоўваем дадзеныя М.Лябёдкіна[3]. Праваслаўных і каталікоў у рэгіёне 328174 чал. Зь іх: маларасіяне (украінцы) 94740 — 28,9% (праваслаўныя), беларусы 89099 — 27,2% (праваслаўныя), ліцьвіны 50668 — 15,4% (праваслаўных 35427, каталікоў 15243), вялікарасіяне 42371 — 12,9% (праваслаўныя), яцьвягі 24341 — 7,4% (праваслаўныя), палякі 21492 — 6,6% (каталікі), бужане 5463 — 1,7% (праваслаўныя).

Прыведзеныя дадзеныя выкарысталі П.Баброўскі, І.Зяленін, А.Ф.Рыціх, П.М.Бацюшкаў, М.В.Каяловіч[4]. Інтэрпрэтавалі ж іх інача́й.

Паводле П.В.Баброўскага й І.Зяленіна, блізу 90% усяго славянскага насельніцтва рэгіёну належыць да маларускіх (украінскіх) групаў, блізу 10% (поўнач Пружаншчыны) — да беларускіх групаў.

Паводле А.Ф.Рыціха й П.М.Бацюшкава, блізу 53,1% усяго насельніцтва рэгіёну належыць да беларусаў, блізу 28,6% — да маларусаў (украінцаў), блізу 2,8% — да палякаў. Паводле М.В.Каяловіча, маларусы (украінцы) складалі ў рэгіёне блізу 51,6%, беларусы — блізу 32,8%, палякі — блізу 2,8%.

Паводле А.Ф.Рыціха[5], у 1867 г. мужчынскае насельніцтва рэгіёну складала 224414 чалавек (усё насельніцтва 446785), зь іх маларусы (украінцы) 192472 — 85,8%, палякі 8568 — 3,8%, беларусы й рускія не адзначаныя.

Дадзеныя перапісу 1897 г.[6] Усяго насельніцтва ў рэгіёне 772772 чалавекі. Сярод іх: маларусы (украінцы) 296206 — 38,3%, беларусы 281775 — 36,5%, праваслаўныя вялікарусы (частка зь іх — карэннае насельніцтва Палесься) 32404 — 4,2%.

Дадзеныя перапісу 1909 г.[7] Усяго насельніцтва ў рэгіёне 854601 чалавек. Зь іх: рускія праваслаўныя (са стараверамі) 663489 — 77,6%, рускія іншых веравызнаньняў 27185 — 3,2%, палякі-каталікі 14134 — 2,1%; беларусы і ўкраінцы не адзначаныя.

Улік 1914-1917 гг.[8] Карэннае насельніцтва рэгіёну аднесенае да беларусаў (блізу 80%) і маларусаў (украінцаў) (блізу 20%).

Улік 1918 г. — большасьць карэннага насельніцтва рэгіёну аднесенае да ўкраінцаў[9].

Перапіс 1919 г.[10] Усяго насельніцтва ў рэгіёне 478672 чалавекі. Зь іх: беларусы 232224 — 48,5%, тутэйшыя 94158 — 19,7%, палякі 50578 — 10,6% (зь іх ня меней за 1/4 праваслаўныя), расіяне (рускія) 27775 — 5,8%, русіны (украінцы) 3714 — 0,8%7

Дадзеныя перапісу 1921 г.[11] Усяго насельніцтва ў рэгіёне 690643 чалавекі. Зь іх: беларусы 374702 — 54,3%, тутэйшыя 27761 — 4%, русіны (украінцы) 21996 — 3,2%, расіяне (рускія) 3571 — 0,5%, палякі 185345 — 26,8%, зь іх праваслаўныя „палякі“ каля 110 тысячаў чалавек — блізу 16%.

Дадзеныя перапісу 1931 г.[12] Усяго насельніцтва ў рэгіёне 1036951 чалавек. Зь іх: тутэйшыя 632775 — 61%, беларусы 74202 — 7,2%, украінцы 45776 — 4,4%, расіяне 15948 — 1,5%, палякі 157714 — 15,2%, зь іх праваслаўныя „палякі“ блізу 35 тысячаў — 3,4%.

Як паведамілі старажылы, у 30-я гады мясцовых жыхароў у дакумэнтах часам адносілі да *narodowości poleskiej* альбо да *narodowości cherwonoruskiej.*

У 1939 г. Берасьцейска-Пінскае Палесьсе ўвайшло ў склад СССР, асноўная частка яго ўвайшла ў склад БССР, частка ў склад УССР. Тады ж быў праведзены перапіс, пра які людзі згадвалі яшчэ ў 70-ых гадох. Гэта быў адзіны ў гісторыі рэгіёну перапіс, калі пры яго правядзеньні аб нацыянальнай прыналежнасьці пыталіся канкрэтна кожнага чалавека ці хоць бы галаву сям’і. Як паведамляюць старажылы, у асноўнай частцы Берасьцейска-Пінскага Палесься падчас гэтага перапісу шмат хто запісаўся беларусамі, шмат хто — украінцамі. Матар’ялы перапісу не апублікаваныя.

У 1941 г. рэгіён быў акупаваны нямецкімі войскамі. Большая яго частка адміністрацыйна ўлучаная ў склад Украіны. Карэннае насельніцтва запісанае ўкраінцамі.

У 1944 г. рэгіён вызвалены савецкім войскам. Першапачаткова ў пляне фіксацыі нацыянальнасьці існаваў свайго роду пераходны пэрыяд. У прыватнасьці, у вайсковых білетах заходнія „палешукі“ маглі значыцца ня толькі беларусамі, але і ўкраінцамі й рускімі. Да 1945-1946 гг. усталявалася такая сытуацыя, якая адлюстраваная ў наступных перапісах насельніцтва па Берасьцейскай вобласьці. Прыводзім дадзеныя гэтых перапісаў[13].

Перапіс 1959 г. Усяго насельніцтва 1190729 чалавек. Зь іх: беларусы 1024618 — 86,1%, рускія 87920 — 7,4%, палякі 42085 — 3,5%, украінцы 25649 — 2,2%.

Перапіс 1970 г. Усяго насельніцтва 1294550 чалавек. Зь іх: беларусы 1114706 — 86,1%, рускія 106047 — 8,2%, палякі 32491 — 2,5%, украінцы 31626 — 2,4%.

Перапіс 1979 г. Усяго насельніцтва 1359636 чалавек. Зь іх: беларусы 1150880 — 84,7%, рускія 124412 — 9,2%, украінцы 40557 — 3%, палякі 33903 — 2,5%.

Перапіс 1989 г. Усяго насельніцтва 1449002 чалавекі. Зь іх: беларусы 1199536 — 82,8%, рускія 145887 — 10,1%, украінцы 60644 — 4,2%, палякі 31674 — 2,2%.

Незалежна ад фіксацыі афіцыйнае нацыянальнасьці насельніцтва Берасьцейска-Пінскага Палесься, адбытыя там працэсы закранулі пытаньне нацыянальнае кансалідацыі ўсходнеславянскіх народаў. Працэсы гэтыя, аднак, былі даволі складаныя.

Берасьцейска-Пінскае Палесьсе зьяўлялася далёкай пэрыфэрыяй у дачыненьні першапачатковых асяродкаў кансалідацыі як беларускае нацыі (паўночны ўсход Беларусі, дзе рана замацаваўся назоў Белая Русь), так і нацыі ўкраінскае (колішняя Гетманская Ўкраіна, што была разьмешчаная ў асноўным на ўсход ад Дняпра). Таму як беларускія, так і ўкраінскія нацыянальныя ідэі ў параўнаньні зь іншымі беларускімі і ўкраінскімі землямі прыйшлі сюды вельмі запозьнена. Значна болей спрыяльнымі былі ўмовы для пашырэньня ў разгляданым рэгіёне расійскае нацыянальнае ідэі. Па-першае, Берасьцейска-Пінскае Палесьсе з канца XVIII ст. увахoдзіла ў склад Расіі. Па-другое, усюды лічылася агульнапрынятым, што рускія (вялікарусы, расійцы) — гэта асобная нацыя. У той час як адносна беларусаў ды ўкраінцаў быў пашыраны погляд, што гэта не асобныя нацыі, а этнаграфічныя групы рускіх або палякаў. Па-трэцяе, у апошнай чвэрці XIX ст. большая частка дзяцей у Берасьцейска-Пінскім Палесьсі наведвала школы й атрымала грамату, якая была ў расійскай мове. У 20-30-я гады XX ст., калі Берасьцейска-Пінскае Палесьсе ўваходзіла ў склад Польшчы, у школах расійская мова не выкладалася, ёю авалодвалі самастойна. Дзякуючы гэтаму шмат хто з заходніх „палешукоў", называючы сябе „руськымы" (рускімі), ужывалі гэты тэрмін ня толькі ў значэньні „ўсходнія славяне", але і ў значэньні „людзі, што належаць да рускае (расійскае, вялікарускае) нацыі". Расійскую нацыянальную самасьвядомасьць захоўвалі шмат хто з заходніх палешукоў, выяжджаючы ў іншыя краіны. Прыкладам, вельмі значны працэнт складаюць нашчадкі заходніх „палешукоў" сярод рускіх (расійцаў) Канады[14].

Праз увесь час у XIX—XX стст. у пляне нацыянальнае кансалідацыі ў разгляданым рэгіёне існавалі й існуюць беларуская, украінская і расійская тэндэнцыі. Да 1939 г. самай уплывовай спаміж іх зьяўлялася расійская тэндэнцыя.

Беларускія і ўкраінскія тэндэнцыі ў першай палове XIX ст. мелі сваю спэцыфіку. У гэтых тэндэнцыях захоўвалася нямала з часоў Рэчы Паспалітае й Вялікага княства Літоўскага, Рускага й Жамойцкага, калі значныя ўплывы йшлі ў Заходняе Палесьсе з паўднёвае Валыні, Галіччыны й Панямоньня. Відаць, таму невыпадкова ў 1857 г. значная частка жыхароў разгляданага рэгіёну запісаная ліцьвінамі.

Беларуская тэндэнцыя ў Берасьцейска-Пінскім Палесьсі ў другой палове XIX — першай трэці XX стст. была слабой, выключаючы яго паўночныя й паўночна-ўсходнія ўскраіны. Можна згадаць пашырэньне некаторых мастацкіх твораў беларускіх пісьменьнікаў[15]. Сытуацыя рэзка зьмянілася ў 1939 г., калі большая частка разгляданага рэгіёну ўвайшла ў склад БССР.

Украінская тэндэнцыя зь сярэдзіны XIX ст. пачала ўзрастаць. Асаблівы рост яе назіраўся ў 30-я гады XX ст. Шмат хто самастойна авалодваў украінскай граматай. Узьнікалі аматарскія ўкраінскія хоры і ўкраінскія драматычныя гурткі. Дарэчы, аўтар гэтых радкоў яшчэ каля 1950 году ў Дарагічынскім РДК глядзеў спэктакаль украінскага аўтара І.К.Карпенкі-Карага „Безталанная" ў выкананьні аматарскага гуртка аднае зь вёсак Дарагічыншчыны. Спэктакаль выконваўся ва ўкраінскай мове (праўда, назіраліся і мясцовыя дарагічынскія дыялектызмы). Рэзкі занепад украінскае тэндэнцыі настаў напрыканцы 50-х гадоў. Некалькі ажывілася яна напрыканцы 80-х — напачатку 90-х гадоў, калі ўзьніклі ўкраінскія таварыствы.

Беларуская тэндэнцыя зазнае пэўны заняпад у сувязі з вайной, затым у выніку пасьляваеннай кадравай палітыкі ўраду, а найболей у сувязі з палітыкай зьліцьця нацыяў і народнасьцяў СССР у адзіны савецкі народ. Істотна ўзрасла беларуская тэндэнцыя ў другой палове 80-х — пачатку 90-х гадоў у сувязі зь „перабудовай", утварэньнем Таварыства беларускае мовы, БНФ, атрыманьнем Беларусьсю незалежнасьці. Некаторая яе паслабленьне адбылося ў траўні 1995 г. пасьля рэфэрэндуму аб дзяржаўных мовах.

Расійская тэндэнцыя ў пляне нацыянальнае кансалідацыі берасьцейска-пінскіх „палешукоў" з 1939 г. і ў наступныя дзесяцігодзьдзі інтэнсыўна ўзрастала. Спрыялі гэтаму шэраг фактараў, характэрных для ўсіх рэспублікаў колішняга СССР (на іх ня буду спыняцца). Але спаміж іх ёсьць фактары спэцыфічна за-

ходнепалескія. Адзін зь іх — тое, што й раней шмат хто зь берасьцейска-палескіх „палешукоў“ лічылі сябе прадстаўнікамі рускае (расійскае, вялікарускае) нацыі (гл.вышэй). Была вельмі пашыраная думка, што беларусы і ўкраінцы зьяўляюцца толькі адгалінаваньнямі рускіх (расійцаў, вялікарусаў), а не самастойнымі нацыямі, а беларуская і ўкраінская літаратурныя мовы — гэта пісьмова-літаратурныя моўныя сыстэмы накшталт літаратурных мікрамоваў[16]. Другі фактар — укараненьне погляду аб моўным супрацьпастаўленьні горада й вёскі: расійская мова — сродак зносінаў у горадзе ці гарадзкім пасёлку, мясцовыя гаворкі, беларуская ці ўкраінская літаратурныя мовы — сродак зносінаў у вёсках.

Паміж тым, раней у гарадох і мястэчках Берасьцейска-Пінскага Палесься мясцовыя гаворкі бытавалі даволі шырока. Мясцовае хрысьціянскае насельніцтва заходнепалескіх гарадоў і мястэчак звычайна гаварыла ў мясцовых гаворках. Сярод мясцовых берасьцейска-пінскіх „палешукоў“ у 50-я гады XX ст. расійскамоўныя складалі: у гг. Берасьці й Пінску каля паловы, у гг. Кобрыні і Высокім блізу чвэрці, у астатніх гарадзкіх паселішчах (пераважна пасёлкі гарадзкога тыпу) — менш за 10%. Мясцовыя гэбраі, якія да Другой сусьветнай вайны складалі высокі працэнт гарадзкога й местачковага насельніцтва, у большасьці з маленства зьяўляліся білінгвамі — яны свабодна гаварылі і ў мове ідыш, і ў мясцовай палескай гаворцы. Моўнае абрусеньне значнае часткі мясцовых жыхароў Берасьця, Пінска, Кобрыня, Высокага адбылося яшчэ ў часы ўваходжаньня Берасьцейска-Пінскага Палесься ў склад Расіі. Наступны і ўжо паўсюдны працэс моўнага абрусеньня гарадоў і пасёлкаў гарадзкога тыпу ў Берасьцейска-Пінскім Палесьсі пачаўся ў 60-я гады XX ст. Тады паўсюдна ў гарадох і іншых гарадзкіх паселішчах створаныя дзіцячыя садкі. У садкох дзяцей з раньняга маленства прывучалі гаварыць па-расійску. Шмат хто з бацькоў-гараджанаў са сваімі дзецьмі імкнуўся гаварыць толькі па-расійску.

Вёска ж паўсюдна гаварыла ў мясцовай гаворцы. У пасьляваенныя гады ў заходнепалескіх вёсках пасялілася нямала выхадцаў з усходняе Беларусі й Расіі. Гэта былі пераважна прадстаўнікі інтэлігенцыі (настаўнікі й інш.). Іх дзеці, як правіла, гаварылі ўжо ў мясцовых палескіх гаворках.

Пачынаючы з 1985 г. і пазьней расійская тэндэнцыя ў працэсе нацыянальнае кансалідацыі берасьцейска-пінскіх „палешукоў“ узмацнілася. Выражаецца гэта ў першую чаргу ў тым, што ўсё большы й большы лік бацькоў, а таксама дзядоў і бабуль са сваімі дзецьмі ці ўнукамі імкнецца гаварыць толькі па-расійску. Гэты працэс пашырыўся й на вёску[17].

Сельскае насельніцтва Берасьцейскае вобласьці ў 1989 г. складала 43,5%. Працэнт гэты ўвесь час паніжаецца. Шмат якія вёскі абязьлюдзелі. У іх жывуць пераважна пэнсіянэры. Дзяцей там мала. На лета ў гэтыя вёскі прыяжджае шмат дзяцей з гораду. Працэс гэты неадназначны. У адных выпадках гарадзкія дзеці засвойваюць мясцовую гаворку, у іншых — вясковыя дзеці пераймаюць гутарковую гарадзкую расійскую мову.

Аб больш інтэнсыўным працэсе пераходу карэннага насельніцтва на расійскую мову на асноўнай тэрыторыі Берасьцейска-Пінскага Палесься, чымся ў астатняй частцы Берасьцейскае вобласьці сьведчаць дадзеныя перапісу насельніцтва 1989 г.[18] Так, паводле гэтага перапісу, у 1989 г. у гарадох і пасёлках гарадзкога тыпу ў межах усяе Берасьцейскае вобласьці беларусы складалі 76,2%, у тым ліку ў зоне берасьцейска-пінскіх гаворак 75,7%, на астатняй тэрыторыі вобласьці 77,3%. Розьніца, як бачым, невялікая. Сярод гарадзкіх беларусаў, паводле перапісу 1989 г., расійская мова зьяўляецца роднай: па вобласьці 31,9%, у зоне берасьцейска-пінскіх гаворак 39,4%, на астатняй тэрыторыі вобласьці 17,9%.

Прыводзім дадзеныя па ўсіх гарадох і пасёлках гарадзкога тыпу.

I. Зона пашырэньня берасьцейска-пінскіх гаворак: Лагішын (Пінскі раён) 5,3%, Столін 6,2%, Рэчыца (Столінскі раён) 9,6%, Маларыта 14,4%, Дарагічын 16,3%, Іванава (Янаў) 18,9%, Белаазёрск (Бярозаўскі раён) 21,4%, Бяроза 29,3%, Камянец 33,9%, Кобрынь 36,2%, Жабінка 38,4%, Пінск 39,69%, Высокае (Камянецкі раён) 39,7%, Дамачова (Берасьцейскі раён) 40,2%, Антопаль (Дарагічынскі раён) 40,8%, Берасьце 49,5%.

II. Астатняя тэрыторыя вобласьці: Гарадзішча (Баранавіцкі раён) 1,5%, Косава (Івацэвіцкі раён) 1,6%, Ляхавічы 2,6%, Давыд-Гарадок 3,4%, Шарашова (Пружанскі раён) 4,2%, Ганцавічы 5,9%, Ружаны (Пружанскі раён) 6,9%, Целяханы (Івацэвіцкі раён) 10,5%, Мікашэвічы (Лунінецкі раён) 14,9%, Івацэвічы 18,6%,

Лунінец 20,9%, Баранавічы 21,1%, Пружаны 24,9%.

У сувязі з працэсам пашырэньня расійскае мовы часам у гутарках з прадстаўнікамі мясцовае інтэлігенцыі закраналася пытаньне: ці можа ў Берасьцейска-Пінскім Палесьсі ўтварыцца расійскамоўны масіў? Да сярэдзіны 80-х гадоў часта адказвалі так: „Ня толькі Берасьцейшчына, але і ўся Беларусь, і большая частка Ўкраіны стануць расійскамоўнымі“. Цяпер можна пачуць думку, што такі масіў утварыцца можа. Аўтар гэтых радкоў не выключае такой магчымасьці. Аналягічны прыклад знаходзім у Летуве, дзе на тэрыторыі паўночнага захаду сучаснага Віленскага раёну й прылеглых раёнаў Троцкага, Сьвянцянскага, Шырвінцкага ўтварыўся польскамоўны масіў[19]. Фармаваньне яго зьвязанае галоўным чынам не зь перасяленьнямі з этнічнае Польшчы, а зь пераходам на польскую мову летувіскага й беларускага насельніцтва.

Апроч беларускае, украінскае й расійскае тэндэнцыі ў працэсе нацыянальнае кансалідацыі насельніцтва Берасьцейска-Пінскага Палесься адзначым яшчэ тэндэнцыю „палескую“. Зьвернем увагу таксама на тэндэнцыю пераходнага этнанацыянальнага характару, якую ўмоўна назавём „тэндэнцыяй адраджэньня сярэднявечных плямёнаў“.

Сутнасьць „палескае“ тэндэнцыі палягае ў тым, што, згодна зь ёй, карэннае насельніцтва асноўнае часткі басэйну Прыпяці й асноўнай часткі басэйну Заходняга Бугу лічыцца асобнай нацыяй (а не этнічнай групай ці некалькімі этнічнымі групамі). Яскравай праявай „палескае“ тэндэнцыі зьяўляецца ўтварэньне ў 1988 г. грамадзка-культурнага аб'яднаньня „Поліська“.

Спаміж прычынаў, якія выклікалі акрэсьленае афармленьне „палескае“ тэндэнцыі, адной з найбольш істотных, на нашую думку, зьяўляецца наступная. Як вядома, шэраг дзесяцігодзьдзяў асноўная частка беларусаў і ўкраінцаў была моцна паражаная такой грамадзкай хваробай, як нацыянальны нігілізм. Апошні стымулюе адмаўленьне ад асноўных атрыбутаў свайго народу — яго мовы, культуры й інш. Што азначала для берасьцейска-пінскіх „палешукоў“ зьліцьцё з тымі этнасамі, якія самі сабе рыхтавалі зьнікненьне, паміраньне? Безумоўна, нічога аптымістычнага. Ратунак бачыўся ў тым, каб кансалідавацца ў асобную нацыю.

Існавала ў Берасьцейска-Пінскім Палесьсі й так званая тэндэнцыя „адраджэньня сярэднявечных плямёнаў“. Людзі, што нарадзіліся ў канцы XIX і самым пачатку XX стст. і ў свой час скончылі хоць бы тры клясы расійскае школы, звычайна сьцьвярджалі: „Мы — драўляне“. У заходняй частцы рэгіёну маглі зваць сябе бужанамі. Ад настаўніка, які да рэвалюцыі скончыў настаўніцкую сэмінарыю ў Таракані, я чуў такое: „У нас звычайна сьцьвярджаюць, што мы — драўляне; але калі я вучыўся ў сэмінарыі, дык нярэдка спрачаліся: ці мы драўляне, ці яцьвягі, а можа нават бужане“. Людзі больш сталага ўзросту, якія скончылі 1—2 клясы або былі непісьменныя, плямённымі назвамі сваю этнічную прыналежнасьць не абазначалі. Відавочна, тэндэнцыя „адраджэньня сярэднявечных плямёнаў“ узьнікла ў асяродзьдзі інтэлігенцыі, была пашыраная сярод настаўнікаў, якія затым пашырылі яе сярод вучняў.

Сама ж „плямённая“ ідэя ўзьнікла раней. Аб гэтым яскрава сьведчаць дадзеныя перапісу 1857 г.[20] Згодна зь ім, на тэрыторыі Правабярэжнае Ўкраіны й Беларусі да групаў насельніцтва, якія абазначаныя сярэднявечнымі плямённымі этнонімамі, аднесена 478666 чалавек. Сярод іх: драўляне 196900, паляне 108453, бужане 80840, яцьвягі 30927, крывічы 30016, харваты 17228, дулебы 12904, ціверцы і ўглічы 8398.

Перапіс 1857 г. праводзілі сьвятары ў сваіх парафіях. „Перапісныя лісты“ яны зазвычай запаўнялі самі, без апытваньня людзей. Сьвятары ў той час зьяўляліся асноўнай групай тагачаснай мясцовай інтэлігенцыі, школаў і адпаведна настаўнікаў тады было яшчэ мала. Перапіс 1857 г. не адлюстроўвае этнічнага складу насельніцтва. Тым жа часам ён у нейкай меры адлюстроўвае характар нацыянальнае арыентацыі мясцовае інтэлігенцыі таго часу. Таму прыводзім некаторыя дадзеныя гэтага перапісу па 4-х паветах, якія ўключалі Берасьцейска-Пінскае Палесьсе.

Сьвятары, якія аднесьлі сваіх парафіянаў да беларусаў ці ліцьвінаў, відаць, трымаліся пераважна беларускае арыентацыі. Паводле перапісу 1857 г. беларусы складалі: у Пінскім павеце 88,9%[21], у Кобрыньскім 3,2%, у Брэст-Літоўскім 1,4%, у Пружанскім павеце не адзначаныя; адпаведна ліцьвіны: у Пружанскім павеце 42,7%, у Брэст-Літоўскім 20,2%,

у Пінскім 5,5%, Кобрыньскім 0,7%.

Сьвятары, якія аднесьлі сваіх парафіянаў да маларасіянаў, відаць, пераважна трымаліся ўкраінскае арыентацыі. Паводле перапісу 1857 г., маларасіяне складалі: у Пружанскім павеце 46,8%, у Кобрыньскім 40,2, у Брэст-Літоўскім 36,8%, у Пінскім павеце не адзначаныя.

Сьвятары, якія аднесьлі сваіх парафіянаў да вялікарасіянаў, відаць, трымаліся расійскае арыентацыі. Вялікарасіяне, паводле перапісу 1857 г., складалі: у Брэст-Літоўскім павеце 28,6%, у Кобрыньскім 21,5%, у Пружанскім 0,5%, у Пінскім павеце не адзначаныя.

Сьвятары, якія аднесьлі сваіх парафіянаў да яцьвягаў ці бужанаў, відаць, трымаліся арыентацыі „адраджэньня сярэднявечных плямёнаў". Яцьвягі, паводле перапісу 1857 г., складалі: у Кобрыньскім павеце 27,6%, у Брэст-Літоўскім 1,9%; адпаведна бужане: у Брэст-Літоўскім павеце 5,1%, у Кобрыньскім 1,3%. Яцьвягі адзначаныя вельмі кампактна ў цэнтры й на захадзе сучаснага Кобрыньскага раёну і ў прылеглых мясцовасьцях Жабінкаўскага й Маларыцкага раёнаў[22].

Зноў зьвернемся да праблемаў этнічнае самасьвядомасьці. Этнічная самасьвядомасьць берасьцейска-пінскіх „палешукоў" у прынцыпе традыцыйна захоўваецца ранейшай. Застаецца даволі акрэсьленая самасьвядомасьць прыналежнасьці да ўсходніх славянаў і да берасьцейска-пінскае этнічнае групы. Бывае, што ў аднаго брата акрэсьленая беларуская самасьвядомасьць, другі заве сябе беларусам, але лічыць, што беларусы — гэта этнаграфічная група рускіх (расейцаў), трэйці трымаецца ўкраінскае нацыянальнае арыентацыі, чацьверты — „палескай". Бывае, што адна сястра жыве ў вёсцы й гаворыць толькі ў мясцовай гаворцы, другая жыве ў горадзе і гаворыць як па-расійску, так і ў мясцовай гаворцы, трэцяя гаворыць толькі па-расійску. Усе яны розныя па нацыянальнай і моўнай арыентацыі. Але ўсіх іх зьядноўвае самасьвядомасьць прыналежнасьці да берасьцейска-пінскае этнаграфічнае групы й да ўсходніх славянаў.

Пасьля 1939 г. адбыліся пэўныя зьмены ў саманазове берасьцейска-пінскіх палешукоў. Калі да 1939 г. этнонім „беларусы" ў якасьці саманазову быў малаўжывальны, дык цяпер ён ужываецца вельмі шырока (паралельна з этнонімам „рускія").

У Берасьцейска-Пінскім Палесьсі ў пляне валоданьня пісьмова-літаратурнымі мовамі існаваў своеасаблівы білінгвізм ці полілінгвізм — уменьне чытаць у дзьвюх ці некалькіх мовах. Аўтар гэтых радкоў перш чым паступіць у першую клясу ўмеў чытаць на чатырох мовах — расійскай, беларускай, украінскай і польскай. Прыкладна зь сярэдзіны 30-х гадоў бацькі перасталі вучыць сваіх дзяцей па-польску, а прыкладна зь сярэдзіны 50-х гадоў — і па-ўкраінску. А ў даўнейшыя часы шмат хто ўмеў чытаць па-царкоўнаславянску, а некаторыя ў так званай „старадаўнай кніжнай рускай мове". „Старадаўнай кніжнай рускай мовай" звалі пісьмовыя сыстэмы, якія навукоўцы зазвычай завуць „старабеларуская мова" й „стараўкраінская мова".

Зьвернем таксама ўвагу на адну моўнадыялектную сыстэму, якая існуе ў разгляданым рэгіёне, — на заходнепалескае кайнэ. Як вядома, людзі гавораць „чыста" ў сваёй гаворцы ў сваёй вёсцы ці мястэчку. Але ж штодзённа існавалі й існуць кантакты паміж жыхарамі розных вёсак, воласьцяў, паветаў і г.д. У адных выпадках пры такіх кантактах кожны гаворыць у сваёй гаворцы. У іншых выпадках чалавек сваю гаворку трохі мяняе, „прыцірае" да гаворкі суразмоўцы. Так на працягу шмат якіх пакаленьняў выпрацоўваліся пэўныя нормы маўленьня пры кантактах прадстаўнікоў роднасных гаворак. Гэта — кайнэ. Яно ўяўляе менш стройную сыстэму, чымся сыстэма якое-небудзь аднае гаворкі, у ім ёсьць шмат варыянтаў. На грунце кайнэ звычайна фармуюцца літаратурныя мовы ці мікрамовы.

Апроч праваслаўных, спаміж берасьцейска-пінскіх „палешукоў" ёсьць невялікая група каталікоў. Так, у 1897 г. у Брэст-Літоўскім, Кобрыньскім, Пружанскім і Пінскім паветах, паводле перапісу насельніцтва, налічвалася 20031 чалавек рымска-каталіцкага веравызнаньня, мова якіх беларуская, маларуская (украінская) або вялікаруская (руская). Па этнанацыянальнай самасьвядомасьці частка іх ня розьніцца ад праваслаўных, для іншых характэрная акрэсьленая польская самасьвядомасьць, у некаторых самасьвядомасьць пераходная, польска-ўсходнеславянская.

Такім чынам, у этнанацыянальнай самасьвядомасьці карэнных жыхароў Берасьцейска-Пінскага Палесься выдзяляюцца наступныя пласты.

I. Этнічная самасьвядомасьць. Яна ха-

рактарызуецца вялікай трываласьцю. Сваю этнічную прыналежнасьць берасьцейска-пінскія „палешукі" найбольш пасьлядоўна вызначаюць як „належачыя да ўсходніх славянаў" і „належачыя да адмысловай, берасьцейска-пінскай этнічнае групы".

II. Нацыянальная самасьвядомасьць. Гэтая зьява больш позьняя, чымся самасьвядомасьць этнічная. Працягам апошняга стагодзьдзя істотна мянялася. Працэс яе фармаваньня яшчэ далёкі да поўнага заканчэньня. У пэўнай часткі прадстаўнікоў разгляданай этнічнай групы яна ўвогуле адсутнічае[23]. Гэтай частцы берасьцейцаў-пінчукоў характэрная толькі этнічная самасьвядомасьць.

Для нацыянальнае самасьвядомасьці тае часткі карэнных жыхароў Берасьцейска-Пінскага Палесься, якіх закранулі працэсы нацыянальнае кансалідацыі, найбольш характэрныя наступныя тэндэнцыі: 1) беларуская, 2) расійская, 3) украінская, 4) „палеская", 5) для значнай часткі каталікоў характэрная яшчэ польская тэндэнцыя.

III. Афіцыйная нацыянальная прыналежнасьць. Пачынаючы з 1945 г. абсалютная большасьць берасьцейска-пінскіх „палешукоў" афіцыйна рэгіструюцца як беларусы. З сярэдзіны XX ст. і да 1945 г. нацыянальную (плямённую) прыналежнасьць асноўнае часткі асобаў, якія належаць да берасьцейска-пінскае этнаграфічнае групы, на працягу іх жыцьця мянялі неаднаразова. Іх адносілі да беларусаў, украінцаў (маларасіянаў, малярусаў, русінаў), тутэйшых, рускіх (вялікарасіянаў, расіянаў), палякаў, яцьвягаў, бужанаў.

Тэндэнцыя „адраджэньня сярэднявечных плямёнаў" мае пераходны этнічнанацыянальны характар.

На заканчэньне адзначым, што аўтар гэтых радкоў разглядае тыя ці іншыя пастаўленыя ў артыкуле праблемы ў шэрагу іншых публікацыяў[24].

[1] Клімчук Ф.Д. Гаворкі Заходняга Палесся. Фанетычны нарыс.Менск: Навука і тэхніка, 1983.

[2] Цітоў В.С. Народная спадчына. Гістарычныя шляхі і этнаграфічныя стасункі. Менск: Навука і тэхніка, 1994. С.9, 286—294.

[3] Лебедкин М. О племенном составе народонаселения Западного края Российской империи // Записки императорского русского географического общества. СПб, 1961, кн.3. С.131—160.

[4] Бобровский П.О. Гродненская губерния // Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами генерального штаба. СПб, 1863, ч.I. С.622—628. Зеленин И. Минская губерния // Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами генерального штаба. СПб, 1864, ч.I. С.409—411. Риттих А.Ф., Батюшков П.Н. Атлас народонаселения Западно-Русского края по исповеданиям. СПб, 1964. Гродненская и Минская губернии. Коялович М.О. Tableau statistique des nationalites de la Russie occidentale et des pays Limitrophes en Pologne et en Galicie // Документы, объясняющие историю Западно-Русского края и его отношения к России и Польше. СПб, 1865.

[5] Риттих А.Ф. Племенной состав контингентов русской армии и мужского населения Европейской России. СПб, 1875. С.155—156.

[6] Первая всеобщая перепись населения Российской империи 1897 г. XI. Гродненская губерния. С.114—117, 130—137. XXII. Минская губерния. С.104—107. СПб, 1904.

[7] Wakar W. Rozwój terytoryalny narodowości polskiej // Statystyka narodowościowa kresów wschodnich, cz.III. Kielce, 1917. S.19—29.

[8] Брук С.И., Кабузан В.М. Динамика и этнический состав населения России в эпоху империализма (конец XIX в. — 1917 г.) // История СССР, 1980, N 3. С.91—92.

[9] Вісник Холмського губерніяльного Староства. 1918, №6.

[10] Studnicki W. Zarys statystyczno-ekonomiczny ziem północno-wschodnich. Wilno, 1922. S.134,137.

[11] Skorowidz miejscowości Rzeczpospolitej Polskiej, opracowany na podstawie wyników pierwszego powszechnego spisu ludności z dn 30 września 1921 r. i innych źródel urzędowych. Tom VIII. Województwo Poleskie. Warszawa, 1924.

[12] Drugi powszechny spis ludności z dn. 9.XII.1931. // Statystyka Polski, seria C, zeszyt 87. Województwo Poleskie. Warszawa, 1938.

[13] Итоги Всесоюзной переписи населения 1959 года. Белорусская ССР. Москва: Госиздат ЦСУ СССР, 1963. С.126. (—) Итоги Всесоюзной переписи населения 1970 года. IV том. Национальный состав населения СССР. Москва: Статистика, 1973. С.196. (—) Численность и состав населения СССР. По данным Всесоюзной переписи населения 1979 года. Москва: Финансы и статистика, 1985. С.108. (—) Национальный состав населения СССР. По данным Всесоюзной переписи населения 1989 г. Москва: Финансы и статистика, 1991. С.88.

[14] Окулевич Г. Русские в Канаде. История русских рабоче-фермерских клубов им.М.Горького (1930—1940) и Федерации русских канадцев (1941—1952). Торонто, 1952.

[15] Так, у Берасьцейска-Пінскім Палесьсі былі вядомыя творы Максіма Багдановіча.

[16] Дуличенко А.Д. Славянские литературные микроязыки. Вопросы формирования и развития. Таллинн: Валгус, 1981.

[17] У вёсцы Гарадзец Кобрыньскага раёну дзеці гутарылі паміж сабою па-расійску ўжо ў 60-я гады.

[18] Численность, возрастная структура, состояние в браке, число и размер семей, национальный состав, уровень образования и источники средств существования населения Брестской области. По данным Всесоюзной переписи 1989 г. Брест, 1991. С.203—227.

[19] Turska H. O powstaniu polskich obszarów językowych w Wilenszczyźnie. Wilno, 1939.

Вярэніч В.Л. Польскія перыферыйныя гаворкі на ўсходзе // Польские говоры в СССР. Часть I. Мн., 1973. С.6, 13.

[20] Лебедкин М. О племенном составе... С.142, 144—145.

[21] У дачыненьні агульнага ліку праваслаўнага й рымска-каталіцкага насельніцтва.

[22] Архіў АН Расіі. Ф.30. Воп.2. Сп.17. (1857—1860).

[23] Прыводзім гутарку, якая адлюстроўвае адзначаны тып самасьвядомасьці. На запытаньне аб нацыянальнасьці жанчына адказвае: „А я ня ведаю, як я там запісана". Потым зьвяртаецца да мужа: „Сяргей, якой нацыянальнасьці нас цяпер пішуць?" Муж адказвае: „А ў цябе ж у пашпарце запісана!" Жонка на гэта: „А я не чытала". Далей ідзе гутарка: „А ты паглядзі!" — „Мне цяпер няма калі, ты свабаднейшы, дастань пашпарты!" — „Я-то чытаў, але лішні раз не пашкодзіць паглядзець. Ведаеце, я яшчэ пры Польшчы пачынаў сваё жыцьцё. Дык ня раз мянялі гэтую нацыянальнасьць, то так пісалі, то так, як каму трэба было, так і пісалі" — „Я вось добра ведаю, што мы праваслаўныя, што мы руські, а не палякі, што тут нашы людзі, па-нашаму гавораць, у нашых вёсках, тут у нашых раёнах. А нацыянальнасьць? Мне ў галаве мая бульба ды карова, а не нацыянальнасьць".

[24] Климчук Ф.Д. О разновидностях билингвизма и полилингвизма (на материале южных районов Брестской области) // Проблемы двуязычия и многоязычия. М.: Наука, 1972. С.268—274. Яго ж: Этногеографические представления полешуков (Западное Полесье до 1939 г.) // Полесье и этногенез славян. Предварительные материалы и тезисы конференции. М.: Наука, 1983. С.39—41. Яго ж: Географическая проекция внутренней формы названия „Полесье" // Региональные особенности восточнославянских языков, литератур, фольклора и методы их изучения. Тезисы докладов и сообщений III республиканской конференции. Часть I. Гомель, 1985. С.93—96. Яго ж: Некаторыя моўныя праблемы Палесся // Јетвјежа (Поліська) штудіјно-прахтыцька конфырэнция. Тэзы проказэі (13—14 априля 1990 р.). Пынськ, 1990. С.6—10. Яго ж: Этнос и перепись: парадоксы статистики // Ожог родного очага. М.: Прогресс, 1990. С.92—106. Яго ж: Этническая структура населения Брестской области (к вопросу о „скрытых" этносах) // Международный симпозиум „Право и этнос". Материалы для обсуждения. Голицино. 1—5 октября 1991 г. М., 1991. С.150—160. Яго ж: Феномен Брэсцка-Пінскага Палесся // Чырвоная змена. 18—24 мая 1992, N 21 (13553). С.9. Яго ж: Заходняе Палессе — дыялектны ландшафт (інтэрвію Л.Баршчэўскай) // Наша слова. 3 лістапада 1993, №44 (152). С.3. Яго ж: Этнас, нацыя, самасвядомасць // Тэматычны зборнік. Беларусістыка. Незалежнасць Беларусі: актуальныя праблемы — шляхі іх вырашэння. Матэрыялы навуковай сесіі Аддзялення гуманітарных навук. Беларусь: шляхі абнаўлення і развіцця, 3—4 лістапада 1993 г. Мн., 1994. С.260—262.

*Валер КАЛІНОЎСКІ*

# *Этнаграфічная спэцыфіка пяцідзясятніцкае вёскі на Берасьцейшчыне*

Згодна са зьвесткамі Савету па справах рэлігіяў пры Саўміне Беларусі з 261 існуючых на 1.01.1995 г. ў Беларусі абшчынаў хрысьціянаў веры эвангельскае (ХВЭ або пяцідзясятнікаў), у Берасьцейскай вобласьці зарэгістравана 87, Віцебскай — 19, Гомельскай — 27, Гарадзенскай — 24, Менскай — 74, Магілёўскай — 17. Калі ў Магілеўскай, Вітэбскай абласьцях практычна ўсе наяўныя абшчыны разьмешчаныя ў гарадох, райцэнтрах, прамысловых мястэчках, калі такая ж сытуацыя характэрная і для большай часткі Гарадзенскае, Гомельскае і Менскае абласьцей за выключэньнем раёнаў Салігорскага, Нясьвіскага, Жыткавіцкага, Наваградзкага (г.зн. раёнаў, што непасрэдна прылягаюць да Берасьцейскае вобласьці), то для Берасьцейшчыны характэрная якраз перавага вясковых пяцідзясятніцкіх абшчынаў. Асабліва ў раёнах Пінскім, Столінскім, Берасьцейскім, Баранавіцкім. Гэта сьведчыць, што фэномэн пяцідзясятніцкае вясковае абшчыны ў Беларусі найбольш характэрны для Берасьцейшчыны і прылеглых да яе раёнаў, якія ў пэўным сэнсе можна разглядаць як мясьціны найбольш актыўнага ўзьдзеяньня місіянэрскага патэнцыялу пяцідзясятнікаў з Палесься.

Чаму пяцідзясятніцкая вёска азначаецца як фэномэн? Як вядома, вёска, вясковыя жыхары да гэтага часу зьяўляюцца захавальнікамі этнічнае культуры, горад — зазвычай касмапалітычны, асабліва гэта відаць на прыкладзе Беларусі. А вось пяцідзясятніцтва разам з баптызмам, якія вельмі сур’ёзна пашыраныя на Палесьсі, уносяць кардынальныя зьмены ў традыцыйную культуру вёсак і ў пэўным сэнсе гэта выклікае занепакоенасьць лёсам тутэйшае традыцыйнае культуры. Тут важна ўлічыць таксама працэс зблiжэньня баптысцкіх абшчынаў зь пяцідзясятніцкімі праз прызнаньне вернікамі-баптыстамі новых, раней невядомых ім формаў служэньня, што ажыцьцяўляюцца праз Хрышчэньне Духам Сьвятым і т.зв. „гласаліі“, дары прароцтва і інш. Гэты працэс у вясковых баптысцкіх абшчынах, у адрозьненьне ад гарадзкіх, ідзе пераважна ўнутры, без разьмежаваньня. Да прыкладу, у абшчыне в.Кравіеўка Іванаўскага раёну жывуць разам пяцідзясятнікі й баптысты, першых болей як другіх, але абшчына па традыцыі лічыцца баптысцкай, прэсьвітар — пяцідзясятнік, дыякан — баптыст, у царкоўнай радзе большасьць баптысты. У пэўным сэнсе можна казаць аб пераходзе баптыстаў у пяцідзясятнікі як аб рэальнай тэндэнцыі.

Фэномэн пяцідзясятнікаў бачыцца яшчэ і ў тым, што шмат у якіх вёсках пачатак служэньня і існаваньня абшчынаў належыць да 20-30-х гадоў гэтага стагодзьдзя. Гэта значыць, што вернікамі-пяцідзясятнікамі робіцца ўжо 4-5 пакаленьне, напрацаваныя традыцыі, абшчыны перажылі шматлікія выпрабаваньні й выжылі. Такім чынам, пяцідзясятніцтва можна разглядаць як ужо традыцыйную рэлігію для гэтых вёсак і для палескага рэгіёну ў цэлым. Іншай веры й культуры веруючая моладзь папросту ня ведае. Да прыкладу, пяцідзясятніцкая абшчына ў вёсцы Добрае Маларыцкага раёну йснуе з 1923 году, яе пачатак паклаў Сьцяпан Міхайлавіч Ярмалюк, які прывёз новую веру з Амэрыкі. У вёсцы Галоўчыцы Дарагічынскага раёну абшчына йснуе з 1925 г.

20-30-я гады вядомыя як пераходны пэрыяд ад патрыярхальнага жыцьця да сучаснае цывілізацыі, калі вёска перажывала вельмі адчувальную ломку стэрэатыпаў, калі губляліся старыя арыентыры. Традыцыйная культура і духовасьць губляла сваё абсалютнае значэньне. У гэтых

умовах узьнік, да прыкладу, вельмі арыгінальны і нават экзатычны рэлігійны рух прарока Ільлі зь Вершаліна, апісаны беларускім пісьменьнікам А.Карпюком і польскім дасьледчыкам У.Паўлючыкам. Масавае прызнаньне дзейнасьці псэўдапрарока Ільлі (нешта падобнае да цяперашняга руху Белага Брацтва) Уладзімеж Паўлючык тлумачыў менавіта крызысам традыцыйнае культуры. Таму, відаць, лягічней было б дапусьціць разуменьне ўзьнікненьня й разьвіцьця баптызму й пяцідзясятніцтва на Палесьсі як вынік крызысу традыцыйнае культуры, а не лічыць наадварот. Тым ня менш відавочна, што ў пяцідзясятніцкіх вёсках адбылося адмаўленьне ад векавых традыцыяў, каляндарнае абрадавасьці, рэштак язычніцкіх вераваньняў, знахарства і г.д. Г.зн., што адбылася тым самым зьмена этнічна-канфэсійнае спэцыфікі вернікаў. Гаворка ня толькі пра тое, што ў свой час паліліся іконы, забываліся рэлігійныя сьвяты, што ня згадваюцца ў Эвангельлі, праваслаўныя сьвятыя й сам крыж як сакральны аб'ект. Але адмаўляўся й вялікі пласт традыцыйнае народнае культуры. Паводле выказваньняў інфарматараў у Добрым і іншых пяцідзясятніцкіх палескіх вёсках, вясельле, радзіны, пахаваньне і г.д. спраўляюць тут даўно ўжо па новых, эвангельскіх, традыцыях. Агульна кажучы, вясельле праходзіць без каравая, пахаваньне — без надмагільнага крыжа. Няма інстытута кумаўства, хрышчэньне адбываецца ўжо ў сьвядомым узросьце чалавека. Пры пахаваньні адмянілі галашэньні, дзевяціны, сарачыны й г.д. Каляндарна-абрадавыя народныя песьні, а таксама лірычныя, грамадзянскія замененыя рэлігійнымі псальмамі й сьпевамі. Пяцідзясятнікі, як і баптысты, будуюць сваё жыцьцё максымальна пасьлядоўна па Эвангельлі, і тыя рэшткі язычніцтва, якія дазваляла захаваць праваслаўе, яны рашуча пераадольваюць. Гэта ўвогуле галоўны прынцып пяцідзясятнікаў для пабудовы свайго жыцьця — адпаведнасьць яго зь Бібліяй. На гэтым заснаваныя нават абмежаваньні ў ежы — да прыкладу, нельга спажываць кроў жывёлаў і жывёлу, што задушылася. Разам з тым пяцідзясятнікі вельмі адмоўна ставяцца й да заганаў сучаснае цывілізацыі. Да гарэлкі, тытуню, разбэшчанасьці. Як сьведчыць інфарматар Ярмалюк Лідзія Фёдараўна, у пяцідзясятніцкіх вёсках ня танчаць, нават на вясельлі, не сьпяваюць ніякіх песьняў, апроч рэлігійных, і нават ня ведаюць іншых (бо не навучыліся). Раней, у эпоху антырэлігійнае прапаганды, пяцідзясятнікі зусім не карысталіся тэлевізарамі. Жанчыны не карыстаюцца касмэтыкай, аздобай і г.д.

Другой найбольш значнай спэцыфікай пяцідзясятніцкае вёскі зьяўляецца яе абшчыннасьць. Абшчына вельмі моцная, пабудаваная на агульнай веры, агульных богаслужэньнях і вясковым жыцьці, якое, як вядома, і без таго ў вялікай ступені абшчыннае. У абшчынах не дазваляюцца разводы, жонкі абавязкова слухаюць мужоў, а дзеці — бацькоў, называюць апошніх на „вы“. Выключэньне з абшчыны лічыцца найбольшым пакараньнем.

Выключыць могуць за няправільныя паводзіны, ненаведваньне служэньняў або за шлюб зь няверуючай. Апошняе амаль што аўтаматычна вядзе да выключэньня з членаў абшчыны. Увогуле пераважна пяцідзясятнікі, як і тыя ж баптысты, жэняцца са сваімі са сваёй абшчыны альбо зь іншае пяцідзясятніцкае абшчыны, утвараючы тым самым замкнёныя карпаратыўныя групы.

Моўная сытуацыя ў пяцідзясятніцкіх вёсках Берасьцейшчыны ў прынцыпе такая самая, як і ў іншых. Як сьведчаць інфарматары з Дарагічынскага, Іванаўскага, Маларыцкага раёнаў, у рэлігійным ужытку найболей шырока выкарыстоўваецца расейская мова, у побыце — тутэйшыя палескія дыялекты. Аднак трывалыя сувязі з аднаверцамі з суседняе Валыні прынесьлі таксама ў рэлігійны ўжытак нямала ўкраінскіх рэлігійных песьняў. Досьледы рукапісных зборнікаў рэлігійных песьняў, датаваных 50-60-мі гадамі (калі з друкаванай літаратурай было цяжка), што захоўваюцца цяпер у малітоўных дамох вёскі Добрае Маларыцкага і Новы Двор Пінскага раёнаў, сьведчаць, што каля 60% рэлігійных песьняў былі расійскамоўныя, каля 25% украінскамоўныя, каля 10% моцна набліжаныя да тутэйшага дыялекту, сустракаюцца таксама песьні на беларускай мове. Ніякая з гэтых моваў не выклікае ў вернікаў цяжкасьцяў, што служыць сур'ёзным падмуркам для шырокае місіянэрскае дзейнасьці пяцідзясятнікаў. Місіянэрская дзейнасьць больш характэрная для гарадзкіх абшчынаў.

Спэцыфіка пяцідзясятнікаў, адрозьненьне іх ад баптыстаў у прызнаньні новазапаветнага сашэсьця на апосталаў

Хрыста Сьвятога Духу як дзеяньня, якое магчымае й цяпер зь веруючымі людзьмі. Паводле Дзеяньняў апосталаў, апосталы загаварылі тады на розных мовах, раней ім невядомых, і пайшлі прапаведваць добрую вестку сярод розных народаў. Розныя „іншыя мовы“ сталі даступныя й сёньняшнім вернікам, што атрымалі хрышчэньне Духам Сьвятым. Гэта само па сабе ўжо ёсьць цудам і прызнаньне яго. Вераць пяцідзясятнікі і ў іншыя цуды, прароцтвы, выздараўленьні, якія твораць ім Дух Сьвяты пасьля руплівых малітваў. Вернікі часьцяком усёй абшчынай моляцца за збаўленьне ад хваробаў і бедаў якога-небудзь сябра сваёй абшчыны. Цудадзейная моц бачыцца ім у малітве. „Калі памолішся над ежай, дык яна робіцца карыснай, нават радыяцыя зьнікае“,— заявіў адзін зь інфарматараў. У малітвах веруючыя пяцідзясятнікі часта могуць зьведваць рэлігійны экстаз. Гэта зусім нармалёвая для іх зьява.

Такім чынам, можна зрабіць выснову, што пяцідзясятніцкія вёскі як фэномэн, што ўжо прынцыпова сфармаваўся на Берасьцейшчыне, сур'ёзна мяняюць этнакультурную спэцыфіку рэгіёна, узбагачаюць яе новымі аспэктамі, асабліва маральнымі хрысьціянскімі якасьцямі.

Прычым пяцідзясятнікі ня толькі разбураюць у сваіх вёсках традыцыйную культуру, але й зьберагаюць пэўныя яе адметнасьці, кансэрвуюць тую ж самую абшчыннасьць і патрыярхальныя стасункі ў сям'і.

*Павал ЦЕРАШКОВІЧ*

# *Палескі рэгіяналізм у сьвятле сацыялёгіі*

Сацыялягічнае дасьледаваньне, праведзенае ў жніўні-кастрычніку 1993 г. Беларускім інстытутам праблем культуры, істотна ўдакладняе ўяўленьні аб этнічнай самасьвядомасьці, этнакультурных і этналінгвістычных арыентацыях насельніцтва Палесься.

Дасьледаваньне было задумана такім чынам, каб высьветліць суадносіны афіцыйнай (пашпартнай) прыналежнасьці й рэальнай самасьвядомасьці жыхароў Палесься, прасачыць межы пашырэньня й ступень актыўнасьці агульнацыянальнай („беларускай“), рэгіянальнай („палескай“), лякальнай (адміністратыўна-тэрытарыяльнай) і мікралякальнай (вясковаабшчыннай) самасьвядомасьці.

З 1568 апытаных па пашпарце аказалася 94,4% беларусаў, 3,0% расійцаў, 1,8% украінцаў, 0,7% палякаў, 0,1% прадстаўнікоў іншых этнасаў. Гэта прыкладна адпавядае этнічнай структуры насельніцтва Палесься.

Аналіз вынікаў дасьледаваньня дазваляе сьцьвярджаць, што дамінуючай формай этнічнай мэнтальнасьці зьяўляецца агульнанацыянальная сьвядомасьць („беларусы“). Беларусамі сябе лічаць 89,7% усіх рэспандэнтаў, або 95,0% „пашпартных“ беларусаў. „Сьвядомых“ расійцаў крыху болей чым „пашпартных“ (адпаведна 3,1% і 3,0%), украінцаў жа (адпаведна 1,3% і 1,8%) і палякаў (0,6% і 0,7%) — наадварот, менш. Сярод „нятытульных“ формаў самасьвядомасьці зафіксаваны „палешукі“ (4,1% апытаных) і „яцьвягі“ (0,06% — 1 (адзін) чалавек!). Трэба адзначыць, што разыходжаньне рэальнай самасьвядомасьці й пашпартнай прыналежнасьці характэрна перш за ўсё для Заходняга Палесься. Ва Ўсходнім Палесьсі (Гомельская вобл.) „сьвядомых“ беларусаў крыху болей чым пашпартных (93,4% і 93,1% адпаведна), а ў Заходнім Палесьсі (Берасьцейская вобл.) — наадварот (87,1% і 95,3%).

Трэба канстатаваць, што „палеская“ самасьвядомасьць як агульнарэгіянальная форма адсутнічае. Большасьць выпадкаў атаясамленьня рэспандэнтамі сябе з „палешукамі“ прыпадае на Лунінецкі, Пінскі й Столінскі раёны (68,2% усіх апытаных „палешукоў“), у той час як рэспандэнты з гэтых раёнаў складаюць толькі 26,2% ад выбарачнай сукупнасьці. На астатняй тэрыторыі „палешукамі“ лічаць сябе адзінкі, а ў некаторых раёнах



**Жніво на Палесьсі.** Здымак пачатку XX ст.

Колькі-небудзь значнага пашырэньня рэгіянальнай (групавой) сьвядомасьці („палескай“ ці „яцьвяскай“) няма.

Спэцыфіка палескага насельніцтва выяўляецца ня ў сфэры мэнтальнасьці, а ў сфэры мовы. У праграму дасьледаваньня былі закладзены пытаньні аб пашырэньні беларускай, расійскай і іншых моваў, а таксама мясцовага дыялекту ў хатніх і сяброўскіх зносінах, на рабоце, у сфэры спажываньня культуры, моўных чаканьнях, у адукацыйнай сфэры, аб ідэнтыфікацыі з той ці іншай мовай у якасьці роднай.

яны ўвогуле не зафіксаваныя (напрыклад, у Ельскім). Разам з тым нават на тэрыторыі найвышэйшай канцэнтрацыі „палешукоў“ яны складаюць ня больш як 12% рэспандэнтаў. Таму этнонім „палешукі“ можна разглядаць толькі як вузка рэгіянальную форму самасьвядомасьці, характэрную для невялікай часткі насельніцтва.

У сувязі з гэтым трэба падкрэсьліць, што куды больш актуальнымі зьяўляюцца лякальныя (адміністратыўна-тэрытарыяльныя) формы самасьвядомасьці (напрыклад, „пінчукі“, „ляльчане“, „столінцы“, „петрыкоўцы“, „мазыране“ й г.д.), аб веданьні якіх паведаміла ад 34 да 37% рэспандэнтаў. Іх існаваньне трэба тлумачыць даўнай гістарычнай традыцыяй, а таксама сучасным адміністратыўна-тэрытарыяльным падзелам[1].

Гістарычныя формы сьвядомасьці (напрыклад „бужане“, „гідуны“, „загародцы“ й інш.), якія ня маюць дачыненьня да сучаснасьці, ужо амаль што забытыя — іх ведае толькі ад 1,5% да 2% рэспандэнтаў. Аналягічнае становішча склалася зь мікралякальнымі вяскова-абшчыннымі назвамі („глушкаўчане“, „яноўцы“, „бухлічане“, „магдалінцы“, „дзімамерцы“ й г.д.). Яшчэ радзей сустракаюцца рэшткі сацыяльнасаслоўнай этнаніміі („сяляне“, „шляхта“, „мяшчане“). Падкрэсьлім, што лякальныя й мікралякальныя формы сьвядомасьці існуюць паралельна з агульнанацыянальнай і не пярэчаць ёй.

Відавочна, што агульнанацыянальная форма самасьвядомасьці „беларусы“ зьяўляецца адзінай характэрнай для абсалютнай большасьці насельніцтва Палесься формай самаідэнтыфікацыі.

Відавочна, што мясцовыя дыялекты яўна дамінуюць у хатнім ужытку (імі карыстаецца 68,9% рэспандэнтаў) і ў зносінах зь сябрамі (61,6%). Пры гэтым у Заходнім Палесьсі гэты паказчык вышэйшы (75,2% і 66,9% адпаведна) за Ўсходняе (59,6% і 53,9%). На рабоце мясцовымі дыялектамі карыстаецца ўжо меншая доля рэспандэнтаў — 39,5%. Трэба падкрэсьліць, што пад мясцовымі дыялектамі апытаныя разумеюць перш за ўсё гаворку сваёй мясцовасьці, вёскі. Уяўленьні аб агульнапалескім, ці „заходнепалескім“ дыялекце на ўзроўні масавай сьвядомасьці адсутнічаюць.

У сфэры спажываньня культуры пераважаюць беларуская й расійская мовы. Пры гэтым іх пазыцыі амаль што аднолькавыя. Так, радыё й тэлебачаньне слухаюць на беларускай мове 62,9% рэспандэнтаў, на расійскай — 64,9%, чытаюць газэты й часопісы — на беларускай мове 62,9%, на расійскай — 65,4%, кнігі — адпаведна 46,4% і 62,4%. Адзначым, што ў Заходнім Палесьсі пазыцыі расійскай мовы мацнейшыя за Ўсходняе. Асабліва гэта характэрна для Кобрынскага раёну.

Што ж тычыцца палескамоўных выданьняў, то іх чытае 4,7% рэспандэнтаў, перадачы па радыё слухае 7.1%. Папулярнасць іх прыкладна аднолькавая з украінамоўнымі. Украінскія газэты чытае 4,3% рэспандэнтаў, кнігі — 3,3%, слухае радыё й глядзіць праграмы тэлебачаньня — 7,5%. Асабліва заўважная гэтая

„украінанакіраваная“ тэндэнцыя на Заходнім Палесьсі ў цэлым (5,9%, 4,3% і 9,6%) і асабліва ў Кобрынскім (7,3%, 5,7% і 15,4%) і Маларыцкім (7,4%, 8,5% і 17,6%) раёнах.

Разам з тым у сфэры адукацыі перавага яўна аддаецца беларускай мове. На ёй пажадалі вучыць дзяцей 65,8% рэспандэнтаў (адпаведна 72,6% на Ўсходзе й 61,2% на Захадзе), на расійскай мове — 21% (адпаведна 15,7% і 25,9%), на мясцовым дыялекце — 3,2% (2,6% і 3,5%), на іншых мовах — 1,7%.

Гэта асабліва паказальна на тле адказаў аб ідэнтыфікацыі з той ці іншай мовай у якасьці роднай. Так, беларускую мову лічаць роднай 65,8% рэспандэнтаў (адпаведна 71,8% на Ўсходзе й 47,2% на Захадзе), расійскую — 11,6% (адпаведна 9,7% і 12,9%), украінскую — 1,0% (0,7% і 1,2%), мясцовы дыялект — 25,7% (13,9% і 33%). Такім чынам трэба адзначыць, што мясцовыя дыялекты займаюць трывалае становішча ў паўсядзённым ужытку палескага насельніцтва, значная колькасьць жыхароў ідэнтыфікуе сябе зь імі як з роднай мовай. Гэта аднак, як можна заўважыць, не перашкаджае разьвіцьцю беларусізацыі, аб чым у першую чаргу сьведчаць чаканьні ў сфэры адукацыі.

У сувязі з пададзенымі матар'яламі пытаньне аб формах дзяржаўнай палітыкі на Палесьсі ў сфэры культуры ўяўляецца дастаткова складаным. Зразумела, што яна павінна адпавядаць міжнародным стандартам. Апошнім часам Арганізацыя Аб'яднаных Нацыяў, Рада Эўропы прынялі шэраг дакумэнтаў, згодна зь якімі разнастайныя групы меншасьцяў павінны валодаць бэнэфітнымі (дадатковымі) правамі для захаваньня сваёй моўнай і культурнай ідэнтычнасьці. Галоўнай цяжкасьцю зьяўляецца вызначэньне бэнэфіцыянатаў. Спэцыяльная дэклярацыя ААН вылучае нацыянальныя або этнічныя, а таксама рэлігійныя і лінгвістычныя меншасьці[2].

Відавочна, што да рэлігійных меншасьцяў насельніцтва Палесься не адносіцца. Нельга лічыць яго й этнічнай (або нацыянальнай) меншасьцю, як гэта робяць, напрыклад, лідары аб'яднаньня „Полісьсе“. Этнічную супольнасьць вылучае перш за ўсё ўласная групавая самасьвядомасьць, якая выяўляецца ў этноніме й супрацьпастаўленьні сябе іншым народам (у апазыцыі „мы—яны“). Як сьведчаць матар'ялы дасьледаваньня, абсалютная большасьць насельніцтва Палесься лічыць сябе беларусамі.

Праблематычнай зьяўляецца й атрыбуцыя насельніцтва Палесься ў якасьці асобай лінгвістычнай меншасьці. Згодна з „Эўрапейскай хартыяй рэгіянальных моваў і моваў меншасьцяў“, да іх адносяцца мовы, якія „традыцыйна ўжываюцца ў межах пэўнай тэрыторыі грамадзянамі, якія ўтвараюць групу, колькасна меншую за астатняе насельніцтва дзяржавы й якія адрозьніваюцца ад афіцыйнай мовы(аў)“. Аднак гэтае палажэньне „не ўключае тыя ці іншыя дыялекты афіцыйнай мовы(аў) або мовы мігрантаў“[3]. Пытаньне аб тым, ці ёсьць палескія гаворкі дыялектам беларускай мовы або самастойнай мовай зьяўляецца спрэчным, а дыскусіі на гэтую тэму, на наш погляд, беспэрспэктыўнымі.

Экспэрты ў галіне правоў меншасьцяў раюць у дадзеным выпадку арыентавацца не на вонкавыя, а перш за ўсё на суб'ектыўныя элемэнты вызначэньня. Тая ж „Хартыя ...“ прадугледжвае вызначэньне тэрыторыі лінгвістычнай меншасьці ў залежнасьці ад таго, ці зьяўляецца гэтая мова „сродкам выяўленьня значнай колькасьці люду і якая ўжываецца, згодна з прапановамі Хартыі, у сфэры адукацыі, СМІ, справаводзтва й г.д.[4] Сацыялягічныя дадзеныя сьведчаць адваротнае. Таму трэба канстатаваць, што ні па аб' ектыўных, ні па суб'ектыўных крытэрах насельніцтва Палесься ня можа быць аднесена да якіх-небудзь пазначаных у міжнародных дакумэнтах групаў меншасьцяў і, адпаведна, ня можа карыстацца асаблівымі бэнэфітнымі правамі. Гэта — частка беларускага этнасу з пэўнымі лінгвістычнымі і этнаграфічнымі асаблівасьцямі.

Разам з тым, нельга не заўважыць высокай ступені захаванасьці палескіх гаворак, асэнсаваньне іх у якасьці роднай мовы значнай колькасьцю насельніцтва. Культура насельніцтва Палесься з усёй яе спэцыфікай зьяўляецца неад'емнай часткай культурнага багацьця Беларусі й патрабуе адмысловых мерапрыемстваў па захаваньню й падтрымцы.

[1] Чаквін І.У. Гістарычная этнаніміка Палесся // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1985. № 4. С.75—81.

[2] Declaration on the rights of persons belonging to national or ethnic, religious and linguistic minorities // UN Document. Ref: E/CN. 1992. N

[3] European Charter for regional or minorities languages. Strasbourg. 1992. C.2.

[4] Там жа. С.3.

*Jerzy WASZKIEWICZ*

# *Polacy na Białorusi*

## *III. Czerwona mgła*

Rewolucja bolszewicka tragiczne zapisała się w dziejach Polaków na Wschodzie. Białoruś Wschodnią mordy i rabunki majątków w szale rewolucyjnym ogarnęły już w 1917 roku. W sierpniu tegoż roku, na mocy decyzji Ogólnego Zjazdu Wojskowych Polaków w Piotrogrodzie, przystąpiono do tworzenia I Korpusu Polskiego pod dowództwem Józefa Dowbora-Muśnickiego, który szybko osiągnął stan 25 tys. osób. Oddziały korpusu działały na Białorusi w trójkącie Rzeczyca, Mohylew, Zaostrowiecze i broniły ludności przed „czerwonym terrorem". Niestety, opieka mogła obejmować tylko te tereny, które kontrolowali polscy żołnierze, a po ich rozbrojeniu w 1918 r. przez okupacyjne wojska niemieckie, władze Oberostu. Na przykład, działający w Mińsku polski Centralny Komitet Obywatelski do lata 1918 r. zdążył zorganizować repatriację do Polski ponad 120 tys. osób.

Klęska Armii Czerwonej pod Warszawą w 1920 roku przekreśliła plany utworzenia Polskiej Republiki Rad lecz nie zmieniła zasadniczych celów wyznaczonych przez Lenina. W taktyce Kominternu Polacy, których traktat ryski z 1921 r. pozostawiał po stronie sowieckiej i którzy nie zdążyli repatriować się do 1924 r. — przeszło 1,5 mln osób, mieli stanowić naturalny pomost do socjalistycznej Polski, która z kolei była przecież pomostem do Europy. Na Polakach sowieckich rozpoczęto wielki eksperyment zaszczepienia komunistycznych form życia. A walczono o wpływ na dość dużą grupę ludności. Na Białorusi, według niektórych danych sowieckich z 1926 r., stanowili Polacy 8-10% czteromilionowej ludności republiki. Najwięcej ich było na Minszczyźnie, gdzie dochodzili do blisko 30% ogółu mieszkańców. Dominowali w okolicach Kojdanowa, Zasławia, Łohojska, Tołoczyna i Kopyla. Należy jednak uwzględnić, że wyliczenia specjalnej komisji Biura Polskiego KC RK(b), szacujące ludność polską Białorusi na 400 tys., obejmowały wszystkich katolików republiki i nie odzwierciedlają raczej rzeczywistego stanu, który byl najprawdopodobniej kilkakrotnie mniejszy liczebnie.

Państwo sowieckie zawsze było twórcą takich form życia narodowego Polaków, które odpowiadały jego interesom państwowym. Zostały one wciśnięte w ściśle określone ramy zasad ideologichnych i politycznych i zawsze były podporządkowane celom wyznaczonym przez partię bolszewicką. Z upływem czasu polityka państwa sowieckiego zmieniała się w zależności od rozwoju wydarzeń w Polsce, polityki wewnętrznej, a także kursu polityki narodowościowej KPZR.

W pierwszej połowie lat trzydziestych przeprowadzono w ZSRR, zgodnie z założeniami „leninowskiej polityki narodowościowej", eksperyment, mający na celu stworzenie w regionach, zamieszkałych przez zwarte skupiska Polaków na Białorusi i Ukrainie, polskiej autonomii narodowej typu sowieckiego. Jego skutkiem było utworzenie dwóch rejonów autonomicznych: imienia Feliksa Dzierżyńskiego na Białorusi i imienia Juliana Marchlewskiego na Ukrainie, zwane popularnie Dzierżyńszczyzną i Marchlewszczyzną. We wszystkich partyjnych i państwowych instytucjach tych rejonów wprowadzono język polski jako urzędowy. W swej formie instytucjonalnej znaczna autonomia narodowa przyznana Polakom w Związku Radzieckim miała, w myśl rządzącej ekipy komunistycznej Stalina, stać się ważnym czynnikiem destabilizującym politykę wewnętrzną II Rzeczypospolitej.

Początkowo, w drodze eksperymentu, na Białorusi powstały 23 polskie Sowiety. Na ich bazie w 1932 r. utworzono autonomiczny region polski. Stolicą jego było Kojdanowo, później przemianowane na Dzierżyńsk. Cały ten rejon o obszarze 1000 km2 liczył 44 tysięcy ludności. Celem sowieckiego eksperymentu polonijnego była szybka i skuteczna sowietyzacja ludności polskiej. Istota jego polegała na próbie osiągnięcia zmiany sposobu myślenia Polaków sowieckich przy pomocy stworzenia od podstaw „polskiej

---

Заканчэньне. Пачатак у №1

kultury proletarskiej".

Plany urobienia Polaków na ludzi sowieckich wyraźnie kolidowały z kościołem katolickim i religią w ogóle. Na samej Mińszczyźnie, stanowiącej w latach 20-ch zaledwie skrawek dzisiejszego jej obszaru, było około 40 kościołów. W Mińsku na przykład kościół pw. Szymona i Heleny (tzw. czerwony) ufundował Edward Woyniłłowicz, lider kresowego ziemiaństwa. Słynny był kościół na Złotej Górce. Co zaś do losu innych świątyń, to jedną z nich przeznaczono na siedzibę teatru, a pozostałe zamknięto i później zniszczono. Podobny los napotkał kościóły w Borysowie i powiecie borysowskim, w miejcowościach Berezyna Górna, Chłopenicze, Chotajewicze, Dokszyce, Okołowo, Ziembin, Dziedziłowicze, Korzeń, i dalej ze świątyniami Kojdanowa, Gródka Ostroszyckiego, Zasławia, Wołczkiewicz, Kopyla, Słucka, Cimkiewicz, Mohylewa, Homla, w ogóle całej Białorusi. Duchownych w bardzo wielu-wypadkach zsyłano do łagrów sowieckich, a daleko nie wszyscy z tamtąd powracali. Ciąg kulturowy stopniowo zanikał, a nowa „polska inteligencja sowiecka" była podatna na wykorzenienie z własnej tradycji i świadomości narodowej, ulegała coraz bardziej postępującej rusyfikacji.

Żeby udowodnić, iż „polskie masy pracujące" przeżywają w państwie sowieckim rozkwit przystąpiono do tworzenia odpowiednich instytucji, całkiem zresztą przesiąkniętych ideologią marksystowsko-leninowską. W jednej ze swoich instrukcji z 1925 r. F.Dzierżyński pisał, że: „wszystko w naszej pracy musi być skierowane na przygotowanie kadr do zdobycia i rządzenia Polską po sowiecku". Rezerwatem inteligencji powołanej do zrealizowania tego celu mogła być przede wszystkim polska ludność sowiecka. To dla niej utworzono placówki akademickie typu Katedry Języka Polskiego przy Białoruskim Uniwersytecie w Mińsku. Władze doskonale rozumiały, że już samo umożliwienie nauczania w języku ojczystym, którego używania wcześniej zabraniano i którym pogardzano, może stać się najskuteczniejszym narzędziem sowietyzacji w tradycyjnie nieufnym wobec każdej rosyjskiej władzy kresowym środowisku polskim. W 1928 r. istniało w BSRR 138 szkół polskich i przeszło 8 tysięcy uczniów, z czego tylko 12 szkół były siedmioletnie, pozostałe zaś — czterolatki.

W programach szkolnych wyraźnie górowała ideologia. Na przykład, w nauczaniu literatury Adama Mickiewicza i Juliusza Słowackiego zaliczano do przedstswicieli literatury „kapitalizującej się drobnej szlachty". Zygmunt Krasiński reprezentował „literaturę arystokratyczną". Twórczość Marii Konopnickiej i Władysława Reymonta zakwalificowano do „literatury drobnej burżuazji". Literarurą burżuazyjną reprezentowali również Bolesław Prus i Eliza Orzeszkowa. Jako najbardziej „niebezpieczny" przedstawiciel „bloku wielkiej burżuazji i obszarników" w programie szkolnym figurował Henryk Sienkiewicz. Jego twórczość scharakteryzowano jako „ideologiczną broń polskiego faszyzmu" („Programy dla polskich szkół politechnicznych", Mińsk 1932, s.38).

Biuro Polskie przy KC WKP(b) nie zaniedbywało żadnej okazji dotarcia do umysłów i serc Polaków. Szczególnie dbano o rozwój prasy polskojęzycznej. Do polskich mieszkańców wsi białoruskiej adresowany był wydawany przez Komitet partii w Mińsku tygodnik „Orka". Zastąpił on w 1926 r. wydawanego wcześniej „Młota". W Połocku redagowano „Gazetę Włościańską". Dzieci indoktrynowano za pomocą „Głosu Młodzieży", pisma pszeznaczonego dla polskiej młodzieży robotniczo-włościańskiej nie tylko Białorusi, ale całego Związku Radzieckiego.

Powstawały również koła dramatyczne klubów polskich, istniejących prawie we wszystkich większych ośrodkach miejskich. Pierwsze powstały w Mohylewie, Witebsku, Mińsku w latach 1922-1923. Mińską Sekcję Miłośników Sceny przekształcono później w stały teatr polski.

Pisarze polscy Białorusi zostali od 1928 r. skupieni w Polskiej Sekcji Białoruskiej Asocjacji Pisarzy Proletariackich działającej w ramach Wszechzwiązkowego Zjednoczenia. Pełniło ono rolę znakomitej cenzury ideologicznej, gdyż „polska literatura sowiecka" składała się wyłącznie z utworów, które dawała się wykorzystać wyłącznie w celach propagandowych, niezależnie od poziomu artystycznego. Literaturę tę nie można zaliczyć do nurtu kontynującego tradycje literatury polskiej. Niektórzy ze „słusznie piszących" byli dość znani w ówczesnych środowiskach artystycznych. Na Białorusi do takich należeli B.Jarocka, H.Romanowska, H.Żarski, J.Kraczkowski, W.Kowalski, A.Alkazin, A.Horawski.

Stopniowo Polacy sowieccy z instrumentu polityki zewnętrznej, skierowanej przeciwko niepodległemu państwu polskiemu, coraz bardziej stają się elementem gry politycznej wewnątrz państwa sowieckiego. Wzmogły się bowiem represje stalinowskie. Szukano byle pretekstów do odnalezienia „wroga klasowego". Polską ludność Białorusi stanowili głównie mieszkańcy wsi. Jako

ных органаў, дасьледаваў кампэнсатарныя прыстасаваньні ў вэгетатыўнай нэрвовай сыстэме, распрацаваў прынцыпы стварэньня новых нэрвовых і судзінавых шляхоў, якія знайшлі выкарыстаньне ў клінічнай практыцы.



*Д.М.ГОЛУБ*

З 1943 году працаваў загадчыкам кафэдры нармальнай анатоміі Менскага мэдыцынскага інстытуту, а з 1954 году — яшчэ й загадчыкам лябараторыі марфалёгіі нэрвовай сыстэмы Інстытуту фізыялёгіі Акадэміі навук Беларусі. У 1973 годзе Д.М.Голуб быў уганараваны прэміяй СССР.

Такія навуковыя працы Голуба, як атляс „Будова пэрыфэрыйнай нэрвовай сыстэмы ў эмбрыягенэзе чалавека“ (Менск, 1962), манаграфія „Нэрвы рэфлексагенных зонаў: эмбрыялягічнае дасьледаваньне (Менск, 1976, у сааўтарстве) уваходзяць у залаты фонд сусьветнай мэдыцынскай навукі.

Беларускі горад Ворша даў сьвету выдатнага вучонага-псыхоляга **Ільва Сямёнавіча Выгоцкага** (1896-1934). Ён распрацаваў культурна-гістарычную тэорыю, якая паклала пачатак школе ў савецкай псыхалёгіі. Навуковыя працы Л.С.Выгоцкага па разьвіцьці найвышэйшых псыхічных функцыяў, мысьленьні й мове, псыхалёгіі мастацтва высока ацэньваюцца вучонымі-псыхолягамі ўсяго сьвету. Гэта дае падставы да высновы, што наш зямляк унёс істотны ўклад у разьвіцьцё псыхалягічнай навукі.

Выгоцкі распрацаваў вучэньне аб разьвіцьці псыхічных функцыяў у працэсе апасродкаванага зносінамі асваеньня індывідам вартасьцяў культуры. Культурныя знакі (найперш знакі мовы) служаць свайго роду прыладамі, апэруючы якімі суб’ект, уздзейнічаючы на іншага, фармуе ўласны ўнутраны сьвет. Асноўнымі адзінкамі гэтага сьвету зьяўляюцца значэньні (абагульненьні, кагнітыўныя кампанэнты сьвядомасьці) і сэнсы (афэктыўна-матывацыйныя кампанэнты). Псыхічныя функцыі, дадзеныя прыродай („натуральныя“), пераўтвараюцца ў функцыі найвышэйшага ўзроўню разьвіцьця.

Ільвом Сямёнавічам Выгоцкім быў створаны новы напрамак у дзіцячай псыхалёгіі, які ўключае палажэньне аб „зоне найбліжэйшага разьвіцьця“, што аказала вялікі ўплыў на сучаснае айчыннае й замежнае экспэрымэнтальнае дасьледаваньне разьвіцьця паводзінаў дзіцяці. Прынцып разьвіцьця спалучаўся ў канцэпцыі Выгоцкага з прынцыпам сыстэмнасьці. Ён распрацаваў паняцьце аб „псыхалягічных сыстэмах“, пад якімі разумеліся цэласныя ўтварэньні у выглядзе розных формаў міжфункцыянальных сувязяў.

Сумесна з вучнямі Выгоцкі экспэрымэнтальна прасачыў асноўныя пераўтварэньні значэньняў у антагенэзе („Мысьленьне й мова“, 1934), прапанаваў адэкватную прыцыпу разьвіцьця гіпотэзу аб лякалізацыі псыхічных функцыяў як структурных адзінак галаўнога мозгу.

Ідэі Выгоцкага апладнілі ня толькі псыхалёгію й яе розныя галіны, але й іншыя навукі аб чалавеку (дэфэкталёгію, мовазнаўства, псыхіятрыю, мастацтвазнаўства, этнаграфію й інш.).

Другім клясыкам сусьветнае псыхалягічнае навукі з поўным правам можна лічыць магіляўчаніна **Вольфа Салямонавіча Мэрліна** (1898-1982). Гэты вучоны быў савецкім псыхолягам, доктарам пэдагагічных навук, прафэсарам, загадчыкам кафэдры псыхалёгіі Пермскага пэдагагічнага інстытуту.

Мэрлін займаўся праблемамі дыфэрэнцыяванай псыхалёгіі й псыхафізыялёгіі. Ён высунуў прынцып „шмат-шматзначнай залежнасьці“ псыхічных зьяваў ад фізыялягічных, які дазволіў адкрыць складаны, апасродкаваны характар індывідуальных здольнасьцяў асобы — нэўрадынамічным, псыхадынамічным і асобасным. Дасьледаваньні ў гэтай галіне прывялі да стварэньня Мэрлінам канцэпцыі тэмпэрамэнту чалавека. Сусьветную вядомасьць набылі такія ягоныя працы, як „Нарыс тэорыі тэмпэрамэнту“ (1964) і „Нарыс інтэгральнага дасьледаваньня індывідуальнасьці“ (1986).

Нават гэты кароткі нарыс навуковай дзейнасьці беларускіх гэбраяў у некалькіх галінах навукі — біялёгіі, хіміі, фізыцы, матэматыцы, будаўнічай мэханіцы, асваеньні космаса, мэдыцыне й псыхалёгіі — паказвае, што нашыя землякі ўнесьлі значны ўклад у сусьветную навуку.

---

*Вячаслаў МАЦЮШЭНКА*

# *Этнічныя меншасьці Эўропы: мова й адукацыя*

На тэрыторыі Эўропы побач з дасьпелымі народамі ёсьць вялікія групы людзей, якія дыспануюць шматлікімі праявамі народу, але ня маюць статусу — народ. Таксама іх немагчыма аднесьці да нацыянальнай меншасьці, якія маюць падтрымку з боку краіны, дзе іх супляменьнікі ёсьць тытульнай нацыяй. Да колішніх вялікіх эўрапейскіх папуляцыяў належаць 25 млн. асобаў (баскі, брэтонцы, рэтрараманцы, кашубы, лужычане й інш.). Апошняя чвэрць 20-га стагодзьдзя адзначаецца ўзрослай актыўнасьцю гэтых групаў ня толькі ў межах дзяржаваў, дзе яны пражываюць. Узьнікаюць шматлікія наддзяржаўныя й міждзяржаўныя арганізацыі, задачай якіх ёсьць распрацоўка агульнаэўрапейскага права, якое б бараніла й падтрымлівала этнічныя меншасьці.

Крытэрыі, па якім можна акрэсьліць групу людзей як этнічную групу, наступныя:

— тэрытарыяльны характар групы, якая трактуе занятую ёй тэрыторыю як самакаштоўнасьць, штосьці вельмі істотнае для ўсяго працэсу свайго гістарычнага фармаваньня. Гэтая тэрыторыя ня мае такой жа каштоўнасьці для іншай групы. Выключнае валоданьне дадзенай тэрыторыяй ёсьць складоваю часткай сьвядомасьці групы;

— культурная адасобленасьць. Групай сфармаваныя толькі ёй уласьцівыя каштоўнасьці культуры, сымболі, правілы ўзаемаадносінаў. Самая структура гэтых рысаў ёсьць прыналежнасьцю толькі гэтай групы. Найбольш выразным паказчыкам і творцам гэтай культуры ёсьць мова. „Мова зьяўляецца адной з найважнейшых праяваў спэцыфічнай сьвядомасьці чалавечых групаў. Зразумела, не адзінай праявай, але ж найбольш зразумелай і маючай наймацнейшы уплыў. Мова непасрэдна й фізычна адрозьнівае „нас“ ад „іх“. Яна стварае зьнешні бар’ер, але адначасова ёсьць інструмэнтам унутранай ідэнтыфікацыі й інтэграцыі“ (R.Petrella.*Nationalist and Regionalist Movement in Western Europe* у „Nations Without a State. Ethnik Minorities in Western Europe“. ed. Ch Foster. New Jork,1980)

— адсутнасьць уласнай дзяржавы й меншасны характар: гэта азначае, што група ня мае галоўнага чыньніка абароны атрыбутаў сваёй адасобленасьці. У выніку група трапляе ва ўмовы прымусу з боку тытульнай нацыі й яе культуры й амаль заўсёды ня мае магчымасьці кантраляваць міграцыйныя працэсы на сваёй тэрыторыі, што стварае пагрозу функцыянаваньню мовы ў грамадзкім жыцьці, асабліва ў школьніцтве; група ня мае ўплыву на вядзеньне гаспадаркі, на працэсы асыміляцыі сваіх элітных варстваў праз дамінуючую групу;

— правінцыялізм або пэрыфэрыйнасьць: гэта азначае абмежаваньне доступу да матар’яльных каштоўнасьцяў дзяржавы, абмежаваньне магчымасьці ўплыву на дзейнасьць уладных структураў;

— памежны характар групаў, што мае траісты сэнс. Этнічная група можа спалучаць пачуцьцё этнічнай адасобленасьці з патрыятызмам тытульнага народу; можа

---

**Вячаслаў Васілевіч Мацюшэнка — вядучы інспэктар Галоўнага ўпраўленьня агульнай сярэдняй адукацыі Міністэрства адукацыі й навукі Рэспублікі Беларусь, займаецца пытаньнямі задавальненьня адукацыйных меншасьцяў Рэспублікі Беларусь (Менск, вул. Савецкая 9, тэл. 29 66 47, факс 20 84 83)**

абмяжоўвацца фармаваньнем рэгіянальнай сьвядомасьці (асабліва калі тэрыторыя групы часта зьмяняе сваю дзяржаўную прыналежнасьць); можа ўзьнікнуць канфлікт зь яе дзяржаўнай прыналежнасьцю, што прыводзіць да імкненьня здабыць рознай ступені аўтаномію.

У якасьці прыкладаў прааналізуем сучасны стан некаторых групаў і іх пазыцыі ў краінах, у межах якіх яны пражываюць.

Швайцарыя. У гэтай краіне суіснуюць групы насельніцтва, якія карыстаюцца нямецкай, францускай, італійскай і рэтрараманскай мовамі. Гісторыя рэтрараманаў па сёньняшні дзень застаецца ў сфэры гіпотэзаў. Дэмаграфічныя працэсы вельмі разбуральна ўзьдзейнічаюць на стан гэтай этнічнай групы. Масавая міграцыя чужога насельніцтва, асабліва нямецкамоўнага, на справедчную тэрыторыю рэтрараманаў, эміграцыя іх саміх зь вёскі да гарадоў, спрычыніліся да значнага зьменшэньня папуляцыі.

Рэтрараманская мова ахоплівае 3 асобныя моўныя групы ў альпійскім рэгіёне. Група *Friaul* у паўночнай Італіі вакол *Udine*, якая налічвае каля 0,5 млн.ч., адзначаецца вялікім уплывам італійскай мовы. Група даламіта-ладзінская ў Італіі (даліна Даламітаў), налічвае 30 тысяч чалавек. Група бюндэр-раманская ў Швайцарыі, каля 50 тысяч чалавек. Тут мова захавалася найлепш.

Галоўным інстытуцыянальным патронам рэтрараманскай культуры зьяўляецца „*Ligia Romontscha/Lia Rumantscha*“. Разам з выдавецкай справай арганізоўваюцца моўныя курсы, засноўваюцца дзіцячыя садкі й настаўніцкія сэмінары.

Гішпанія. Клясычны прыклад таго, як адна з найбольш літаратурна разьвітых моваў сярэднявечча — каталёнская, мова афіцыйных зносінаў Арагона-Каталёнскага каралеўства — страчвае свой прэстыж. Адраджэньне мовы пачынаецца напрыканцы 19 ст., але толькі ў 1946 г. зьяўляюцца першыя друкаваныя творы на каталёнскай мове. Пасьля сьмерці Франка мова хутка набывае шмат прыхільнікаў, тым больш што Каталёнія й Краіна Баскаў зьяўляюцца найбольш разьвітымі ў эканамічным пляне. „Закон аб моўнай нармалізацыі“ 1983 г. прадугледжвае ў галіне адукацыі выкладаньне ва ўсіх школах Каталоніі дзьвюх моваў — каталёнскай і гішпанскай.

Распаўсюджваньне каталёнскай мовы сутыкаецца з шэрагам цяжкасьцяў. Моўнае заканадаўства не прадугледжвае абавязковых мераў, а разьлічана больш на пераканаьне. Чыноўны апарат у большасьці карыстаецца гішпанскай моваю, часам самі каталёнцы дрэнна ведаюць нормы сваёй мовы. Да таго ж роднасьць дзьвюх моваў дазваляе спантаннае ўзаемаразуменьне, што робіць меней патрэбным вывучэньне каталёнскай мовы.

Ня менш цяжка ідзе працэс вяртаньня да актыўнага жыцьця баскскай мовы ў Эўскадзі (аўтаномная вобласьць Баскаў). Мова баскаў уяўляе сабой дзіўны прыклад выжываньня, а сёньня й адраджэньня мовы. Баскі змагаліся ня толькі за правы сваёй мовы, ім даводзілася адраджаць сваю мову як родную для большай часткі насельніцтва вобласьці. Стагодзьдзі ўціску з боку больш моцных суседзяў — Гішпаніі й Францыі, вымушаная масавая эміграцыя баскаў, а з 1940 г. — вялікая іміграцыя на баскскую тэрыторыю амаль выціснулі баскскую мову з ужываньня. Толькі ў 1951 г. мову дазволена было выкладаць факультатыўна ў старэйшых клясах.

Баскская мова падзяляецца на сем дыялектаў. Спробы ўнармаваньня ня мелі посьпеху. Да апошняга часу мова заставалася сацыяльна прыніжанай, лічылася „прымітыўнай“, „беднай“, „сялянскай“. Абнадзейваючым быў пачатак 30-х гадоў, калі сталі ўтварацца „ікасталы“ — школы з выкладаньнем на роднай мове й нават Баскскі ўнівэрсытэт у Більбао. У часы франкізму баскская мова была забароненая амаль да 1960 г. Цяпер моўная сытуацыя ў Эўскадзі рэглямэнтуецца новай канстытуцыяй, Статутам аўтаноміі й Законам аб моўнай нармалізацыі. Але пэўныя моманты нераўнапраўя застаюцца: па канстытуцыі грамадзяне Гішпаніі павінны ведаць гішпанскую мову й толькі маюць права ведаць баскскую.

Дзеля ўвядзеньня баскскай мовы ў школы распрацаваныя праграма падрыхтоўкі выкладчыкаў і навучальныя матар'ялы. Уведзеныя два тыпы экзаменаў на веданьне мовы з атрыманьнем пасьведчаньняў. Існуюць тры формы двумоўнага навучаньня: а) навучаньне на гішпанскай мове з баскскай у якасьці абавязковай дысцыпліны; б) падзел дысцыплінаў: адны прадметы выкладаюцца на баскскай мове, іншыя — на гішпанскай; в) стварэньне ікасталаў — баскскіх школаў з абавязковым вывучэньнем гішпанскай мовы, якія наведваюць шмат дзяцей з

гішпанскамоўных сем'яў. Утвараюцца курсы баскскай мовы для дарослых, тым больш што ў 1962 г. адкрыты каталіцкі ўнівэрсытэт і дзяржаўны ўнівэрсытэт у Віторыі. З 1976 г. каралеўскім дэкрэтам створаная акадэмія баскскай мовы, якая выпрацоўвае агульналітаратурную норму мовы.

У Эўскадзі сутыкнуліся два кірункі моўнае адбудовы: баскскае кіраўніцтва намагаецца дасягнуць білінгвізму ў межах вобласьці, у той час калі мадрыдзкі ўрад імкнецца захаваць асобныя сфэры выключна для гішпанскай мовы. Здараецца так, што людзі вывучаюць баскскую мову, але штодзённа сутыкаюцца зь немагчымасьцю ўжываць яе ў некаторых выпадках.

Германія. Этнічная фрэзіянская меншасьць пражывае на поўначы Шлёзьвіг-Гальштэніі. Фрэзіянская мова складаецца зь дзьвюх групаў і дзевяці дыялектаў. У Паўночнай Фрэзіі, уключаючы Гельгалянд, на фрэзіянскай мове размаўляюць каля 10000 чалавек, і дзесьці ў два разы больш людзей могуць карыстацца гэтай моваю. З 1950 г. дзейнічае кафэдра фрэзіянскай лексыкаграфіі пры Кёльнскім унівэрсытэце разам з факультэтам фрэзіянскай філялёгіі.

Фрэзіянская меншасьць ня мае ўласнай школьнай сыстэмы. Фрэзіянская мова вывучаецца ва ўсіх публічных школах Фрэзіянскага рэгіёну, а таксама ў некаторых школах як другая мова дабраахвотна 2 гадзіны штотыдзень ад 3-й да 6-й клясы. У 1994-1995 навучальным годзе фрэзіянскую мову вывучалі 1080 вучняў. У 1965 г. распачаў сваю дзейнасьць Паўночны Фрэзіянскі інстытут у Брэдстэдзе. Гэты інстытут ёсьць цэнтральным асяродкам паўночнай Фрэзіі, які займаецца навуковымі дасьледаваньнямі па фрэзіянскай мове й культуры.

Сорбы — славянскае племя, якое разам зь іншымі заходнеславянскімі плямёнамі прышлі з паўночнай часткі Карпатаў у час „перасяленьня народаў" і калянізавалі землі плошчай амаль 40 тыс. кв.км. над Одэрам. З усіх славянскіх плямёнаў, якія апынуліся ў межах германскай імпэрыі, толькі сорбы здолелі захаваць сваю моўную й культурную адметнасьць.

У 1948 г. парлямэнт Саксоніі прыняў закон, што бараніў правы сорбаў, якія ўпершыню атрымалі пэўную аўтаномію ў пытаньнях адукацыі, навукі, культуры. Нягледзячы на фінансавую дапамогу з боку ўладаў ГДР, колькасьць сорбаў безупынна зьмяншалася ў апошнія 40 гадоў. У 1987 г. сорбаў налічвалася 112 тысяч чалавек, зь іх амаль 70% карыстаюцца сорбскай мовай ў паўсядзённым жыцьці. Большасьць зь іх жывуць у Верхняй і Ніжняй Лусаціі.

Пасьля ўзьяднаньня Германіі кіраўніцтва Асамблеяй Сорбскага народу, якая ўзьнікла ў лістападзе 1989, узялі на сябе маладыя сорбы, марай якіх было аднаўленьне структуры, праграмы й кадравага складу выдавецтва „Дамавіна". Гэтае выдавецтва ў 1991 г. стала цэнтральнай арганізацыяй, якая аб'ядноўвае сорбскія клюбы й асацыяцыі. У студзені 1991 г. узьнікла Сорбская Асацыяцыя Школаў, якая прадстаўляе інтарэсы сорбскай школьнай сыстэмы.

Згодна з Законам аб адукацыі Саксоніі, маецца магчымасьць выкладаць сорбскую мову й некаторыя прадметы на ёй у германа-сорбскіх раёнах. Больш таго, упершыню выкладаньне гісторыі й культуры сорбаў зьяўляецца абавязковым прадметам ва ўсёй Саксоніі.

У Італіі каля 500 т.ч. карыстаюцца фрыюльскай мовай, блізкай да рэтрараманскай мовы ў Швайцарыі. У 1972 г. правінцыя Бальзана-Бозэн (Альта Адзіджэ — Паўднёвы Тыроль) атрымала аўтаномію згодна зь італійскім канстытуцыйным актам (артыкул 19), у якім запісана: „Ладзінская мова ўжываецца ў дзіцячых садкох і вывучаецца ў пачатковых школах ладзінскіх вёсак. У гэтых вёсках ладзінская мова ёсьць моваю навучаньня ў школах усіх тыпаў і ўзроўняў. У гэтых школах колькасьць гадзінаў на нямецкую й італійскую мову аднолькавая, нямецкая й італійская мова зьяўляюцца роўнымі". Амаль 18500 чалавек размаўляюць па-ладзінску (старажытная, блізкая да лацінскай, мова), у 1990-1991 н.г. налічвалася 2357 вучняў і 252 настаўнікі. Дзейнічае 11 дзіцячых садкоў, 16 пачатковых школаў (пяцігодкі) на 90 клясаў; 6 ніжэйшых сярэдніх школаў на 40 клясаў; 5 розных поўных сярэдніх школаў на 30 клясаў.

Больш за сто год таму ў школах вывучалася нямецкая, італійская й ладзінская мовы. Да 1916 г. рэгіён уваходзіў у Аўстра-Вугорскую імпэрыю. Мовай навучаньня была нямецкая мова, але 6 гадзінаў у тыдзень вывучалася італійская мова, рэлігійнае навучаньне вялося паладзінску. У 1916-1921 гг. нямецкая мова была мовай навучаньня, таксама як і італійская ў 1921-1943 гг., пасьля чаго

зноў вярнуліся да нямецкай у 1943-1948 гг. У 1948 г. нямецкая й італійская мовы набылі роўныя правы ў школах, а ладзінская выкладалася адну-дзьве гадзіны на тыдзень.

Згодна з гэтым палажэньнем створаная асобная сыстэма школаў у ладзінскіх вёсках. Прыярытэт у замяшчэньні вакантных пасадаў настаўнікаў у школах ладзінскіх вёсак аддаецца мясцовым ураджэнцам. Настаўнікі, якія маюць намер працаваць у гэтых школах, павінны здаваць пісьмовы экзамен па нямецкай і італійскай мовах, а таксама вусны тэст па ладзінскай мове.

Адказнасьць за выкананьне законаў у дачыненьні да сыстэмы адукацыі ладзінаў і складаньне плянаў і праграмаў навучаньня ўскладзена на Міністэрства адукацыі ў Рыме; правінцыйнае кіраўніцтва Бальзана-Бозэн нясе адказнасьць за забесьпячэньне дзейнасьці гэтых школаў і за дашкольнае выхаваньне.

Для ладзінскіх вёсак няма спэцыяльных настаўніцкіх коледжаў. Будучыя настаўнікі атрымоўваюць адукацыю ў нямецкіх або італійскіх коледжах, якія, нажаль, ня ўлічваюць асаблівасьцяў рэгіёну, што тлумачыцца невялікай колькасьцю настаўнікаў — ня больш трох-чатырох для кожнай узроставай групы. Гэта ж тычыцца й атрыманьня вышэйшай адукацыі. Усе настаўнікі павінны праходзіць 40-гадзінны курс павышэньня кваліфікацыі па праграме INSET пры спэцыяльных цэнтрах. У цяперашні час гэтая праграма зьяўляецца адзінай магчымасьцю перападрыхтоўвацца настаўнікам ладзінскіх школаў. Гэтыя курсы праводзяцца ў наваадкрытым Інстытуце адукацыі ладзінаў. Праграма па ладзінскай мове й культуры распрацаваная Ладзінскім інстытутам „Micura de Ru“ і асацыяцыяў настаўнікаў.

У Грэцыі пражывае каля 120000 чалавек мусульманскага веравызнаньня, сярод якіх памакаў — 35%, цыганоў — 15%, астатнія — туркі. Яны вельмі розьняцца мовамі, культурнай спадчынай, гістарычным досьведам і самасьвядомасьцю.

Каля 10000 вучняў-мусульманаў займаюцца ў 231 пачатковай школе правінцыі Трэйс (толькі пачатковыя школы дазваляюцца згодна з Пагадненьнем у Лазане (1923 г.)). Настаўнікамі працуюць як мусульмане, так і хрысьціяне. Мусульманскія настаўнікі выкладаюць турэцкую мову, матэматыку, прыродазнаўчы цыкль, хімію, рэлігію, мастацтва й музыку. Хрысьціянскія настаўнікі выкладаюць астатнія прадметы. Згодна з Пагадненьнем у Лазане лекцыі часткова могуць весьціся на роднай мове меншасьці. Але тут узьнікае праблема — дзеці размаўляюць на сваіх мовах, а большая частка прадметаў, якія маглі б выкладацца на роднай мове меншасьці, выкладаюцца патурэцку, з прычыны недахопу падручнікаў на мовах іншых меншасьцяў.

Навучаньне меншасьцяў у асноўным рэлігійна зарыентаванае, колькасна пераважаюць дрэнна падрыхтаваныя настаўнікі — улемы. З мэтай паляпшэньня стану справаў быў створаны спэцыяльны Настаўніцкі Коледж, які за 1994 год скончылі 240 настаўнікаў з 435, пастаянна дзейнічаюць сэмінары па павышэньні кваліфікацыі. Друкуюцца новыя падручнікі, у якіх вялікая ўвага надаецца падтрыманьню рэлігійнай і культурнай сьвядомасьці.

Большасьць мусульманскіх вучняў атрымоўваюць сярэднюю адукацыю ў звычайных школах. Ёсьць таксама двумоўна/двукультурныя сярэднія школы й дзьве школы Карана для меншасьці ў Трэйс.

Пераход ад сярэдняй адукацыі да больш высокіх узроўняў для ўсіх дзяцей вельмі складаны, усяго 1/4 кандыдатаў вытрымліваюць выпускныя экзамены, зь іх адзінкі прабуюць паступаць у вышэйшыя навучальныя ўстановы. Дрэннае веданьне грэцкай мовы вельмі замаруджвае працэс інтэграцыі мусульманскай моладзі ў сучаснае грэцкае грамадзтва.

*Гу́дмундар АЛЬФРЭДСАН*

# *Права меншасьцяў: роўнасьць і недыскрымінацыя*

***Вызначэньне бэнэфіцыянтаў***

Вызначэньне бэнэфіцыянтаў заўсёды было камнем сутыкненьня ў міжнародных дакумэнтах. Можна меркаваць, што з прычыны жаданьня ўрадаў пазьбегчы прызнаньня калектыўных адзінак (групаў) на сваёй тэрыторыі й выключыць пэўныя катэгорыі й групы, вызначэньні часта служылі тактычным сродкам, які дапамагаў адцягнуць наданьне спаважных правоў. У выніку такіх палітычных манэўраў вызначэньне стала важным элемэнтам пры разглядзе правоў меншасьцяў.

На працягу доўгага часу імкнуліся даць поўнае вызначэньне „меншасьці"[10]. Сакратарыят ААН у 1987 годзе выдаў зборнік афіцыйных прапановаў вызначэньня гэтага тэрміну, дадзеных у ААН за 40 год[11]. Гэтыя прапановы маюць мноства супольных рысаў: недамінантнае становішча разгляданых групаў, некаторыя супольныя характарыстыкі й г. д. Калі дадаць да гэтага зводу ўсе практычныя нацыянальныя й міжнародныя дасягненьні, то атрымаецца праект вызначэньня, па якім можа быць дасягнутая палітычная згода. Спрэчкі па гэтым пытаньні паказваюць, што разнагалосьсі тычацца хутчэй таго, каго прызнаваць „меншасьцю", а каго не ўключаць у гэтую катэгорыю, чымся дэталёвага вызначэньня ўключаных у гэтую катэгорыю групаў.

Пры ўсёй іх разнастайнасьці існуюць катэгорыі меншасьцяў, якія абцяжваюць устанаўленьне закону. Уключэньне сацыяльных і культурных меншасьцяў, магчыма, патрабавала б непапулярных палітычных рашэньняў. Меншасьці, члены якіх жывуць па розных баках дзяржаўных межаў, асабліва выклікаюць насьцярогу ўрадаў, бо апошнія бачаць тут пагрозу тэрытарыяльнай цэльнасьці. Розныя патрэбы групаў, што жывуць у розных геаграфічных і культурных умовах, таксама адыгрываюць сваю ролю. Так, трэба пагадзіцца з тым, што этнічнай меншасьці патрабуецца больш абароны, чымся рэлігійнай; бо апошняя адрозьніваецца ад асноўнай групы насельніцтва толькі рэлігійнымі перакананьнямі, падзяляючы зь ёй іншыя рысы.

З увагі на гэтыя й іншыя цяжкасьці, магчыма, трэба адшукаць альтэрнатыву вычарпальнаму й паўсюль пашыранаму вызначэньню. Ужываньне ў прэпазыцыі да слова „меншасьці" прыметнікаў „этнічныя", „нацыянальныя", „рэлігійныя", „моўныя" ўяўляе сабой рашэньне праблемы. Афіцыйныя дакумэнты й літаратура прыпісваюць розныя значэньні тэрміну „нацыянальныя меншасьці", але ўсе чатыры прыметнікі служаць для таго, каб выключыць катэгорыі, якія зьяўляюцца менш пажаданымі для ўрадаў.

Што тычыцца магчымага выключэньня патэнцыйных бэнэфіцыянтаў, можна дапусьціць, што групам, якія выйграюць ад выкарыстаньня законаў аб правах чалавека, прынятых дзеля іх саміх, не патрабуюцца правы меншасьцяў у поўным аб'ёме. Гэтыя групы будуць выключаць (але ня будуць абмяжоўвацца імі) сэзонных працоўных, асобаў без грамадзянства, уцекачоў, замежнікаў — прынамсі, калі яны прыяжджаюць у краіну й знаходзяцца ў ёй некаторы час. Гэтыя групы могуць аказацца ў сытуацыі, падобнай да сытуацыі меншасьцяў, але іх абарона павінна зьдзяйсьняцца іншымі сродкамі.

Імігранты роўнага этнічнага, культурнага й лінгвістычнага паходжаньня, якія ахвотна прыяжджаюць й пасяляюцца ў краіне, уключаючы працоўных-мігрантаў, якія вырашылі не вяртацца, склада-

---

Заканчэньне. Пачатак у №1.

юць іншую катэгорыю людзей: яны ня могуць патрабаваць абароны, на якую прэтэндуюць меншасьці. Яны могуць жыць у вельмі цяжкіх эканамічных і іншых умовах, але яны зьдзяйсьняюць „свабодны“ выбар і павінны быць падрыхтаваныя да ня толькі дадатных, але і адмоўных яго наступкаў. Гэты пункт гледжаньня супадае з часта выстаўляным патрабаваньнем: меншасьць да атрыманьня асаблівых правоў павінна існаваць на працягу даволі доўгага пэрыяду.

Верагодна, што групы, якія вылучалі сябе выключна па рэлігійнай адзнацы, таксама не падпадаюць пад узьдзеяньне гэтых законаў. Недыскрымінацыйныя законы на іх карысьць ужо існуюць, і ні ў каго не выклікае сумненьня свабода вызнаваць і адпраўляць любую рэлігію, а таксама адмысловыя правы, якія дазваляюць зьдзяйсьняць абрады і ўтрымліваць рэлігійныя інстытуты. Калі ж гэтыя групы маюць яшчэ й іншыя характарыстыкі, этнічныя або моўныя, яны могуць прэтэндаваць на больш шырокія правы меншасьцяў.

Абапіраньне на суб'ектыўны элемэнт вызначэньня — цікавая альтэрнатыва пошуку толькі аб'ектыўных характарыстык. Суб'ектыўная частка мае тры ўзроўні: ідэнтыфікацыя групы, рашэньне індывідуума аб яго прыналежнасьці да меншасьці, прыняцьцё гэтага індывідуума самой меншасьцю. Спэцыялісты ААН рэкамэндуюць абапірацца на самавызначэньне індывідуума ў пытаньні вызначэньня бэнэфіцыянтаў законаў аб меншасьцях і карэнных народах. Канвэнцыя Міжнароднай Арганізацыі Працы №169 (артыкул 1, параграф 2) асабліва адзначае: „Самавызначэньне па пытаньні прыналежнасьці да пляменных ці карэнных народаў павінна быць рашаючым пры вызначэньні групаў, да якіх мае дачыненьне Канвэнцыя“. Як гэта зроблена ў тэксьце дакумэнта Міжнароднай Арганізацыі Працы, самавызначэньне можа спалучацца зь некаторымі аб'ектыўнымі патрабаваньнямі, выражанымі ў пазытыўнай форме (валоданьне некаторымі характарыстыкамі) і ў нэгатыўнай форме (выключэньне вызначаных групаў).

Дзяржавы не павінны ніяк уплываць на суб'ектыўны элемэнт. Некаторыя юрысты, магчыма, схільныя сьцьвярджаць, што фармулёўка артыкулу 27 Пагадненьня па грамадзкіх і палітычных правох патрабуе афіцыйнага прызнаньня меншасьці, перш чым гэтая меншасьць атрымае магчымасьць карыстацца правамі, пра якія ідзе гаворка; гэта, быць можа, і добрая інтэрпрэтацыя, але ў такім разе кепскі закон. Прызнаньне альбо непрызнаньне ўрадам проста нерэлевантнае, калі група падпадае пад узгодненае міжнароднай грамадзкасьцю вызначэньне меншасьці; непрызнаньне ў гэтым выпадку выклікае падазрон. Называньне гэтых групаў па-іншаму, напрыклад, „сумесна пражываючымі нацыямі альбо нацыянальнасьцямі“, відавочна, таксама недастатковае дзеля таго, каб пазбавіць іх правоў нацыянальных меншасьцяў.

Як згадвалася вышэй, у законе аб правох чалавека зроблена дакладнае разрозьненьне меншасьцяў і карэнных народаў. Вызначальным фактарам у гэтым разрозьненьні зьяўляецца тое, што карэнныя народы зьвязаныя з пэўнай тэрыторыяй і, у адваротнасьць ад меншасьцяў, пражываюць на гэтай зямлі спрадвеку. Амэрыканскія індзейцы, абарыгены Аўстраліі й сотні іншых групаў на ўсіх кантынэнтах падпадаюць пад гэтую катэгорыю.

Разрозьненьне меншасьцяў і карэнных народаў узьнікла ў выніку заканадаўчай дзейнасьці ААН (Канвэнцыя па правох дзіцяці) і Міжнароднай Арганізацыі працы (Канвэнцыя №169). Дзьве працоўныя групы ААН падрыхтоўваюць праекты дзьвюх розных дэклярацыяў, і ААН выкарыстоўвае розныя працэдуры для гэтых тыпаў бэнэфіцыянтаў.

Гаворачы пра карэнныя й пляменныя народы ў Эўропе, нельга не ўзгадаць інуітаў, саамі й цыганоў. Грэнляндзкія інуіты маюць карыстацца правамі карэнных народаў да таго часу, пакуль яны аддаюць перавагу ўваходу ў склад Даніі й неіснаваньню як незалежная дзяржава ці як заморская калёнія. Саамі ўдзельнічалі ў міжурадавых і няўрадавых канфэрэнцыях па праблемах карэнных народаў; і фінскі, і нарвэскі, і швэдзкі ўрады прызналі іх такімі. Нарвэскія саамі ўваходзяць у Апякунскую раду Дабраахвотнага фонду карэнных народаў пры ААН. Хаця савецкія саамі яшчэ не заявілі пра сябе на міжнародных форумах, нядаўна яны атрымалі магчымасьць кантактаваць зь міжнароднымі арганізацыямі саамі. Цыганы, здаецца, вельмі падыходзяць пад вызначэньне карэнных народаў МАП, але яны ніколі не былі ў цэнтры міжнароднай увагі й ніколі гэтага не дамагаліся.

У гэтым кантэксьце карысна правесьці адрозьненьне паміж нацыянальнымі меншасьцямі, карэннымі й пляменнымі народамі, з аднаго боку, і паміж „мясцовым насельніцтвам“ — зь іншага. Апошні тэрмін быў выкарыстаны ў некаторых дакумэнтах і рэзалюцыях ААН па правох чалавека й разьдзелах, прысьвечаных самавызначэньню, прыродным рэсурсам, разьвіцьцю й міру. Гэты тэрмін стаўся вельмі папулярным у ЮНЭСКА, які арганізаваў сэрыю канфэрэнцыяў па гэтай тэме, і ў Арганізацыі Афрыканскага адзінства, якая абвяшчае права мясцовага насельніцтва ў загалоўку й некалькіх артыкулах свайго новага „Дакумэнта па правох чалавека“.

Тэрмін „мясцовае насельніцтва“ яшчэ не атрымаў дакладнага вызначэньня ў тых міжнародных законах, дзе ён быў выкарыстаны. Больш за гэта, ён можа мець розныя значэньні ў залежнасьці ад кантэксту. Што тычыцца ўжываньня гэтага тэрміну, ён стасуецца да насельніцтва пэўных тэрыторый, найчасьцей да насельніцтва калёніяў, без уліку яго этнічнага складу й культурных асаблівасьцяў. Кароткае знаёмства з Дэклярацыяй аб праве на разьвіцьцё й Афрыканскім Дакумэнтам дазваляе сказаць, што тэрмін „мясцовае насельніцтва“ не належыць да меншасьцяў, а належыць да насельніцтва дзяржавы. Калі нашае разуменьне тэрміну слушнае, то праблемы правоў „мясцовага насельніцтва“ можна не разглядаць у сувязі з дыскусіяй па пытаньні нацыянальных меншасьцяў, калі толькі апошнія ня прымуць абсалютна іншага характару.

Канечне, існуе некаторая сувязь паміж праблемамі меншасьцяў і мясцовага насельніцтва, так, яны могуць высоўваць аднолькавыя патрабаваньні. Некаторыя групы, якія цяпер лічацца меншасьцямі, але зьяўляюцца нешматлікімі, могуць падпадаць пад вызначэньне й больш шырокія правы „мясцовага насельніцтва“. Зь іншага боку, сама ідэя меншасьцяў і карэнных народаў, у тым яе выглядзе, як яна разумеецца міжнароднай супольнасьцю, прадугледжвае сувэрэнітэт і тэрытарыяльную цэльнасьць дзяржаваў. Недыскрымінацыйныя й спэцыяльныя правы, якія забясьпечваюць роўнасьць і абарону для ўсіх, маюць за мэту памяншэньне напружаньня праз паляпшэньне якасьці жыцьця, забесьпячэньне цэльнасьці дзяржавы й падтрыманьне міру.

Урэшце, цяжка не пагадзіцца з тым, што адсутнасьць вызначэньня тэрміну „меншасьць“ ці недэталёвае яго вызначэньне, якое выключае толькі некаторыя катэгорыі й робіць акцэнт на самадэфініцыі, было б лепшай альтэрнатывай. Напасьледак, у большасьці выпадкаў відавочна, якія групы складаюць меншасьці й якія менавіта катэгорыі меншасьцяў. Цяжкія выпадкі могуць быць пакінутыя для вырашэньня кантрольнымі органамі, якія засноўваюцца міжурадавымі арганізацыямі, як было ў выпадку з тэрмінам „мясцовае насельніцтва“.

## *Працэдуры зьдзейсьненьня законаў*

Пры тым, што праблемы меншасьцяў узьнікаюць часта, органы, якія назіраюць за выкананьнем правоў чалавека, і палітычныя органы не надавалі патрэбнай увагі меншасьцям, якія трапілі ў бяду. Нават калі яны зьвярталі на гэта ўвагу, яны не ажыцьцяўлялі эфэктыўных захадаў. Армяне, баскі, бэрбэры, курды, цыганы, тамілы й іх доля, а таксама праблемы, зь якімі сустракаюцца іншыя групы, засталіся ў асноўным не заўважанымі міжурадавымі арганізацыямі. Выключэньні тычацца ў асноўным тых выпадкаў, калі дзяржавы ў сілу ўнутраных прычынаў актыўна ўмешваюцца ў існуючую праблему: афрыканцы — у праблему большасьці насельніцтва ў Намібіі й ПАР, арабы — у абарону палестынцаў, Вугоршчына — у абарону вугорскага насельніцтва ў Румыніі, Ізраіль — у абарону габраяў ва ўсім сьвеце.

Я не хачу сказаць, што не існуе мэханізмаў выкананьня правоў чалавека. Адпаведна зь існуючымі законамі й заканадаўствамі ёсьць пэўная колькасьць міжнародных працэдураў, якімі могуць карыстацца ўрады, няўрадавыя арганізацыі й ахвяры парушэньня правоў чалавека. Гэтыя кантралюючыя мэханізмы складаюцца з ўрадавых дакладаў аб уласнай дзейнасьці ў гэтым кірунку, мандатаў на пошук і выяўленьне фактычных парушэньняў у спалучэньні са сродкамі хуткага рэагаваньня, кіраваньне гэтымі працэдурамі з боку людзей, якія займаюць высокія пасады ў міжнародных арганізацыях, падачы скаргаў пацярпелымі альбо асобамі, якія прадстаўляюць іх інтарэсы, публічных разглядаў справаў з наступным палітычным і дыпляматычным ціскам.

Усе гэтыя працэдуры былі ў розным часе выкарыстаныя ў сытуацыях зь меншасьцямі. Члены-экспэрты камітэтаў

ААН па дамовах, такія як Камітэт па правох чалавека й Камітэт па выкараненьні расавай дыскрымінацыі, патрабуюць справаздачы ў прадстаўнікоў урадаў (якія падаюць дзяржаўныя даклады па адпаведных пагадненьнях) аб выкананьні правоў меншасьцяў і правяраюць атрыманую інфармацыю, выкарыстоўваючы стандартную працэдуру. Кантралюючыя органы Міжнароднай Арганізацыі Працы прыцягвалі ўвагу да праблемаў карэнных народаў у дзяржавах, якія падпісалі Канвэнцыю №107, і, відавочна, будуць праводзіць такія ж дзеянні, калі Канвэнцыя №169 уступіць у сілу.

Мы ўжо ўзгадвалі пра пазыцыю Камітэта па правох чалавека, дадзенай у адказ на скаргі, якія паступілі адпаведна з факультатыўным пратаколам Пагадненьня па грамадзкіх і палітычных правох. Іншыя дамовы й рэзалюцыі прапаноўваюць дадатковыя пацэдуры падачы скаргаў, некаторыя зь іх можна дастасаваць і да меншасьцяў. Працэдура, якая забясьпечваецца рэзалюцыяй Эканамічнай і Сацыяльнай рады № 1503 (XLVIII), заслугоўвае асаблівай увагі, бо дазваляе групам заяўляць пра грубыя парушэньні іх правоў, а таксама з той прычыны, што яна паўсюль выкарыстоўваецца й не залежыць ад ратыфікацыяў і прыняцьця адпаведных заканадаўстваў.

Апрача больш фармальных працэдураў, дэбаты на міжнародных форумах пра законы па правох чалавека й іх парушэньні могуць паслужыць для прыцягненьня ўвагі й паляпшэньня ўзаемаразуменьня. Трэба прызнаць, што ўрады не вітаюць і імкнуцца пазьбегчы ціску з боку розных міжнародных арганізацыяў. Параўнаньне актыўнага ўдзелу з боку карэнных народаў і няўдзелу з боку меншасьцяў у працы дзьвюх працоўных групаў ААН, якія займаюцца гэтымі пытаньнямі, даводзіць карыснасьць актыўнага выкарыстаньня падобных форумаў.

Няма двух меркаваньняў аб тым, што меншасьці маглі б выкарыстоўваць розныя працэдуры больш эфэктыўнага выкананьня законаў. Для гэтай мэты меншасьцям павінен быць прадстаўлены просты доступ да гэтых працэдураў і да арганізацыяў, якія іх зьдзяйсьняюць. Абмежаваньні на групавыя скаргі ў параўнаньні зь індывідуальнымі зьяўляюцца спаважнай недапрацоўкай у сфэры асаблівых правоў.

Недзяржаўныя арганізацыі адыгрываюць вельмі важную ролю ў распаўсюджваньні й абароне правоў чалавека. У ААН недзяржаўныя арганізацыі маюць доступ да паседжаньняў, уключаючы паседжаньні большасьці арганізацыяў, якія займаюцца правамі чалавека, пры ўмове, што яны маюць так званы кансультатыўны статус у Радзе па эканоміцы й сацыяльных пытаньнях. Для меншасьцяў неабходна ўстанавіць нешта падобнае да статусу, які атрымліваюць недзяржаўныя арганізацыі, каб самі меншасьці маглі атрымаць просты доступ на міжнародныя й рэгіянальныя форумы, прынамсі на тыя, дзе вырашаюцца пытаньні, якія проста ўзьдзейнічаюць на іх існаваньне. Рэлевантныя прэцэндэнты ў ААН, апрача буйных арганізацыяў карэнных народаў, уключаюць таксама групы карэнных народаў, якія атрымалі кансультатыўны статус (Вялікая Рада кры ў Квэбэку (хаця яна й зьяўляецца па сутнасьці органам самакіраваньня), Нацыянальная юрыдычная служба абарыгенаў і насельнікаў выспаў Аўстраліі).

У адпаведнасьці зь некаторымі міжнароднымі інструмэнтамі, якія тычацца правоў чалавека, дзяржавы абавязаны ажыцьцяўляюць спэцыяльныя захады супраць дыскрымінацыі. Міжнароднае пагадненьне па выкараненьні ўсіх формаў расавай дыскрымінацыі патрабуе (артыкул 2, параграф 2), каб усе дзяржавы-ўдзельнікі ажыцьцяўлялі, калі таго патрабуюць абставіны, у сацыяльнай, эканамічнай і культурнай сфэры „спэцыяльныя й канкрэтныя захады, якія забясьпечваюць адэкватнае разьвіцьцё й абарону пэўных расавых групаў і іх членаў“, дзеля таго, каб гарантаваць роўнае й поўнае распаўсюджваньне на ўсіх правоў чалавека. Канвэнцыя таксама ўказвае (артыкул 1, параграф 4), што такія захады не азначаюць расавай дыскрымінацыі. Абодва артыкулы адзначаюць, што існаваньне няроўных і асобных правоў для гэтых групаў спыніцца, калі будзе зьнішчаная аб'ектыўная прычына, якая выклікала іх выкарыстаньне.

Як адзін са сродкаў спыніць дыскрымінацыйную практыку, т.зв. падмацавальныя дзеяньні або „дадатная дыскрымінацыя“, уключае часовыя захады, якія дзейнічаюць да вырашэньня праблемы. Аднак асаблівыя правы, такія як функцыянаваньне інстытутаў адукацыі, палітычны ўдзел ва ўнутраных справах краіны, аўтаномія й права на зямлю патрабуюць доўгага ці нават бесьперапыннага

падмацавальнага ўзьдзеяньня. Гэтая розьніца павінна быць прызнаная ў ходзе міжнароднай дзейнасьці, накіраванай на падтрымку правоў меншасьцяў.

Працэдуры выкарыстаньня правоў даюць магчымасьці, якія выходзяць за рамкі стандартаў, на якіх яны заснаваныя. Асаблівыя правы меншасьцяў неабходна ўмацоўваць, аднак тым зь іх, якія ўжо прынятыя, патрабуецца актыўнае ўкараненьне ў жыцьцё. Існуючыя правы складаюць аснову, але сьмеласьць у іх інтэрпрэтацыі экспэртнымі арганізацыямі й нават невялікія папраўкі, як, напрыклад, наданьне групам больш шырокага доступу на форумы, палепшылі б сытуацыю. Міжурадавыя арганізацыі маглі б пашырыць свае праграмы па абмене інфармацыяй, тэхнічнай дапамозе й іншых відах супрацоўніцтва. Больш таго, меншасьці, іх члены ды няўрадавыя арганізацыі ад іх імя й павінны выкарыстоўваць усе магчымасьці й больш эфэктыўна дамагацца пераменаў.

### *Заключэньне й некаторыя рэкамэндацыі*

Нягледзячы на глыбока ўкаранёную апазыцыю, асаблівыя правы меншасьцяў праніклі ў некаторыя заканадаўствы па правох чалавека. Калі ўлічыць пагарду й нежаданьне ўрадаў, можа ўзьнікнуць ураженьне, што гэтыя правы праніклі ў заканадаўства з нагоды волі гістарычнага выпадку, а не заплянаванай дзейнасьці. Нягледзячы на гэта, узятыя ў цэлым існуючыя дакумэнты, якія забясьпечваюць сацыяльныя правы, і антыдыскрымінацыйныя законы складаюць вельмі ўражальны па аб'ёме пакет юрыдычных дакумэнтаў. Нацыянальныя заканадаўствы, даклады ўрадаў і міжнародных арганізацыяў, праца экспэртаў і недзяржаўных арганізацыяў робяць свой унёсак у гэтую дзейнасьць.

Разрозьненасьць спэцыяльных правоў меншасьцяў, значная колькасьць дадатковых прапановаў і ідэяў на стале перамоваў і прысутнасьць складаных нявырашаных праблемаў сьведчыць аб тым, што наперадзе чакае вялікая праца. Устаноўка ўрадаў на тое, каб любой цаной захаваць нацыянальнае адзінства й тэрытарыяльную цэльнасьць, павінна саступіць месца прызнаньню карысьці дэмакратычнай талеранцыі й плюралізму. Замест таго, каб спадзявацца на састарэлыя й кансэрватыўныя падыходы, якія ня ўлічваюць унутраных канфліктаў і небясьпекі звонку, належыць добраахвотна надаць увагу правам меншасьцяў, бо гэта можа стаць каштоўным укладам у будучыню.

Дакумэнты, якія зьявіліся ў выніку Канфэрэнцыі па Бясьпецы і Супрацоўніцтве ў Эўропе (КБСЭ), паказальныя для новага мысьленьня. Заключны дакумэнт Венскай сустрэчы 1989 году ўстанаўлівае некалькі далёкасяжных правоў меншасьцяў, якія адносяцца да спэцыяльных правоў і недыскрымінацыі. Іх можна знайсьці ў Асноўных прынцыпах і ў разьдзелах, якія прысьвечаныя гуманітарным кантактам, інфармацыі, супрацоўніцтву й абменам у сфэры адукацыі. Ужо заключны акт Гэльсінскай нарады 1975 г. і Заключны дакумэнт Нарады ў Мадрыдзе 1983 г., а таксама даклады дадатковых нарадаў экспэртаў зьмяшчаюць згадкі аб правох меншасьцяў, аднак з 1975 па 1989 гады назіраецца прыкметны ўзрост прызнаньня спэцыфічных патрэбаў нацыянальных меншасьцяў.

Дакумэнты КБСЭ па правох меншасьцяў, асабліва той кантэкст фармаваньня даверу й захаваньня міру, у якім яны ствараліся, заслугоўваюць актыўнага вывучэньня ў рамках заканадаўчай дзейнасьці па правох чалавека. Нажаль, яны не былі ні прадстаўленыя, ні выкарыстаныя ў дзейнасьці працоўнай групы ААН па стварэньні праекту дэклярацыі па правох меншасьцяў. У кантэксьце працы Эўрапейскай Рады дакумэнты КБСЭ маглі б быць больш шырока выкарыстаныя.

Іншая міжурадавая ўстанова — Дасьледчы інстытут ААН па сацыяльным разьвіцьці — праводзіць дасьледаваньне, накіраванае на зразуменьне прычынаў і вынікаў этнічнага напружаньня й гвалту. Ягоны „Дасьледчы праект па этнічных канфліктах і разьвіцьці“, пачаты ў 1990 г., абяцае праліць дадатковае сьвятло на праблемы міру й суадносіны паміж праблемамі меншасьцяў і эканамічным ды сацыяльным разьвіцьцём.

Гэты даклад быў сфакусаваны на рэгуляцыі правоў меншасьцяў міжнароднымі правамі чалавека. Асаблівая ўвага аддавалася законам, што тычацца спэцыяльных правоў, як перашкоды да эфэктыўнай абароны гэтай групы. У ходзе дакладу былі прадстаўленыя прычыны таго, чаму трэба пачынаць з праекту й прыняцьця спэцыяльных правоў меншасьцяў, і была ўзьнятая праблема наданьня некаторых перавагаў гэтым гру-

пам. Гэтыя й іншыя цьверджаньні могуць быць ссумаваныя наступным чынам:

1) Дэклярацыя па прынцыпах міжнароднага культурнага супрацоўніцтва (ЮНЭСКА, 1966, артыкул 1, параграфы 1 і 3) абвяшчае, што „кожная культура мае годнасьць і вартасьць, якія павінны карыстацца пашанай і быць захаванымі“ і, „валодаючы багатай разнастайнасьцю і ўзаемна ўплываючы адзін на аднаго, усе культуры складаюць частку супольнай спадчыны, якая належыць усяму чалавецтву“. Калі мы будзем разглядаць гэты тэкст спаважна, літаральна й захоўваючы яго́ныя акцэнты, то аказваецца, што культуры меншасьцяў заслугоўваюць абароны й павагі ня менш, чымся культуры народаў і нацыяў, пра якія ідзе гаворка ў дэклярацыі.

2) Дэклярацыя пра расы й расавыя перадсуды (ЮНЭСКА, 1978, артыкул 1, параграф 2) абвяшчае: „Усе індывіды й групы маюць права на адрозьненьне, на тое, каб лічыць сябе рознымі й лічыцца такімі“. Дэклярацыя таксама падкрэсьлівае (артыкул 2, параграф 1), што „Любая тэорыя, у аснове якой ляжыць цьверджаньне, што расавыя й этнічныя групы першапачаткова зьяўляюцца вышэйшымі ці ніжэйшымі, што прадугледжвае магчымасьць дамінаваньня адной групы над іншай, ці якая засноўвае вызначэньне вартасьці індывіда ці групы на расавай прыналежнасьці, ня мае пад сабой ніякага навуковага грунту й супярэчыць маральным і этнічным прынцыпам гуманізму“. Прымаючы, што і да гэтага тэксту трэба ставіцца спаважна, адзначым, што вышэйсказанае тычыцца й меншасьцяў.

3) З тых жа самых прычынаў неабходна захоўваць і іншыя характарыстыкі меншасьцяў. Мова, звычаі й сацыяльныя паводзіны зьяўляюцца часткай і перадумовай культуры. Тое ж самае тычыцца й рэлігіі, хаця яе вызнаваньню й адпраўленьню, уключаючы рэлігійнае выхаваньне, могуць быць нададзеныя дагодныя ўмовы з дапамогай спэцыяльнага заканадаўства.

4) Нацыянальны досьвед вучыць нас таму, што прызнаньне й павага спэцыяльных правоў меншасьцяў могуць быць рэальнай альтэрнатывай ціску й пагардзе. Гэта ўключае дэлегаваньне ўлады аўтаномным рэжымам, што надае значнасьць выкананьню спэцыяльных правоў.

5) Унутранае замоўчваньне праблемаў меншасьцяў не дае вынікаў; спробы асыміляцыі таксама ні да чаго не прыводзяць. Меншасьці нікуды не зьнікаюць, яны могуць знаходзіцца ў вельмі пасіўным стане на працягу доўгага часу, але гісторыя вучыць нас, што яны не зьнікаюць з мапы. Нацыяналізм і рух захаваньня нацыянальнай своеасаблівасьці — вельмі спаважныя сілы, і яны аднолькава характэрныя й да дзяржаваўнацыяў, і да меншасьцяў.

6) Нявырашаныя праблемы меншасьцяў крыюць у сабе небясьпеку міжнароднага канфлікту. Выкарыстаньне вонкавай сілы для зьмяненьня межаў нічога не вырашае; замест гэтага ствараюцца новыя й значна больш спаважныя праблемы. Вывады апошняга паседжаньня КБСЭ пацьвярджаюць прысутнасьць сувязі паміж павагай правоў меншасьцяў і мірам.

7) Праблемы меншасьцяў несумненна зьмяняюцца па колькасьці й зьмесьце з увагі на будучую палітычную й эканамічную інтэграцыю ў Эўропе. Але і ў гэтым выпадку няма падставаў лічыць, што праблемы меншасьцяў шчэзнуць, а самі гэтыя групы зьнікнуць. Больш верагодна, што яны высунуць новыя патрабаваньні, якімі будуць займацца новыя форумы. Гэты патэнцыял не павінен і ня можа быць праігнараваны; шматнацыянальнай супольнасьці, якая робіць галоўны акцэнт на эканамічнай прадуктыўнасьці й свабодных рынках, патрабуецца спачуваньне ўсіх і спакойнае існаваньне для таго, каб быць пасьпяховай.

Для Эўрапейскай Рады павінна быць значна прасьцей, чымся для сусьветных арганізацыяў, уключыць спэцыяльныя правы меншасьцяў у новы пратакол Эўрапейскай Канвэнцыі. Эўропа, уключаючы Цэнтральную і Усходнюю часткі кантынэнту, пасьля пашырэньня Эўрапейскай Рады будзе ўяўляць сабой адносна аднародную ў расавых і культурных адносінах супольнасьць. Намаганьні па інтэграцыі, што працягваюцца, адкрываюць новыя магчымасьці, якія павінны быць выкарыстаныя для таго, каб дазволіць народам кантынэнту, якія маюць і ня маюць уласнай дзяржаўнасьці, жыць у супольным доме. Робячы гэта, Эўрапейская Рада змагла б стварыць мадэль для астатняга сьвету, задача якога значна больш складаная.

Выходным пунктам аўтара была існуючая тэрміналёгія па правах чалавека, якую могуць прыняць урады, але шмат якія пытаньні засталіся ў гэтым дакладзе без адказу. Яны тычацца й агульных

праблемаў этнічных узаемаадносінаў, прычынаў і вынікаў этнічных канфліктаў і розных мэтадаў вырашэньня канфліктаў. Аргумэнты, выстаўленыя ў дакладзе, заслугоўваюць больш дэталёвага аналізу, і глыбокае вывучэньне гэтых і іншых праблемаў, несумненна, дасьць больш поўныя адказы. І ўсё ж, нават на гэтай стадыі аўтар бярэ на сябе сьмеласьць даць некаторыя рэкамэндацыі:

1. Для таго, каб запоўніць прагал у абароне меншасьцяў, якія цяпер забясьпечваецца пагадненьнем па правох чалавека, Эўрапейская Рада павінна ўзмацніць існуючыя законы аб недыскрымінацыі падрыхтоўкай і прыняцьцём пратаколу аб спэцыяльных правох для меншасьцяў кантынэнту.

2. Пратакол павінен стасаваць прынцып роўнасьці да меншасьцяў і быць накіраваны на захаваньне й падтрыманьне іх сваеасаблівасьці, спадчыны й годнасьці шляхам уключэньня наступных правоў:

а) Права меншасьці на існаваньне,

б) Бесьперашкоднае выкарыстаньне й далейшае разьвіцьцё культурных і моўных характарыстык,

в) Заснаваньне і кіраваньне меншасьцямі школамі й іншымі інстытутамі адукацыі й навучаньня, уключаючы кантроль за праграмамі й навучаньне на роднай мове,

г) Гарантыі ўдзелу прадстаўнікоў меншасьцяў у палітычным жыцьці дзяржавы,

д) Устанаўленьне тэрытарыяльнай і індывідуальнай аўтаноміі, пад загадам якой было б кіраваньне ўнутранымі справамі групаў, уключаючы культуру, адукацыю, рэлігію, інфармацыю й сацыяльныя службы. Аўтаномныя функцыі павінны абапірацца на самафінансаваньне шляхам падаткаабкладаньня і/ці спэцыяльных асыгнаваньняў.

3. Пратакол павінен абавязаць урады пачаць пазытыўную дзейнасьць, як кароткатэрміновую, так і больш доўгага характару для таго, каб пакласьці канец дыскрымінацыйнай практыцы пры дапамозе спэцыяльных правоў.

4. Вызначэньне бэнэфіцыянтаў павінна вылучыць мінімум аб'ектыўных адзнакаў, такіх, як этнічнае паходжаньне й лінгвістычныя характарыстыкі, а таксама забясьпечыць магчымае выключэньне зь іх колькасьці некаторых катэгорый групаў, якія карыстаюцца адэкватнай абаронай, забясьпечанай іншымі дакумэнтамі. Апрача вышэйзгаданых патрабаваньняў, вызначэньне павінна абапірацца на самавызначэньне пры высьвятленьні прыналежнасьці індывідуума да групы і, у выпадку канфлікту, на меркаваньне й практыку кантрольных органаў Рады.

5. Меншасьці й іх індывідуальныя члены павінны мець магчымасьць падаваць скаргі ў выканаўчыя органы ў адпаведнасьці зь існуючым пратаколам, а таксама мець доступ да працы розных форумаў, якія займаюцца пытаньнямі меншасьцяў у адпаведнасьці зь іншымі дакумэнтамі й пратаколамі Рады.

6. Меншасьці павінны атрымаць гарантаванае прадстаўніцтва ў палітычных органах Рады.

### *Заўвагі*

[10] Спаважны аналіз праблемы гл. у: Oldrich Andrysek, Report on the Definition of Minorities, The Netherland Institute of Human Righta, SIM Special, №8, 1989.

[11] Дакумэнт E/CN. 4/1987/WG. 5/WP.1. Апошняя прапанова была прадстаўленая Jules Deschenes у дакумэнце E/CN. 4/Sub. 2/1985/31 і папраўка 1, але не была ўхваленая падкамітэтам (рэзалюцыя 1985/6); працоўная група камісіі неаднаразова адкладвала разгляд пытаньня (E/CN.4/1989/38, параграф 9).

# Эўрапейская хартыя аб рэгіянальных мовах ці мовах меншасьцяў

***ПРЭАМБУЛА:***

Дзяржавы-члены Рады Эўропы, што падпісалі гэтую Хартыю,

Лічачы, што мэтай Рады Эўропы ёсьць дасягненьне большага адзінства паміж яе членамі, а таксама дзеля абароны й рэалізацыі ідэалаў і прынцыпаў, што складаюць іх агульную спадчыну;

Лічачы, што абарона гістарычных рэгіянальных моваў ці моваў меншасьцяў Эўропы, частка якіх знаходзіцца ў небясьпецы магчымага зьнікненьня, спрыяе падтрымцы й разьвіцьцю культурнага багацьця й традыцыяў Эўропы;

Лічачы, што права карыстацца рэгіянальнай мовай ці мовай меншасьці ў прыватным і грамадзкім жыцьці ёсьць неад'емным правам, у адпаведнасьці з прынцыпамі, ўвасобленымі ў Міжнародным дагаворы ААН аб грамадзянскіх і палітычных правох (United Nation International Covenant on Civil & Political Rights), і згодна духу Канвэнцыі Рады Эўропы аб абароне правоў чалавека й асноўных вольнасьцях;

Зважаючы на работу, праведзеную ў рамах НБСЭ (CSCE) і асабліва на Гэльсінскі заключны акт 1975 году й дакумэнт Капэнгагенскай сустрэчы 1990 году;

Падкрэсьліваючы вартасьць міжкультурных сувязяў і шматмоўнасьці й лічачы, што абарона й заахвочваньне рэгіянальных моваў або моваў меншасьцяў не павінны праводзіцца на шкоду афіцыйным мовам і неабходнасьці іх вывучэньня;

Беручы пад увагу спэцыфічныя ўмовы й гістарычныя традыцыі, уласьцівыя розным рэгіёнам краінаў Эўропы,

*Пагадзіліся аб наступным:*

***Частка I - Агульныя палажэньні***

**Артыкул 1** Вызначэньні

У мэтах гэтай Хартыі:

а. выраз "рэгіянальныя мовы ці мовы меншасьцяў" азначае мовы, якія:

і. традыцыйна ўжываюцца на дадзенай тэрыторыі Дзяржавы грамадзянамі гэтай дзяржавы, што складаюць групу, колькасна меншую за астатняе насельніцтва Дзяржавы;

іі. адрозьніваюцца ад афіцыйнае мовы(аў) гэтай Дзяржавы; у яе не ўваходзяць ніякія дыялекты афіцыйнай мовы(аў) дзяржавы, ані мовы мігрантаў;

b. выраз "тэрыторыя, на якой выкарыстоўваецца рэгіянальная мова ці мова меншасьці"

азначае геаграфічны абшар, на якім названая мова ёсьць сродкам выяўленьня значнай колькасьці люду, якая апраўдвае прыняцьцё розных абарончых і спрыяльніцкіх захадаў, прадугледжаных ў гэтай Хартыі;

с. выраз "мовы, пазбаўленыя тэрыторыі"

азначае мовы, якія выкарыстоўваюцца грамадзянамі Дзяржавы й адрозьніваюцца ад мовы ці моваў, што ўжывае астатняе насельніцтва гэтай Дзяржавы, але ня могуць быць зьвязаныя з асобным геаграфічным абшарам гэтай Дзяржавы, хоць традыцыйна ўжываюцца на яе тэрыторыі.

**Артыкул 2** Абавязкі

1. Кожны Бок бярэ на сабе абавязак прымяняць палажэньні часткі II да ўсіх рэгіянальных моваў ці моваў меншасьцяў, ужываных на яе тэрыторыі, і якія адпавядаюць вызначэньням Артыкулу 1.

2. Адносна любое мовы, вызначанай на момант ратыфікацыі, прыняцьця або ўхваленьня, згодна з Артыкулам 3, кожны Бок бярэ на сябе абавязак прымяняць як мінімум трыццаць пяць пунктаў або падпунктаў, абраных з палажэньняў часткі III гэтай Хартыі, улучна з

прынамсі трыма, абранымі з Артыкулаў 8 і 12 і адным з Артыкулаў 9, 10, 11 і 13.

**Артыкул 3** Практычныя мерапрыемствы

1. Кожная зь Дзяржаваў-удзельніц мае вызначыць у сваім інструмэнце ратыфікацыі, прыняцьця або ўхваленьня кожную рэгіянальную мову або мову меншасьці, альбо кожную афіцыйную мову, менш пашыраную на ўсёй або частцы яе тэрыторыі, да якой будуць прымяняцца пункты, абраныя ў адпаведнасьці з пунктам 2, Артыкулам 2.

2. Любы Бок у любы наступны момант можа паведаміць шляхам натыфікацыі на імя Генэральнага Сакратара, што ён прымае абавязкі, якія вынікаюць з палажэньняў якога-небудзь іншага пункта Хартыі, яшчэ нявызначанага ў яго інструмэнце ратыфікацыі, прыняцьця або ўхваленьня, або што ён будзе прымяняць пункт 1 гэтага Артыкулу да іншых рэгіянальных моваў ці моваў меншасьцяў, або да іншых афіцыйных моваў, менш пашыраных на ўсёй або частцы яго тэрыторыі.

3. Абавязкі, прадугледжаныя ў папярэднім пункце, маюць разглядацца як неад'емная частка ратыфікацыі, прыняцьця або ўхваленьня й будуць мець аднолькавую моц з даты іхнае ратыфікацыі.

**Артыкул 4** Існуючыя рэжымы ахові

1. Нішто ў гэтай Хартыі ня можа разглядацца як абмежаваньне або звужэньне правоў, гарантаваных Эўрапейскай канвэнцыяй аб правох чалавека.

2. Палажэньні гэтай Хартыі ня чыняць шкоды больш спрыяльным палажэньням, што датычацца статусу рэгіянальных моваў або моваў меншасьцяў альбо прававога рэжыму асобаў, належных да меншасьцяў, якія могуць існаваць ў нейкага Боку, або прадугледжаны ў адпаведных міжнародных двухбаковых ці шматбаковых пагадненьнях.

**Артыкул 5** Існуючыя абавязкі

Нішто ў гэтай Хартыі ня можа разумецца як наяўнасьць права займацца якой-небудзь дзейнасьцю альбо ўчыняць якія-небудзь дзеяньні, супярэчныя мэтам Статута ААН альбо іншым забавязаньням паводле міжнароднага права, уключна з прынцыпам сувэрэнітэту й тэрытарыяльнай цэльнасьці Дзяржаваў.

**Артыкул 6** Інфармацыя

Бакі бяруць абавязак клапаціцца аб тым, каб адпаведныя ўлады, арганізацыі й асобы былі паінфармаваныя аб правох і абавязках, замацаваных у гэтай Хартыі.

## *Частка II — Мэты й прынцыпы, прыйманыя ў адпаведнасьці з Артыкулам 2, пунктам 1*

**Артыкул 7** Мэты й прынцыпы

1. У дачыненьні да рэгіянальных моваў або моваў меншасьцяў, на тых тэрыторыях, дзе такія мовы выкарыстоўваюцца і ў адпаведнасьці са становішчам кожнай мовы, Бакі засноўваюць сваю палітыку, заканадаўства й практыку паводле наступных мэтаў і прынцыпаў:

a) прызнаньне рэгіянальных моваў ці моваў меншасьцяў выразьнікам культурнага багацьця;

b) павага да геаграфічнага абшару кожнай рэгіянальнай мовы ці мовы меншасьці дзеля забесьпячэньня таго, каб наяўны або новы адміністрацыйны падзел не чыніў перашкодаў для разьвіцьця гэтай рэгіянальнай мовы ці мовы меншасьцяў;

c) неабходнасьць разважных дзеяньняў дзеля разьвіцьця рэгіянальных моваў ці моваў меншасьцяў з мэтаю іхнага захаваньня;

d) умагчымленьне й/або заахвочваньне карыстаньня рэгіянальнымі мовамі ці мовамі меншасьцяў вусна й пісьмова, у грамадзкім і прыватным жыцьці;

e) падтрымка й разьвіцьцё сувязяў у галіне, ахопленай гэтай Хартыяй, паміж групамі, што выкарыстоўваюць рэгіянальную мову або мову меншасьці ды іншымі групамі ў дзяржаве, што ўжываюць мову ў ідэнтычнай або блізкай форме, таксама як і ўсталяваньне культурных адносінаў зь іншымі групамі дзяржавы, што выкарыстоўваюць розныя мовы;

f) забесьпячэньне адпаведных формаў і сродкаў для выкладаньня й вывучэньня рэгіянальных моваў і моваў меншасьцяў на ўсіх адпаведных стадыях;

g) забесьпячэньне ўмоваў для тых, хто не размаўляе на рэгіянальнай мове ці мове меншасьці, але жыве на тэрыторыі, дзе яна скарыстоўваецца, пры жаданьні вывучыць яе;

h) спрыяньне вывучэньню й дасьледаваньню рэгіянальных моваў і моваў меншасьцяў ва ўнівэрсытэтах або раўназначных установах;

i) спрыяньне адпаведным формам транснацыянальных абменаў у сфэры, ахопленай гэтай Хартыяй, для рэгіянальных моваў ці моваў меншасьцяў, што ўжываюцца у ідэнтычнай або блізкай форме ў дзьвюх ці болей Дзяржавах.

2. Бакі бяруць абавязак адмовіцца, калі гэта яшчэ ня зроблена, ад усялякага неапраўданага адрозьніваньня, выключэньня, абмежаваньня або перавагі адносна выкарыстаньня рэгіянальнай мовы ці мовы меншасьці, што мае на мэце зьнеахвочваньне ці стаўляньне пад пагрозу падтрымку альбо разьвіцьцё гэтага. Прыняцьцё адмысловых захадаў на карысьць рэгіянальных моваў ці моваў меншасьцяў з мэтаю пашырэньня роўнасьці паміж карыстальнікамі гэтых моваў і астатнім насельніцтвам або тымі, хто надае належную ўвагу сваім спэцыфічным умовам, ня будзе разглядацца як акт дыскрымінацыі супраць карыстальнікаў шырэй ужываных моваў.

3. Бакі абавязваюцца спрыяць праз адпаведныя захады ўзаемнаму разуменьню паміж усімі лінгвістычнымі групамі краіны, у прыватнасьці праз улучэньне шанаваньня, разуменьня й церпнасьці адносна рэгіянальных моваў і моваў меншасьцяў у мэты сыстэмаў адукацыі й выхаваньня, наяўных ў іх краінах, заахвочваньне сродкаў масавай інфармацыі ставіць сабе такія самыя мэты.

4. Вызначаючы палітыку адносна рэгіянальных моваў ці моваў меншасьцяў, Бакі прымуць пад увагу патрэбы й пажаданьні, выказаныя групамі, якія ўжываюць такія мовы. Яны заахвочваюцца да заснаваньня органаў, калі гэта неабходна, дзеля кансультаваньня ўладаў па ўсіх праблемах, зьвязаных з рэгіянальнымі мовамі ці мовамі меншасьцяў.

5. Бакі абавязваюцца ўжываць, *mutatis mutandis*, прынцыпы, пералічаныя ў вышэйпададзеных пунктах 1—4 аб мовах, пазбаўленых тэрыторыі. Аднак у выпадку гэтых моваў сутнасьць і значнасьць захадаў, прыйманых для выкананьня гэтай Хартыі, вызначаюцца гнуткім чынам, з улікам патрэбаў і пажаданьняў і з павагаю да традыцыяў і характэрных асаблівасьцяў групаў, што ўжываюць гэтыя мовы.

## *Частка III — Захады на пашырэньне ўжываньня рэгіянальных моваў або моваў меншасьцяў у грамадзкім жыцьці згодна з абавязкамі, прынятымі ў Артыкуле 2, пункце 2.*

**Артыкул 8** Адукацыя

У сфэры адукацыі Бакі бяруць абавязак, адносна тэрыторыі, дзе такія мовы выкарыстоўваюцца, у адпаведнасьці з сытуацыяй кожнай мовы й безь перашкодаў у навучаньні афіцыйнай(ым) мове(ам) Дзяржавы:

a) (i) прадугледзець забесьпячэньне дашкольнай адукацыі ў адпаведных рэгіянальных мовах ці мовах меншасьцяў; або

(ii) прадугледзець, каб значная частка дашкольнай адукацыі забясьпечвалася ў адпаведных рэгіянальных мовах ці мовах меншасьцяў; або

(iii) выкарыстаць адзін з захадаў, прадугледжаных у падпунктах (i) і (ii) хаця б да тых вучняў, чые сем'і гэтага патрабуюць і чыя колькасьць лічыцца дастатковай;

або

(iv) калі дашкольная адукацыя не знаходзіцца ў непасрэднай кампэтэнцыі дзяржаўных уладаў, спрыяць і/або падтрымліваць выкарыстаньне захадаў, што адносяцца да падпунктаў з (i) па (iii);

b) (i) прадугледзець забесьпячэньне пачатковай адукацыі ў адпаведнай рэгіянальнай мове ці мове меншасьцяў;

або

(ii) прадугледзець, каб значная частка пачатковай адукацыі забясьпечвалася ў адпаведнай рэгіянальнай мове ці мове меншасьцяў;

або

(iii) прадугледзець у пачатковай адукацыі навучаньне адпаведнай рэгіянальнай мове ці мове меншасьцяў як складовай часткі курсу навучаньня;

або

(iv) прымяняць адзін з захадаў, прадугледжаных у пунктах з (i) па (iii) хоць бы да тых вучняў, чые сем'і гэтага патрабуюць і чыя колькасьць лічыцца дастатковай;

c) (i) прадугледзець забесьпячэньне сярэдняй адукацыі ў адпаведных рэгіянальных мовах ці мовах меншасьцяў;

або

(ii) прадугледзець, каб асноўная частка сярэдняй адукацыі забясьпечвалася ў адпаведных рэгіянальных мовах ці мовах меншасьцяў;

або

(iii) прадугледзець у рамах сярэдняй адукацыі навучаньне адпаведным рэгіянальным мовам ці мовам меншасьцяў як складовай часткі курсу навучаньня;

або

(iv) выкарыстаць адзін з захадаў, выкладзеных у падпунктах з (i) па (iii) хоць бы адносна тых вучняў, таго жадаюць,

або чые сем'і гэтага жадаюць, калі іхная колькасьць лічыцца дастатковай;

d) (i) прадугледзець забесьпячэньне тэхнічнай і прафэсійнай адукацыі ў адпаведных рэгіянальных мовах ці мовах меншасьцяў;

або

(ii) прадугледзець забесьпячэньне асноўнай часткі тэхнічнай і прафэсійнай адукацыі ў адпаведных рэгіянальных мовах ці мовах меншасьцяў;

або

(iii) прадугледзець у рамах тэхнічнай і прафэсійнай адукацыі навучаньне адпаведным рэгіянальным мовам ці мовам меншасьцяў як складовай часткі курсу навучаньня;

або

(iv) прымяняць адзін з захадаў, выкладзеных у падпунктах з (i) па (iii) хоць бы да тых вучняў ці да тых сем'яў, што гэтага жадаюць у колькасьці, што лічыцца дастатковай;

e) (i) прадугледзець унівэрсытэцкую ды іншую вышэйшую адукацыю ў рэгіянальных мовах ці мовах меншасьцяў;

або

(ii) забясьпечыць магчымасьці для вывучэньня гэтых моваў як унівэрсытэцкіх прадметаў і прадметаў вышэйшай адукацыі;

або

(iii) калі з прычыны ролі Дзяржавы адносна вышэйшых навучальных установаў, падпункты (пункты) (i) і (ii) ня могуць прымяняцца, -- заахвочваць і/або дазваляць забесьпячэньне ўнівэрсытэцкай ці іншай формы вышэйшай адукацыі ў рэгіянальных мовах ці мовах меншасьцяў або магчымасьці для вывучэньня гэтых моваў ва ўнівэрсытэтах або іншых установах вышэйшай адукацыі;

f) (i) прыняць захады дзеля забесьпячэньня курсаў для дарослых або курсаў бесьперапыннай адукацыі ў асноўным ці цалкам на рэгіянальных мовах ці мовах меншасьцяў;

або

(ii) прапанаваць вывучэньне такіх моваў як прадметаў сыстэмы адукацыі для дарослых або бесьперапыннай адукацыі;

або

(iii) калі сыстэма адукацыі для дарослых і бесьперапыннай адукацыі не ўваходзіць у непасрэдную кампэтэнцыю дзяржаўных уладаў -- спрыяць і/або заахвочваць выкладаньне такіх моваў у рамах сыстэмы адукацыі для дарослых і бесьперапыннай адукацыі;

g) зрабіць захады па забесьпячэньні навучаньня гісторыі й культуры, што адлюстроўваецца ў рэгіянальных мовах ці мовах меншасьцяў;

h) забясьпечыць асноўнае й далейшае навучаньне настаўнікаў, што патрабуецца для выкананьня тых параграфаў з a) да g), якія прыняты бокам;

i) прызначыць куратарскі орган ці органы, адказныя за маніторынг прынятых захадаў і дасягнутага прагрэсу ў арганізацыі й развіцьці навучаньня рэгіянальным мовам ці мовам меншасьцяў і складаньне рапартаў аб іх дзейнасьці, якія будуць рабіцца публічнымі.

2. Адносна адукацыі і ў дачыненьні тэрыторыяў іншых за тыя, дзе рэгіянальныя мовы ці мовы меншасьцяў традыцыйна выкарыстоўваюцца, бакі бяруць абавязак дазваляць, падтрымліваць ці забясьпечваць навучаньне на рэгіянальных мовах ці мовах меншасьцяў на ўсіх адпаведных стадыях адукацыі, калі колькасьць карыстальнікаў гэтых моваў апраўдвае гэта.

**Артыкул 9 Судовыя ўлады**

1. Бакі абавязваюцца, у дачыненьні да судовых раёнаў, у якіх колькасьць стала пражываючых насельнікаў, што карыстаюцца рэгіянальнымі мовамі ці мовамі меншасьцяў, апраўдвае захады, зазначаныя ніжэй, у адпаведнасьці з сытуацыяй з кожнай з гэтых моваў і пры ўмове таго, што ўжыцьцё магчымасьцяў, што дае гэты пункт, ня лічыцца судзьдзём за перашкоду ўласна кіраваньню правасудзьдзем:

a) у крымінальным перасьледаваньні:

(i) забясьпечыць, каб суды па патрабаваньні аднаго з бакоў праводзілі разгляд справы ў судзе на рэгіянальных мовах ці мовах меншасьцяў;

і/або

(ii) гарантаваць абвінавачанаму права ўжываць яго/яе рэгіянальную мову ці мову меншасьці;

і/або

(iii) забясьпечыць, каб прашэньні й сьведчаньні, ці то пісьмовыя, ці то вусныя, не лічыліся непрыймальнымі толькі таму, што яны складзеныя на рэгіянальнай мове ці мове меншасьці;

і/або

(iv) выпрацоўваць па патрабаваньні дакумэнты, зьвязаныя з судаводзтвам на адпаведнай рэгіянальнай мове ці мове меншасьці й калі неабходна праз выкарыстаньне перакладчыкаў і перакладаў,

што не патрабуюць дадатковых выдаткаў асобаў, якіх гэта тычыцца;

b) у грамадзянскіх працэсах:

(i) забясьпечыць, каб суды, на патрабаваньне аднаго з бакоў, праводзілі працэс на рэгіянальных мовах ці мовах рэгіянальных меншасьцяў;

і/або

(ii) даваць магчымасьць кожны раз, калі бок павінен зьявіцца пэрсанальна ў суд, каб ён ці яна мог/магла скарыстацца сваёй рэгіянальнай мовай ці мовай меншасьці безь якіх-небудзь выкліканых гэтым дадатковых выдаткаў;

і/або

(iii) даваць магчымасьць выпрацоўваць дакумэнты й сьведчаньні на рэгіянальных мовах ці мовах меншасьцяў, калі неабходна, праз выкарыстаньне перакладчыкаў і перакладаў;

c) у працэдурах, папярэдніх судам, што датычацца адміністратыўных справаў:

(i) забясьпечыць тое, каб суды, на патрабаваньне аднаго з бакоў, праводзілі працэсы на рэгіянальных мовах ці мовах меншасьцяў;

і/або

(ii) даваць магчымасьць, кожны раз, калі бок павінен зьявіцца пэрсанальна ў суд, каб ён ці яна мог/магла скарыстацца сваёй рэгіянальнаю моваю ці моваю меншасьці безь якіх-небудзь выкліканых гэтым дадатковых выдаткаў;

і/або

(iii) даваць магчымасьць выпрацоўваць дакумэнты й сьведчаньні на рэгіянальных мовах ці мовах меншасьцяў, пры неабходнасьці праз выкарыстаньне перакладчыкаў і перакладаў;

d) прыняць захады дзеля забесьпячэньня таго, каб прымяненьне падпунктаў (i) і (iii) пункта b) і c) і ўсялякае выкарыстаньне перакладчыкаў і перакладаў не выклікала дадатковых выдаткаў для зацікаўленых асобаў.

2. Бакі бяруць абавязак:

a) не адмаўляць сапраўднасьці юрыдычных актаў, выпрацаваных у Дзяржаве толькі таму, што яны складаліся на рэгіянальнай мове ці мове меншасьці;

або

b) не адмаўляць сапраўднасьці, калі бакі дамовіліся аб іншым, юрыдычных актаў, складзеных у Дзяржаве толькі таму, што яны складзены на рэгіянальнай мове ці мове меншасьці, і забясьпечыць, каб яны маглі быць ужытыя супраць трэціх зацікаўленых бакоў, якія не зьяўляюцца карыстальнікамі гэтых моваў на ўмове таго, што зьмест дакумэнта будзе зроблены зразумелым для іх тымі, хто патрабуе ўжыцьця гэтага дакумэнта;

або

c) не адмаўляць сапраўднасьці, калі бакі не дамовіліся аб іншым, прававых дакумэнтаў, выпрацаваных у краіне толькі таму, што яны складаліся на рэгіянальнай мове ці мове меншасьці.

3. Бакі бяруць абавязак удаступніць, на рэгіянальных мовах ці мовах меншасьцяў, найбольш важныя нацыянальныя заканадаўчыя тэксты й тыя зь іх, што адносяцца да карыстальнікаў гэтых моваў, калі толькі яны не забясьпечаны іншым чынам.

**Артыкул 10** Адміністрацыйныя ўлады й дзяржаўныя службы

1. У адміністрацыйных раёнах Дзяржавы, у якіх колькасьць сталых жыхароў, што карыстаюцца рэгіянальнымі мовамі або мовамі меншасьцяў, апраўдвае захады, зазначаныя ніжэй і ў адпаведнасьці са становішчам кожнай з гэтых моваў, Бакі бяруць абавязак у той ступені, у якой гэта мэтазгодна

a) (i) забясьпечыць выкарыстаньне адміністрацыйнымі ўладамі рэгіянальных моваў або моваў меншасьцяў;

або

(ii) забясьпечыць, каб службовыя асобы, што вядуць кантакты з грамадзянамі, карысталіся рэгіянальнымі мовамі або мовамі меншасьцяў у адносінах з асобамі, якія зьвяртаюцца да іх на гэтых мовах;

або

(iii) забясьпечыць, каб карыстальнікі рэгіянальнымі мовамі або мовамі меншасьцяў маглі падаваць вусныя ці пісьмовыя заявы й атрымліваць адказ на гэтых мовах;

або

(iv) забясьпечыць, каб карыстальнікі рэгіянальнымі мовамі або мовамі меншасьцяў маглі падаваць вусныя й пісьмовыя заявы на гэтых мовах;

(v) забясьпечыць, каб карыстальнікі рэгіянальнымі мовамі або мовамі меншасьцяў маглі законна падаць на разгляд дакумэнт на гэтай мове;

b) забясьпечыць для насельніцтва шырокаўжываныя адміністратыўныя тэксты й фармуляры на рэгіянальных мовах ці мовах меншасьцяў або дзьвюхмоўныя вэрсіі;

c) дазваляць адміністрацыйным уладам складаць дакумэнты на рэгіянальнай

мове ці мове меншасьці.

2. Што тычыцца мясцовых і рэгіянальных уладаў, калі на іх тэрыторыі сталыя жыхары, што карыстаюцца рэгіянальнымі мовамі ці мовамі меншасьцяў, маюць апраўдальную колькасьць для прыняцьця зазначаных ніжэй захадаў, Бакі бяруць абавязак зрабіць магчымым і/або падтрымаць:

a) выкарыстаньне рэгіянальных моваў ці моваў меншасьцяў у рэгіянальнай ці мясцовай адміністрацыі;

b) магчымасьць для карыстальнікаў рэгіянальнымі мовамі або мовамі меншасьцяў падаваць на разгляд вусныя ці пісьмовыя заявы на гэтых мовах;

c) публікаваньне рэгіянальнымі ўладамі афіцыйных дакумэнтаў таксама й на адпаведных рэгіянальных мовах ці мовах меншасьцяў;

d) публікаваньне мясцовымі ўладамі афіцыйных дакумэнтаў таксама й на адпаведных рэгіянальных мовах або мовах меншасьцяў;

e) выкарыстаньне рэгіянальнымі ўладамі рэгіянальных моваў ці моваў меншасьцяў пры абмеркаваньнях на сходах, не выключаючы, аднак, выкарыстаньня афіцыйнай(ых) мовы(аў) Дзяржавы;

f) выкарыстаньне мясцовымі ўладамі рэгіянальных моваў ці моваў меншасьцяў пры абмеркаваньнях на сходах, не выключаючы, аднак, выкарыстаньня афіцыйнай(ых) мовы(аў) Дзяржавы;

g) выкарыстаньне або прыняцьцё, пры неабходнасьці разам з назовам на афіцыйнай(ых) мове(ах), традыцыйных і правільных формаў тапанімічных назваў на рэгіянальных мовах ці мовах меншасьцяў.

3. Адносна дзяржаўных службаў, што забясьпечваецца адміністрацыйнымі ўладамі або іншымі асобамі, якія дзейнічаюць ад іх імя, Бакі бяруць забавязаньне на тэрыторыі, дзе рэгіянальныя мовы ці мовы меншасьцяў выкарыстоўваюцца, адпаведна са становішчам кожнай мовы й настолькі, наколькі гэта мэтазгодна:

a) забясьпечыць, каб рэгіянальныя мовы ці мовы меншасьцяў выкарыстоўваліся ў забесьпячэньні службы;

або

b) даць магчымасьць карыстальнікам рэгіянальнымі мовамі ці мовамі меншасьцяў падаваць запыты й атрымліваць адказ на гэтых мовах;

або

c) даць магчымасьць карыстальнікам рэгіянальнымі мовамі або мовамі меншасьцяў падаваць запыты на гэтых мовах.

4. З мэтай зьдзейсьненьня тых палажэньняў падпунктаў 1, 2 і 3, прынятых імі, Бакі бяруць абавязак ажыцьцявіць адзін ці болей з наступных захадаў:

a) пісьмовы або вусны пераклад, які можа патрабавацца;

b) набор і, калі неабходна, навучаньне службовых асобаў і іншых патрэбных супрацоўнікаў дзяржаўных службаў;

c) задавальненьне паводле магчымасьці просьбаў супрацоўнікаў дзяржаўных службаў, што маюць веды ў рэгіянальнай мове ці мове меншасьці, у прызначэньні на тэрыторыю, дзе гэтая мова ўжываецца.

5. Бакі бяруць абавязак дазволіць выкарыстаньне ці прыняцьцё патронімаў (прозьвішчаў і імёнаў) на рэгіянальных мовах ці мовах меншасьцяў, на патрабаваньне зацікаўленых асобаў.

**Артыкул 11** Сродкі інфармацыі

1. Бакі бяруць абавязак, для карыстальнікаў рэгіянальнымі мовамі ці мовамі меншасьцяў на тэрыторыях, у якіх гэтымі мовамі карыстаюцца, адпаведна са становішчам кожнай мовы, у той ступені, у якой дзяржаўныя ўлады маюць кампэтэнцыю, уладу або адыгрываюць ролю ў гэтай сфэры, шануючы прынцыпы незалежнасьці й самастойнасьці сродкаў інфармацыі:

a) у той ступені, у якой радыё й тэлевізія выконваць місію дзяржаўнае службы:

(i) забясьпечыць стварэньне хаця б адной радыёстанцыі й аднаго тэлевізійнага каналу на рэгіянальных мовах ці мовах меншасьцяў;

або

(ii) падтрымаць і/або спрыяць стварэньню хаця б адной радыёстанцыі й аднаго тэлевізійнага каналу на рэгіянальных мовах ці мовах меншасьцяў;

або

(iii) зрабіць неабходнае забесьпячэньне таго, каб тыя, хто рыхтуюць тэлерадыёпраграмы, рабілі іх на рэгіянальных мовах ці мовах меншасьцяў;

або

b) (i) падтрымаць і/або спрыяць стварэньню хаця б адной радыёстанцыі на рэгіянальных мовах ці мовах меншасьцяў;

або

(ii) падтрымліваць і/або спрыяць рэгулярнай трансьляцыі радыёпраграмаў на рэгіянальных мовах ці мовах меншасьцяў;

c) (i) падтрымліваць і/або спрыяць стварэньню хаця б аднаго тэлевізійнага каналу на рэгіянальнай мове ці мове меншасьці;

або

(ii) падтрымаць і/або спрыяць рэгулярнай трансьляцыі тэлевізійных праграмаў на рэгіянальных мовах ці мовах меншасьцяў;

d) падтрымліваць і/або спрыяць стварэньню й разьмеркаваньню аўдыё- і аўдыёвізуальнае прадукцыі на рэгіянальных мовах ці мовах меншасьцяў;

e) (i) падтрымліваць і/або спрыяць стварэньню і/або дапамагаць хаця б адной газэце на рэгіянальных мовах ці мовах меншасьцяў;

або

(ii) падтрымліваць і/або спрыяць рэгулярнаму публікаваньню газэтных артыкулаў на рэгіянальных моваў ці мовах меншасьцяў;

f) (i) пакрываць дадатковыя выдаткі тых сродкаў інфармацыі, што ўжываць рэгіянальныя мовы ці мовы меншасьцяў, нават калі закон прадугледжвае фінансавую дапамогу ўвогуле для ўсіх сродкаў інфармацыі;

або

(ii) пашырыць існыя спосабы фінансавай дапамогі таксама на аўдыёвізуальную прадукцыю на рэгіянальных мовах ці мовах меншасьцяў;

g) падтрымліваць падрыхтоўку журналістаў і іншых супрацоўнікаў сродкаў інфармацыі, што ўжываюць рэгіянальныя мовы ці мовы меншасьцяў.

2. Бакі бяруць абавязак гарантаваць свабоду простага прыёму радыё- і тэлевізійных перадачаў з суседніх краінаў на мове, ужыванай у форме, тоеснай ці блізкай да рэгіянальнай мовы ці мовы меншасьці, і не выступаць супраць рэтрансьляцыі радыё- і тэлевізійных праграмаў з суседніх краінаў на такой мове. Апрача таго яны бяруць абавязак забясьпечыць, каб не было ніякіх абмежаваньняў адносна свабоды слова й вольнага перамяшчэньня інфармацыі на мове, што ўжываецца ў форме, тоеснай ці блізкай да рэгіянальнай мовы ці мовы меншасьці. Карыстаньне вышэйзгаданымі свабодамі, з часу іх дзеяньня, улучаючы абавязкі й адказнасьць, можа падлягаць фармальнасьцям, умовам, абмежаваньням ці санкцыям, прадпісаным законам і неабходным і ў дэмакратычным грамадзтве, у мэтах нацыянальнае бясьпекі, тэрытарыяльнае цэльнасьці ці грамадзкае бясьпекі, для прадухіленьня беспарадку або злачынстваў, для абароны здароўя ці маралі, для абароны годнасьці ці правоў іншых, для прадухіленьня раскрыцьця канфідэнцыйнай інфармацыі або для падтрымкі аўтарытэту й бестароннасьці судовай улады.

3. Бакі бяруць абавязак забясьпечыць, каб інтарэсы карыстальнікаў рэгіянальнымі мовамі ці мовамі меншасьцяў былі рэпрэзэнтаваныя або браліся пад увагу структурамі, што могуць быць створаныя ў адпаведнасьці з законам, і задача якіх заключаецца ў гарантаваньні свабоды й плюралізму сродкаў інфармацыі.

**Артыкул 12** Культурная дзейнасьць і культурныя аб'екты

1. У адносінах да культурных мерапрыемстваў і ўстановаў — асабліва бібліятэк, відэабібліятэк, культурных цэнтраў, музэяў, архіваў, акадэміяў, тэатраў і кінатэатраў, таксама як і да літаратурнай работы й кінапрадукцыі, народнай культурнай творчасьці, фэстываляў і культурнай індустрыі, уключна, у прыватнасьці, з выкарыстаньнем новых тэхналёгіяў — Бакі бяруць абавязак, у дачыненьні тэрыторыі, дзе такія мовы ўжываюцца і ў ступені, у якой дзяржаўныя ўлады правамоцныя, маюць кампэтэнцыю ці граюць ролю ў гэтай сфэры:

a) заахвочваць спосабы выражэньня ды ініцыятывы ўласьцівыя для рэгіянальных моваў ці моваў меншасьцяў, і спрыяць розным сродкам доступу да твораў на гэтых мовах;

b) спрыяць розным сродкам доступу на іншых мовах да твораў на рэгіянальных мовах ці мовах меншасьцяў праз падтрымку й разьвіцьцё перакладу, дубляваньня, наступную сынхранізацыю й падрыхтоўку субтытраў;

c) спрыяць доступу на рэгіянальных мовах ці мовах меншасьцяў да прадукцыі на іншых мовах праз разьвіцьцё перакладу, дубляваньня, постсынхранізацыю й падрыхтоўку субтытраў;

d) забясьпечыць, каб органы, адказныя за арганізацыю ці падтрымку розных кірункаў культурнае дзейнасьці, надавалі належную ўвагу прыцягненьню культурных здабыткаў, ужываньню рэгіянальных моваў ці моваў меншасьцяў у мерапрыемствах, што яны арганізуюць ці што яны падтрымліваюць;

e) разьвіваць захады дзеля забесьпячэньня таго, каб органы, адказныя за арганізацыю ці падтрымку розных формаў культурнае дзейнасьці, мелі ў

сваім распараджэньні службовы штат, які свабодна валодае адпаведнай рэгіянальнай мовай ці мовай меншасьці, таксама як і мовай/мі астатняга насельніцтва;

f) заахвочваць непасрэдны ўдзел прадстаўнікоў карыстальнікаў дадзенай рэгіянальнай мовы ці мовы меншасьці ў ажыцьцяўленьні дзейнасьці й пляnаваньні культурных мерапрыемстваў;

g) заахвочваць і/або спрыяць стварэньню органу ці органаў, адказных за збор, захаваньне й прэзэнтацыю ці друк прадукцыі на рэгіянальных мовах ці мовах меншасьцяў;

h) калі неабходна, ствараць і/або садзейнічаць і фінансаваць перакладчыцкія й тэрміналягічныя дасьледчыя службы, у прыватнасьці з мэтаю падтрымкі й разьвіцьця адпаведнай адміністрацыйнай, камэрцыйнай, эканамічнай, сацыяльнай, тэхнічнай ці юрыдычнай тэрміналёгіі кожнай з рэгіянальных моваў ці моваў меншасьцяў.

2. У дачыненьні тэрыторыяў, адрозных ад тых, дзе рэгіянальныя мовы ці мовы меншасьцяў традыцыйна выкарыстоўваюцца, Бакі бяруць абавязак, калі колькасьць карыстальнікаў рэгіянальнымі мовамі ці мовамі меншасьцяў апраўдвае гэта, даваць магчымасьць, заахвочваць і/або забясьпечваць адпаведную культурную дзейнасьць і культурныя органы згодна з папярэднім пунктам.

3. Бакі бяруць абавязак адпаведным чынам клапаціцца аб правядзеньні культурнай палітыкі за мяжой, для рэгіянальных моваў ці моваў меншасьцяў і культураў, што яны выражаюць.

**Артыкул 13** Эканамічнае й сацыяльнае жыцьцё

1. Адносіна эканамічнай і сацыяльнай дзейнасьці, Бакі бяруць абавязак, на ўсёй тэрыторыі краіны:

a) выключыць зь іх заканадаўства любое палажэньне, што забараняе або абмяжоўвае без апраўданых прычынаў выкарыстаньне рэгіянальных моваў ці моваў меншасьцяў у дакумэнтах, што адносяцца да эканамічнага й сацыяльнага жыцьця, асабліва працоўных кантрактаў, і ў тэхнічных дакумэнтах, такіх, як інструкцыі па эксплюатацыі ці ўсталяваньні;

b) забараніць уключэньне ва ўнутраныя статуты кампаніяў і прыватныя дакумэнты якіх-небудзь пунктаў па выключэньні ці абмежаваньні выкарыстаньня рэгіянальных моваў ці моваў меншасьцяў, нават паміж карыстальнікамі адной мовы;

c) супрацьдзеіць практыцы, што зьнеахвочвае карыстаньне рэгіянальнымі мовамі ці мовамі меншасьцяў у сувязі з эканамічнай ці сацыяльнай дзейнасьцю;

d) спрыяць і/або заахвочваць выкарыстаньне рэгіянальных моваў ці моваў меншасьцяў іншымі сродкамі, апрача вышэйазначаных.

2. Адносна эканамічнай і сацыяльнай дзейнасьці Бакі бяруць абавязак, у той ступені, у якой гэта ўваходзіць у кампэтэнцыю дзяржаўных уладаў, на тэрыторыі, дзе рэгіянальныя мовы й мовы меншасьцяў ужываюцца, наколькі гэта мэтазгодна:

a) улучыць у фінансавыя й банкаўскія статуты палажэньні, што дазваляюць выкарыстаньне рэгіянальных моваў ці моваў меншасьцяў пры складаньні сродкаў аплаты (чэкаў, драфтаў і г.д.) ці іншых фінансавых дакумэнтаў праз працэдуры, сумяшчальныя з камэрцыйнай практыкай ці, калі патрэбна, забясьпечыць прымяненьне такіх палажэньняў;

b) у эканамічных і сацыяльных сэктарах, непасрэдна кантраляваных імі (дзяржаўны сэктар), арганізаваць дзейнасьць па пашырэньні ўжываньня рэгіянальных моваў і моваў меншасьцяў;

c) забясьпечыць, каб установы сацыяльнага забесьпячэньня, напрыклад, шпіталі, дамы й інтэрнаты для састарэлых давалі магчымасьць падчас прыняцьця й лячэньня карыстаньня роднай мовай асобам, што ўжываюць рэгіянальныя мовы й мовы меншасьцяў, калі ім патрэбная дапамога з прычыны хваробы, сталага ўзросту ці зь іншых прычынаў;

d) забясьпечыць праз адпаведныя сродкі, каб інструкцыі па бясьпецы таксама былі складзены на рэгіянальных мовах ці мовах меншасьцяў;

e) забясьпечыць, каб інфармацыя, што падаецца правамоцнымі дзяржаўнымі ўладамі ў дачыненьні правоў спажыўцоў, была даступнай на рэгіянальных мовах ці мовах меншасьцяў.

**Артыкул 14** Трансмежавыя абмены

Бакі бяруць абавязак:

a) прымяняць наяўныя двухбаковыя й шматбаковыя пагадненьні, заключаныя зь Дзяржавамі, дзе такая самая мова ўжываецца ў тоеснай ці блізкай форме, або калі неабходна, імкнуцца заключыць такія пагадненьні, так, каб спрыяць кантактам паміж карыстальнікамі аднолькавай мовай у адпаведнай Дзяржаве ў галі-

не культуры, адукацыі, інфармацыі, прафэсійнае падрыхтоўкі і сыстэмаў бесьперапыннае адукацыі;

b) дзеля карысьці рэгіянальным мовам і мовам меншасьцяў спрыяць і/або разьвіваць трансмежавае супрацоўніцтва абапал межаў, асабліва паміж рэгіянальнымі ці мясцовымі ўладамі на тэрыторыі, дзе тая самая мова ўжываецца ў тоеснай ці блізкай да гэтага форме.

## *Частка IV — Прымяненьне хартыі*

**Артыкул 15** Пэрыядычныя даклады

1. Бакі будуць пэрыядычна падаваць Генэральнаму Сакратару Рады Эўропы, у форме, прадпісанай Камітэтам Міністраў, даклады аб іх палітыцы, што праводзіцца ў адпаведнасьці з Часткай II гэтай Хартыі й аб захадах, прынятых дзеля прымяненьня тых палажэньняў Часткі III, на якія яны пагадзіліся. Першы даклад падаецца на працягу наступнага году пасьля ўступленьня Хартыі ў сілу для адпаведнага Боку, іншыя даклады будуць падавацца зь інтэрвалам у тры гады пасьля першага.

2. Бакі даводзяць свае справаздачы да ведама грамадзкасьці.

**Артыкул 16** Вывучэньне дакладаў

1. Даклады, пададзеныя Генэральнаму Сакратару Рады Эўропы, у выкананьне артыкулу 15, вывучаюцца камітэтам экспэртаў, заснаваным ў адпаведнасьці з Артыкулам 17.

2. Органы або асацыяцыі, створаныя Бокам у адпаведнасьці з законам, могуць зьвяртаць увагу камітэту экспэртаў да справаў, зьвязаных з забавязаньнямі, прынятымі Бокам у моц Часткі III гэтай Хартыі. Пасьля кансультацыяў з адпаведным зацікаўленым Бокам камітэт экспэртаў можа ўзяць пад увагу гэтую інфармацыю пры падрыхтоўцы дакладу, азначанага пункце 3 гэтага Артыкулу. Гэтыя органы ці асацыяцыі могуць, апрача таго, прымаць заявы адносна палітыкі, што праводзіцца Бокам у адпаведнасьці з Часткай II.

3. На падставе дакладаў, азначаных ў пункце 1 і інфармацыі, памянёнай у пункце 2, камітэт экспэртаў падрыхтуе даклад для Камітэта Міністраў. Гэты даклад будзе суправаджацца заўвагамі, якія будзе прапанавана зрабіць Бакам і можа быць апублікаваная Камітэтам Міністраў.

4. Даклад, азначаныя ў пункце 3, будзе зьмяшчаць, у прыватнасьці, прапановы камітэту экспэртаў Камітэту Міністраў з мэтаю падрыхтаваць, пры неабходнасьці, любыя рэкамэндацыі Камітэта Міністраў для аднаго або некалькіх Бакоў.

5. Генэральны Сакратар Рады Эўропы раз на два гады будзе рабіць падрабязны даклад аб выкананьні Хартыі для парлямэнцкае Асамблеі.

**Артыкул 17** Камітэт экспэртаў

1. Камітэт экспэртаў мае складацца з аднаго прадстаўніка ад кожнага Боку, прызначанага Камітэтам Міністраў са сьпісу асобаў вышэйшае сумленнасьці й прызнанае кампэтэнтнасьці ў пытаньнях, зьвязаных з Хартыяй, які будзе прапанаваны адпаведным Бокам.

2. Члены Камітэта маюць прызначацца на шасьцігадовы тэрмін і будуць мець права на перавыбраньне. Член Камітэта, які ня ў стане завершыць тэрмін сваіх паўнамоцтваў, будзе заменены згодна з працэдурай, прадугледжанай у пункце 1 і, асоба, што зьменіць яго, завершыць тэрмін паўнамоцтваў свайго папярэдніка.

3. Камітэт экспэртаў прымае ўнутраны рэглямэнт. Яго сакратарыят будзе забясьпечаны Генэральным Сакратаром Рады Эўропы.

## *Частка V — Заключныя палажэньні*

**Артыкул 18**

Гэтая Хартыя мае быць адкрытай для падпісаньня Дзяржавамі-членамі Рады Эўропы. Яна будзе падлягаць ратыфікацыі, прыняцьцю ці ўхваленьню. Інструмэнты ратыфікацыі, прыняцьця ці ўхваленьня будуць здавацца на захоўваньне Генэральнаму Сакратару Рады Эўропы.

**Артыкул 19**

1. Гэтая Хартыя ўвойдзе ў моц у першы дзень месяца, наступнага пасьля заканчэньня трохмесячнага пэрыяду з даты, калі пяць Дзяржаваў-членаў выкажуць сваю згоду Рады Эўропы з абавязковасьцю для іх Хартыі, згодна з палажэньнямі Артыкулу 18.

2. У дачыненьні Дзяржавы-члена, што выкажа ў наступным сваю згоду з абавязковасьцю Хартыі, яна ўвойдзе ў моц у першы дзень месяца пасьля заканчэньня трохмесячнага пэрыяду з даты здачы на захаваньне дакумэнтаў аб ратыфікацыі, прыняцьці або ўхваленьні.

**Артыкул 20**

1. Пасьля ўваходжаньня ў моц гэтай Хартыі Камітэт Міністраў Рады Эўропы зможа запрасіць далучыцца да гэтай Хартыі любую Дзяржаву, што ня ёсьць членам Рады Эўропы.

2. У дачыненьні да любой далучанай Дзяржавы, Хартыя ўвойдзе ў моц у першы дзень месяца пасьля заканчэньня трохмесячнага пэрыяду з даты здачы на захаваньне дакумэнтаў аб далучэньні Генэральнаму Сакратару Рады Эўропы.

**Артыкул 21**

1. Любая Дзяржава можа падчас падпісаньня або здачы на захоўваньне сваіх інструмэнтаў ратыфікацыі, прыняцьця, ухваленьня ці далучэньня, зрабіць адну ці болей засьцярогаў да пунктаў з 2 па 5 Артыкулу 7 гэтай Хартыі. Іншыя засьцярогі непрыймальныя.

2. Любая Дзяржава-ўдзельніца, што зрабіла засьцярогі згодна з папярэднім пунктам, можа цалкам або часткова адклікаць шляхам натыфікацыі на імя Генэральнага Сакратара Рады Эўропы. Адкліканьне будзе дзейнічаць са дня атрыманьня такой натыфікацыі Генэральным Сакратаром.

**Артыкул 22**

1. Любы бок можа ў любы час дэнансаваць гэтую Хартыю шляхам натыфікацыі на імя Генэральнага Сакратара Рады Эўропы.

2. Такая дэнансацыя стане дзейнай у першы дзень месяца пасьля заканчэньня пэрыяду ў шэсьць месяцаў з даты атрыманьня натыфікацыі Генэральным Сакратаром Рады Эўропы.

**Артыкул 23**

Генэральны Сакратар Рады Эўропы паведаміць дзяржавам-удзельніцам Рады Эўропы й любой Дзяржаве, што далучылася да гэтай Хартыі, аб:

a) любым падпісаньні;

b) здачы на захаваньне любых дакумэнтаў аб ратыфікацыі, прыняцьці, ухваленьні ці далучэньні;

c) любой даце ўваходжаньня ў моц гэтай Хартыі згодна з арт. 19 і 20;

d) любой натыфікацыі, атрыманай у выкананьне палажэньняў пункту 2 Артыкулу 3, любым іншым акце, натыфікацыі ці інфармацыі, што адносіцца да гэтай Хартыі;

e) любым іншым акце, натыфікацыі або паведамленьні, зьвязаным з гэтай Хартыяй.

У сьведчаньне чаго ніжэйпадпісаныя, належным чынам упаўнаважаныя на гэта, падпісалі гэтую Хартыю.

Учынена ў Страсбургу, 5 лістапада 1992 году, на ангельскай і францускай мовах, прычым абодва тэксты маюць аднолькавую моц, у адным асобніку, што будзе захоўвацца ў архівах Рады Эўропы. Генэральны Сакратар Рады Эўропы дашле засьведчаную копію кожнай Дзяржаве-члену Рады Эўропы й любой Дзяржаве, запрошанай далучыцца да гэтай Хартыі.

---

# КОНВЕНЦИЯ

## *об обеспечении прав лиц, принадлежащих к национальным меньшинствам*

Государства-участники настоящей Конвенции, именуемые далее — Договаривающиеся Стороны,

считая, что развитие и укрепление отношений дружбы, добрососедства и сотрудничества между ними отвечают коренным интересам их народов и служат делу мира и безопасности,

подтверждая свою приверженность демократии, свободе и справедливости,

подтверждая также свою приверженность соблюдению международных стандартов в области прав человека, закрепленные, в частности, во Всеобщей декларации прав человека, Международном пакте о гражданских и политических правах, Международном пакте об экономических, социальных и культурных правах, Декларации о правах лиц, принадлежащих к национальным или этническим, религиозным и языковым меньшинствам, Международной конвенции о борьбе против всех форм расовой дискриминации, Конвенции о предупреждении преступления геноцида и наказании за него, Конвенции о правах ребенка и других основополагающих документах по правам человека,

учитывая свои обязательства, вытекающие из Хельсинкского Заключительного акта Совещания по безопасности и сотрудничеству в Европе, Мадридского, Венского и Хельсинкского итоговых документов, документов Копенгагенского и Московского совещаний по человеческому измерению СБСЕ, документа Краковского симпозиума по культурному наследию, а также Парижской хартии для новой Европы,

исходя из того, что права лиц, принадлежащих к национальным меньшинствам, являются неотъемлемой частью общепризнанных прав человека,

принимая во внимание, что на территории каждой Договаривающейся Стороны проживают лица, которые принадлежат к национальным меньшинствам,

признавая, что упомянутые меньшинства являются неотъемлемой частью общества, в котором они жили и живут, и обогащают его своим трудом, самобытностью и культурой,

считая, что поощрение и защита прав лиц, принадлежащих к национальным меньшинствам, способствуют политической и социальной стабильности государств, в которых они проживают, а также признавая необходимым принять надлежащие меры для обеспечения прав национальных меньшинств и создать в этих целях соответствующие механизмы сотрудничества, в том числе в рамках двусторонних соглашений,

согласились о нижеследующем:

**Статья 1**

Для целей настоящей Конвенции под лицами, принадлежащими к национальным меньшинствам, понимаются лица, постоянно проживающие на территории одной договаривающейся Стороны и имеющие ее гражданство, которые по своему этническому происхождению, языку, культуре, религии или традициям отличаются от основного населения данной Договаривающейся Стороны.

**Статья 2**

Договаривающиеся Стороны подтверждают, что принадлежность к национальному меньшинству является вопросом индивидуального выбора заинтересованного лица, и гарантируют, что такой выбор не

повлечет за собой каких бы то ни было неблагоприятных последствий для упомянутого лица.

**Статья 3**

1. Каждая из Договаривающихся Сторон гарантирует лицам, принадлежащим к национальным меньшинствам, гражданские, политические, социальные, экономические, культурные права и свободы в соответствии с общепризнанными международными стандартами в области прав человека и ее законодательством.

2. Каждая из Договаривающихся Сторон примет меры для недопущения на своей территории какой-либо дискриминации граждан по признаку их принадлежности к национальному меньшинству.

3. Договаривающиеся Стороны подтверждают, что уважение прав лиц, принаддежащих к национальным меньшинствам, подразумевает выполнение этими лицами своих обязанностей по отношению к государству, на территории которого они проживают.

**Статья 4**

1. Каждая из Договаривающихся Сторон признает за лицами, принадлежащими к национальным меньшинствам, право индивидуально или совместно с членами своей группы беспрепятственно выражать, сохранять и развивать свою этническую, языковую, культурную или религиозную самобытность.

2. Договаривающиеся Стороны обязуются учитывать в своей политике законные интересы национальных меньшинств и принимать необходимые меры с целью создания благоприятных условий для сохранения и развития их этнической, языковой, культурной и религиозной самобытности. Такие меры будут служить интересам всего общества и не должны приводить к ущемлению прав других граждан Договаривающихся Сторон.

**Статья 5**

1. Каждая из Договаривающихся Сторон обязуется обеспечивать лицам, принадлежащим к национальным меньшинствам, право на участие в общественной и государственной жизни, особенно в решении вопросов, касающихся защиты их интересов на региональном уровне.

2. Каждая из Договаривающихся Сторон признает за лицами, принадлежащими к национальным меньшинствам, право создавать в соответствии с национальным законодательством различные организации (ассоциации, землячества и т.п.) просветительского, культурного и религиозного характера в целях сохранения и развития этнической, языковой, культурной и религиозной самобытности.

Упомянутые организации будут иметь такие же права, которые предоставляются другим подобным организациям, в частности, в том, что касается пользования общественными зданиями, радиовещанием, телевидением, печатью, другими средствами массовой информации.

**Статья 6**

1. Каждая из Договаривающихся Сторон признает за лицами, принадлежащими к национальным меньшинствам, право беспрепятственно поддерживать контакты между собой на территории государства проживания, а также право на сохранение и поддержание связей с гражданами и организациями государств, с которыми их связывает общее этническое происхождение, культура, язык или религиозные убеждения. Такие связи и контакты не должны противоречить национальному законодательству Договаривающихся Сторон.

2. Договаривающиеся Стороны будут поощрять деятельность информационно-культурных центров других Договаривающихся Сторон на своей территории.

**Статья 7**

1. Каждая из Договаривающихся Сторон признает за лицами, принадлежащими к национальным меньшинствам, право употреблять свои имена и фамилии, в том числе в официальных документах, так, как это принято на их родном языке, а также беспрепятственно пользоваться родным языком как в письменной, так и в устной форме, иметь доступ к информации на этом языке, распространять такую информацию и обмениваться ею, включая право создавать средства массовой информации на родном языке.

2. Каждая из Договаривающихся Сторон в соответствии с национальным законодательством будет создавать там, где это возможно и необходимо, условия для использования языка национальных меньшинств в контактах с официальными властями.

**Статья 8**

Каждая из Договаривающихся Сторон признает за лицами, принадлежащими к национальным меньшинствам, право индивидуально или совместно с членами своей группы исповедовать свою религию и совершать религиозные обряды в соответствии со своим вероисповеданием, содержать культовые здания, приобретать и использовать предметы, необходимые для отправления культа, а также вести просветительскую религиозную деятельность на родном языке. Такая деятельность не должна противоречить национальному законодательству.

**Статья 9**

Организации просветительского, культурного и религиозного характера, упомянутые в статье 5 настоящей Конвенции, могут финансироваться за счет добровольных денежных и иных взносов, а также получать помощь от государства их местонахождения в соответствии с его законодательством. Они могут также получать помощь от государственных и общественных организаций других Договаривающихся Сторон при соблюдении требований, установленных законодательством государства их местонахождения.

**Статья 10**

В целях содействия сохранению этнической, языковой, культурной и религиозной самобытности национальных меньшинств Договаривающиеся Стороны, в частности, будут:

а) признавая необходимость изучения государственного языка в соответствии с законодательством каждой Договаривающейся Стороны, создавать с учетом имеющихся потребностей соответствующие условия для изучения национальными меньшинствами родного языка и получения образования на родном языке, включая открытие и поддержание образовательных учреждений различного уровня и их подразделений, финансируемых из различных источников, в том числе предусмотренных статьей 9 настоящей Конвенции;

б) способствовать сотрудничеству между государственными органами Договаривающихся Сторон, ведающими вопросами образования, для обеспечения образовательных учреждений и их подразделений, в которых преподавание ведется на языках национальных меньшинств, программами, учебными пособиями и учебной литературой на этих языках, содействовать в подготовке специалистов для работы в этих образовательных учреждениях и подразделениях;

в) принимать меры для сохранения и изучения культурного наследия национальных меньшинств, в том числе обеспечивать охрану памятников их истории и культуры;

г) учитывать историю и культуру национальных меньшинств при изучении истории и культуры государства в учебных заведениях и просветительских организациях;

д) способствовать сохранению и развитию национальных промыслов.

**Статья 11**

1. Договаривающиеся Стороны будут содействовать процессу кодификации прав национальных меньшинств на двустороннем, региональном и универсальном уровнях в этих целях будут поддерживать направленные на это усилия в рамках Организации Объединённых Наций и Совещания по безопасности и сотрудничеству в Европе.

2. Договаривающиеся Стороны будут использовать опыт нормотворческой деятельности международных организаций в сфере защиты прав национальных меньшинств.

**Статья 12**

1. Ни одно из обязательств Договаривающихся Сторон, вытекающих из настоящей Конвенции, не может быть истолковано как основание для какой-либо деятельности или действий, противоречащих общепризнанным принципам и нормам международного права, включая принципы уважения суверенного равенства, территориальной целостности и политической независимости государств.

2. При осуществлении прав, изложенных в настоящей Конвенции, лица, принадлежащие к национальным меньшинствам, будут соблюдать законодательство государства проживания, а также уважать права и свободы других лиц.

**Статья 13**

Наблюдение за выполнением настоящей Конвенции возлагается на Комиссию по правам человека, учрежденную в соответствии со статьей 33 Устава Содружества Независимых Государств.

**Статья 14**

1. Настоящая Конвенция вступает в силу со дня сдачи депозитарию третьего уведомления, подтверждающего выполнение Договаривающимися Сторонами необходимых внутригосударственных процедур для вступления её в силу.

2. Для других Договаривающихся Сторон настоящая Конвенция вступает в силу с даты получения депозитарием уведомления о выполнении ими внутригосударственных процедур, указанных в части первой настоящей статьи.

3. Государством-депозитарием настоящей Конвенции является Республика Беларусь

**Статья 15**

К настоящей Конвенции после вступления ее в силу могут присоединиться другие государства, разделяющие ее цели и принципы, путем сдачи депозитарию уведомления, подтверждающего выполнение ими внутригосударственных процедур, указанных в части первой статьи 14 настоящей Конвенции. Дата получения депозитарием указанного уведомления является датой вступления в силу настоящей Конвенции для такого государства.

**Статья 16**

Любая из Договаривающихся Сторон может заявить о своем выходе из настоящей Конвенции путем письменного уведомления депозитария не менее чем за 6 месяцев до даты выхода.

*Совершено в городе Москве 21 октября 1994 года в одном подлинном экземпляре на русском языке. Подлинный экземпляр хранится в Архиве Правительства Республики Беларусь, которое направит каждому государству, подписавшему настоящую Конвенцию, ее заверенную копию.*

За Азербайджанскую Республику — **Г.Алиев**

За Кыргызскую Республику — **А.Акаев**

За Республику Армения — **Л.Тер-Петросян**

За Республику Молдова — **М.Снегур**

За Республику Беларусь — **А.Лукашенко**

За Российскую Федерацию — **Б. Ельцин**

За Республику Грузия — **Э.Шеварднадзе**

За Республику Таджикистан — **Э.Рахмонов**

За Республику Казахстан — **Н. Назарбаев**

За Украину — **Л. Кучма**

* Конвенция подписана Азербайджанской Республикой с примечанием: С учетом особого мнения.

** Конвенция подписана Украиной с примечанием: С учетом Законодательства Украины.

*** Конвенция не подписана Туркменистаном и Республикой Узбекистан.

*Эрнэст ГЕЛЬНЭР*

# *Нацыі і нацыялізм. Дэфініцыі*

Нацыяналізм — гэта перадусім палітычны прынцып, згодна зь якім палітычная й нацыянальная адзінкі мусяць супадаць.

Нацыяналізм як пачуцьцё або як рух найлепш можна вызначыць зыходзячы з гэтага прынцыпу. Нацыяналістычнае *пачуцьцё* — гэта адчуваньне незадаволенасьці, выкліканае парушэньнем гэтага прынцыпу ці адчуваньне задавальненьня, выкліканае яго зьдзяйсьненьнем. Нацыяналістычны *рух* — гэта рух, натхнёны пачуцьцём падобнага кшталту.

Нацыяналістычны прынцып можа парушацца разнастайным чынам. Палітычная мяжа дзяржавы можа не ўключаць усіх прадстаўнікоў адпаведнае нацыі; ці яна можа ўключаць усіх плюс яшчэ й пэўную колькасьць чужынцаў; ці яна можа быць і першае й другое адначасова: не ахопліваць усіх прадстаўнікоў дадзенае нацыі ды ўключаць прадстаўнікоў іншае. Апрача таго, нацыя можа жыць безь перамешваньня з чужынцамі ў мностве дзяржаваў, ня маючы *уласнае* нацыянальнае дзяржавы.

Але ёсьць адна асаблівая форма парушэньня нацыяналістычнага прынцыпу, на якую асабліва балюча рэагуе нацыяналістычнае пачуцьцё: нацыяналісты лічаць цалкам недапушчальным з гледзішча палітычных нормаў, калі можнаўладцы палітычнай адзінкі належаць не да тае нацыі, якая складае бальшыню насельніцтва. Гэта можа быць або вынікам інкарпарацыі нацыянальнае тэрыторыі ў склад больш абсяжнай імпэрыі, або вынікам лякальнага дамінаваньня чужароднае групы.

Карацей кажучы, нацыяналізм — гэта тэорыя палітычнае легітымнасьці, якая вымагае, каб этнічныя межы не перакрыжоўваліся з палітычнымі, і ў прыватнасьці, каб этнічныя межы ўнутры аднае дзяржавы — выпадак, які фармальна выключаецца самім прынцыпам у ягоным агульным фармуляваньні — не падзялялі можнаўладцаў ад асноўнага насельніцтва.

Нацыяналістычны прынцып можа мець этычны, „унівэрсаліцкі“ характар. Могуць існаваць і часам існуюць абстрактныя нацыяналісты, якія нясхільныя да якой-небудзь адной — сваёй — нацыянальнасьці й якія шчодра прапаведваюць агульную для ўсіх нацыяў дактрыну: даць усім нацыям магчымасьць мець іхны ўласны палітычны дах і таксама даць ім волю што да прыняцьця пад яго чужынцаў. Фармальна не існуе нічога супярэчлівага ў сьцьверджаньні такога неэгаістычнага нацыяналізму. На ка-

---

**Эрнэст Гельнэр нарадзіўся ў 1925 г. у Парыжы. Скончыў Оксфардзкі ўнівэрсытэт. Абараніў доктарскую дысэртацыю ў галіне сучаснай антрапалёгіі. У 1962-1984 г. выкладаў філязофію ў Лёнданскай Школе Эканамічных і Палітычных навук. З 1984 г. — прафэсар антрапалёгіі Кембрыджскага ўнівэрсытэту. З 1974 г. — сябра Брытанскай Акадэміі Навук. Эрнэст Гельнэр — аўтар шэрагу фундамэнтальных працаў, сярод іх “Словы й рэчы” (1969), “Легітымацыя вераваньняў” (1973), “Сучаснае мысьленьне й палітыка” (1974), “Мусульманскае грамадзтва” (1981), “Релятывізм і сацыяльныя навукі” (1985), “Культура, ідэнтычнасьць і палітыка” (1987). У лістападзе 1995 г. Эрнэст Гельнэр памёр. Каб ушанаваць памяць аднаго з найбольш аўтарытэтных антраполягаў апошняй трэці XX ст., мы вырашылі надрукаваць фрагмэнты (у аўтарскім скарачэньні) бадай што самай вядомай, амаль хрэстаматыйнай у эўрапейскім кантэксьце кнігі Эрнэста Гельнэра “Нацыі й нацыяналізм” (1983).**

рысьць яго як дактрыны можна высунуць пэўныя слушныя аргумэнты, такія, як пажаданасьць захаваньня культурнай адметнасьці, разнастайнасьці міжнародных палітычных сыстэмаў, паслабленьне напружанасьці ўнутры дзяржаваў.

У сапраўднасьці ж нацыяналізм бадай што ніколі ня быў нагэтулькі абачлівым, нагэтулькі рацыянальна ўраўнаважаным. Цалкам верагодна, што, як лічыў Імануіл Кант, небесстароннасьць, схільнасьць рабіць выняткі толькі для сябе ці толькі на сваю карысьць — гэта *асноўная* чалавечая слабасьць, зь якой паходзяць усе астатнія; і што яна разам з усім іншым заражае й нацыянальнае пачуцьцё, спараджаючы тое, што італійцы за часамі Мусаліні называлі *sacro egoismo* нацыяналізму. Таксама верагодна, што палітычныя праявы нацыянальнага пачуцьця былі б шматкроць зьменшаныя, калі б нацыяналісты гэтак жа гойстра адчувалі несправядлівасьці, счыненыя іхнай нацыяй, як яны адчуваюць несправядлівасьці, счыненыя супраць яе.

Але звыш гэтых ёсьць іншыя, больш істотныя меркаваньні, зьвязаныя са спэцыфічнаю прыродаю таго свету, у якім нам даводзіцца жыць і які паўстае супраць усялякага бестароньняга, агульначалавечага й абачлівага нацыяналізму. Можна перадаць гэта ў найбольш агульным выглядзе: на зямлі існуе незьлічоная колькасьць патэнцыйных нацыяў. На нашай плянэце таксама мае месца пэўная колькасьць незалежных або аўтаномных палітычных адзінкаў. Усялякі разумны падлік пакажа, што лік патэнцыйных нацыяў па ўсёй верагоднасьці нашмат, *нашмат* большы за лік магчымых жыцьцяздольных дзяржаваў. Калі гэты аргумэнт, альбо падлік праўдзівы, дык ня ўсе нацыяналістычныя інтарэсы могуць быць задаволеныя, прынамсі, адначасова. Задавальненьне адных вядзе да грэбаваньня іншымі. Далейшым і невымяральна моцным пацьверджаньнем гэтага аргумэнту ёсьць той факт, што вельмі шмат якія з патэнцыйных нацыяў нашага сьвету жывуць або жылі да нядаўнага часу не кампактнымі тэрытарыяльнымі адзінкамі, а былі зьмешаныя адна з другою ў самых складаных спалучэньнях. З гэтага вынікае, што тэрытарыяльная палітычная адзінка можа стаць палітычна аднароднай толькі тады, калі будуць зьнішчаныя, выгнаныя ці асыміляваныя ўсе чужынцы. Нежаданьне апошніх мірыцца з падобным лёсам можа моцна ўскладніць мірнае ажыцьцяўленьне нацыялістычнага прынцыпу.

Безумоўна, да гэтых дэфініцыяў, як і да бальшыні ўсялякіх дэфініцыяў, варта падыходзіць са здаровым сэнсам. Нацыялістычны прынцып, як ён вызначаны вышэй, не парушаецца пражываньнем *невялікай* колькасьці чужынцаў альбо нават адзінкавымі выпадкамі прысутнасьці чужнікоў, скажам, у правячай нацыянальнай сям'і. Нельга з дакладнасьцю вызначыць, колькі ж менавіта чужынцаў у краіне або чужынцаў у правячай клясе павінна быць, каб можна было лічыць парушаным гэты прынцып. Няма таго ўстойлівага адсоткавага паказьніку, які аддзяляў бы момант, калі з прысутнасьцю чужынца можна літасьціва пагадзіцца, ад моманту, калі ягоная прысутнасьць становіцца зьняважліваю, а жыцьцё — небясьпечным. Без сумневу, што гэты паказьнік розьніцца ў залежнасьці ад акалічнасьцяў. Аднак немажлівасьць назваць прымяняльную да ўсіх выпадкаў і дакладную лічбу не перашкаджае карыснасьці зробленай дэфініцыі.

### *Дзяржава й Нацыя*

Нашая дэфініцыя нацыялізму залежала ад двух яшчэ нявызначаных паняцьцяў: дзяржава й нацыя. Абмеркаваньне пытаньня, што ёсьць дзяржавай, можна пачаць са знанай дэфініцыі Макса Вэбэра: гэта такая арганізацыя ўнутры грамадзтва, якая мае манаполію на законны прымус. Гэта простая й прывабная ідэя: у добра арганізаваных грамадзтвах, у якіх бальшыня з нас жыве ці імкнецца жыць, прыватны ці групавы прымус лічыцца незаконным. Сам па сабе канфлікт ня ёсьць незаконным, але ён ня можа быць разьвязаным з дапамогаю прыватнага ці групавога прымусу. Прымус можа прымяняцца цэнтральнаю палітычнаю ўладаю й тымі, каму яна дэлегуе гэтае права. Сярод усіх разнастайных захадаў у імя падтрыманьня парадку скрайная санкцыя — сіла — можа прымяняцца толькі адной адмыслова створанай, выразна вызначанай, строга цэнтралізаванай і дысцыплінаванай установай унутры грамадзтва. Гэтая ўстанова ці сукупнасьць установаў і ёсьць дзяржавай. Укладзеная ў гэтую дэфініцыю ідэя даволі добра адпавядае маральным адчуваньням шматлікіх, верагодна, бальшыні супольнікаў навачасных грамадзтваў. Тым ня менш, яна ня цалкам здавальняючая.

Ёсьць „дзяржавы“ — ці, прынамсі, інстытуты, якія мы па сутнасьці схільныя гэтак называць — каторыя ня маюць манапольнага права на законны прымус у межах тэрыторыі, што яны больш ці менш кантралююць. Фэўдальная дзяржава не абавязкова варожа ставіцца да прыватных войнаў між ейнымі васаламі пры ўмове, што яны не забываюцца на абавязкі што да свайго сюзэрэна; альбо дзяржава, у якой суіснуюць розныя плямёны, не абавязкова змагаецца супраць інстытуту крэўнай помсты, пакуль варожыя бакі не пагражаюць небясьпецы мірных жыхароў у грамадзкіх месцах і на дарогах. Іракская дзяржава падчас знаходжаньня пад брытанскаю апекаю пасьля Першай сусьветнай вайны мірылася з пляменнымі сутычкамі пры ўмове, што іх удзельнікі з паслушэнствам зьяўляліся б у найбліжэйшы паліцэйскі пастарунак перад і пасьля выправы й складалі б падрабязную бюракратычную справаздачу што да ахвяраў і колькасьці нарабаванага. Карацей кажучы, ёсьць дзяржавы, якім бракуе або жаданьня, або сродкаў забясьпечыць захаваньне сваёй манаполіі на законны прымус і якія пры гэтым у многіх аспэктах застаюцца „дзяржавамі“.

Аднак асноватворны прынцып Вэбэра падаецца слушным менавіта сёньня, нягледзячы на яго дзіўную як абагульненай дэфініцыі этнацэнтрычнасьць, дзе за ўзор па сутнасьці бярэцца добрацэнтралізаваная дзяржава заходняга тыпу. Дзяржава — гэта добра заўважнае й істотнае разьвіцьцё сацыяльнага падзелу працы. Там, дзе няма падзелу працы, нельга нават і распачынаць гаворку пра дзяржаву. Але далёка не ўсялякая спэцыялізацыя стварае дзяржаву: дзяржава — гэта спэцыялізаваная й сканцэнтраваная сіла дзеля падтрыманьня парадку. „Дзяржава“ — гэта інстытут ці шэраг інстытутаў, якія адмыслова займаюцца забесьпячэньнем парадку (чым бы іншым яны не займаліся). Дзяржава існуе там, дзе з рэшты сацыяльнага жыцьця вылучыліся такія спэцыялізаваныя ўстановы па забесьпячэньні парадку, як паліцыя й суд. Яны і *ёсьць* дзяржавай.

Ня ўсе грамадзтвы маюць дзяржаву. З гэтага адразу ж вынікае, што ў грамадзтвах безь дзяржавы праблема нацыяналізму не паўстае. Калі няма дзяржавы, дык, відавочна, нельга ўздымаць пытаньне супадзеньня межаў дзяржавы зь межамі нацыі. Раз няма можнаўладцаў, няма дзяржавы, значыць, само сабою адпадае пытаньне аб нацыянальнасьці можнаўладцаў. Калі няма ні дзяржавы, ні можнаўладцаў, няма ад каго патрабаваць выкананьня нацыялістычнага прынцыпу. Магчыма, нехта можа шкадаваць аб адсутнасьці дзяржавы, але гэта ўжо іншае пытаньне. Звычайна нацыяналісты наракаюць на разьмеркаваньне палітычнае ўлады й на прыроду палітычных межаў, але ім бадай не надавалася нагоды дзеля шкадаваньня аб поўнай адсутнасьці і ўлады, і межаў. Абставіны, у якіх у асноўным узьнікаў нацыяналізм, звычайна адрозьніваліся ад тых, калі дзяржавы як такой або не існавала, або яе існаваньне было пад вялікім сумневам. Дзяржава заўсёды была занадта яўна прысутнай. Гэта тычылася ейных межаў і/або разьмеркаваньня ўлады й, магчыма, іншых перавагаў, якія выклікалі абурэньне.

Гэта ў найвышэйшай ступені важны момант. Ня толькі нашая дэфініцыя нацыяналізму залежыць ад папярэдне вызначанай дэфініцыі дзяржавы, таксама ўяўляецца, што нацыяналізм узьнікае толькі ў тым асяродзьдзі, у якім існаваньне дзяржавы ўжо ў значнай ступені ўспрымаецца як належнае. Існаваньне палітычна цэнтралізаваных адзінкаў і маральна-палітычнага клімату, у якім гэтыя цэтралізаваныя адзінкі ўспрымаюцца як безумоўная рэчаіснасьць і лічацца нормаю, ёсьць неабходнай, але яшчэ не дастатковай умовай нацыяналізму.

Забягаючы наперад, варта зрабіць колькі агульнагістарычных заўвагаў на конт дзяржавы. Чалавецтва ў сваім гістарычным разьвіцьці прайшло праз тры асноўныя стадыі: дааграрную, аграрную й індустрыяльную. Плямёны, якія жылі паляваньнем і зьбіральніцтвам, былі занадта малалікімі, каб у іх узьнік той тып палітычнага падзелу працы, які вядзе да дзяржавы; таму перад імі па сутнасьці не паўставала пытаньне аб дзяржаве — стабільным спэцыялізаваным інстытуце па ахове парадку. І наадварот, хоць і не заўсёды, аграрныя грамадзтвы мелі дзяржаву. Асобныя з гэтых дзяржаваў былі магутнымі, асобныя — слабымі, асобныя — дэспатычнымі, а іншыя — законапаслухмянымі. Што да сваёй формы, дык яны вельмі адрозьніваліся адна ад другой. Аграрная стадыя гісторыі чалавецтва — гэта пэрыяд, у якім, так бы мовіць, само існаваньне дзяржавы было справаю

выбару. Больш таго, форма дзяржавы была скрайне зьменлівай. У эпоху паляваньня й зьбіральніцтва выбар быў немагчымым.

Наадварот, у постаграрны, індустрыяльны пэрыяд ізноў няма выбару; але цяпер ёсьць непазьбежнай *наяўнасьць*, а не адсутнасьць дзяржавы. Калі перафразаваць Гегеля, дык можна сказаць, што напачатку ніхто ня меў дзяржавы, потым яе мелі некаторыя й, урэшце, яна стала ўва ўсіх. Форма, якую яна набывае, паранейшаму застаецца зьменлівай. Ёсьць пэўныя кірункі сацыяльнае думкі — анархізм, марксызм — якія сьцьвярджаюць, што нават або менавіта на індустрыяльнай стадыі дзяржава неабавязковая, прынамсі, пры спрыяльных умовах альбо пры ўмовах, якія абавязкова складуцца цягам часу. Ёсьць відавочныя й істотныя падставы паставіць гэта пад сумнеў: індустрыяльныя грамадзтвы надзвычай абсяжныя й іх лад жыцьця, да якога яны прызвычаіліся (ці да якога яны зацята імкнуцца прызвычаіцца), залежыць ад неверагодна мудрагелістага ўсеагульнага падзелу працы й каапэрацыі. Пэўныя тыпы каапэрацыі могуць быць спантаннымі й без пазначэньняў зьверху. Але ідэя, што ўсё гэтае магло б увесьчасна ажыцьцяўляцца гэткім чынам, без усялякага прымусу й кантролю, выклікае вялікі недавер.

Такім чынам, праблема нацыяналізму не паўстае там, дзе няма дзяржавы. З гэтага не вынікае, што гэтая праблема паўстае перад кожнаю дзяржаваю. Наадварот, яна паўстае толькі перад *асобнымі* дзяржавамі. Застаецца прасачыць, перад якімі менавіта.

Нацыя. Дэфініцыя нацыі выклікае большыя цяжкасьці, чымся дэфініцыя дзяржавы. Хоць навачасны чалавек схільны ўспрымаць цэнтралізаваную дзяржаву (і, у прыватнасьці цэнтралізаваную нацыянальную дзяржаву) як безумоўную рэчаіснасьць, аднак ён здольны без параўнальна вялікіх высілкаў уявіць сацыяльную сытуацыю, у якой дзяржава адсутнічае. Ён цалкам можа ўявіць „першабытны стан". Антраполяг можа растлумачыць яму, што племя — гэта не заўсёды паменшаная дзяржава, што існуюць формы пляменнай арганізацыі, якія можна лічыць недзяржаўнымі. Наадварот, ідэя пра чалавека бяз нацыі, здаецца, вымагае шматкроць большых высілкаў для навачаснага ўяўленьня. Шаміса, француз, які выэміграваў у Нямеччыну падчас напалеонавага пэрыяду, напісаў магутны протакафкіянскі раман пра чалавека, які згубіў свой цень: хоць, без сумневу, частка ўзьдзеяньня гэтага раману залежыць ад наўмыснай дваістасьці іншаказаньня, нельга не здагадацца, што для аўтара Чалавек бязь Ценю — гэта Чалавек бяз Нацыі. Калі яго прыхільнікі й сябры заўважаюць гэткую ненармальную адсутнасьць ценю, яны адварочваюцца ад Пэтэра Шлеміля. Нягледзячы на ўсе іншыя дадатныя бакі апошняга. Чалавек бяз нацыі робіць выклік агульнапрызнаным нормам і правакуе агіду.

Пункт гледжаньня Шаміса — калі менавіта гэта ён сапраўды хацеў паказаць — быў досыць слушны, але слушны толькі для пэўнага чалавечага стану, а не для людзей увогуле ў любым месцы і ў любы час. У чалавека мусіць быць нацыянальнасьць, рыхтык як у яго мусіць быць нос і два вухі; адхіленьне ад гэтага ня выключанае й час ад часу яно здараецца, але толькі як вынік нейкага няшчасьця, што само па сабе ўжо няшчасьце. Але тое, што гэта *здаецца* відавочнаю праўдай, становіць на самой рэчы аспэкт, а магчыма нават і сутнасьць праблемы нацыяналізму. Нацыянальная прыналежнасьць ня ёсьць спадчыннай уласьцівасьцю чалавецтва, але цяпер яна ўяўляецца менавіта такою.

Фактычна, нацыі, як і дзяржавы, — гэта выпадковасьць, а не ўнівэрсальная неабходнасьць. Ні нацыі, ні дзяржавы не існуюць ува ўсе часы й пры ўсіх абставінах. Пагатоў, нацыі й дзяржавы — гэта не *аднолькавая* выпадковасьць. Нацыяналізм уважае, што яны прызначаныя адно для другога; што адно без другога ёсьць няпоўным; што іх неадпаведнасьць вядзе да трагедыі. Але перад тым, як яны могуць стаць прызначанымі адно для другога, кожны зь іх мусіў узьнікнуць, а іх узьнікненьне было незалежным і выпадковым. Дзяржава, безумоўна, узьнікла без дапамогі нацыі. Пэўныя нацыі, безумоўна, склаліся без багаслаўленьня іхнае ўласнае дзяржавы. Больш спрэчным ёсьць пытаньне, ці не прыпускае нарматыўная ідэя нацыі ў навачасным сэнсе апрыёрнага існаваньня дзяржавы. Што ж тады ёсьць гэтай выпадковай, а ў наш век, відаць, унівэрсальнай і нарматыўнай ідэяй нацыі? Абмеркаваньне дзьвюх вельмі прыблізных, часавых дэфініцыяў дапаможа дакладна вызна-

чыць гэтае няўлоўнае паняцьце.

1. Два чалавекі належаць да аднае нацыі, калі іх яднае адна культура, якая ў сваю чаргу азначае сыстэму ідэяў, знакаў, асацыяцыяў, спосабаў паводзінаў і зносінаў.

2. Два чалавекі належаць да аднае нацыі, калі яны прызнаюць прыналежнасьць адзін другога да гэтае нацыі. Іншымі словамі, *нацыі робяць чалавека*; нацыі — гэта артэфакт чалавечых перакананьняў, схільнасьцяў і еднасьцяў. Звычайная група людзей (скажам, насельнікаў пэўнае тэрыторыі альбо носьбітаў пэўнае мовы) становіцца нацыяй пры ўмове й калі супольнікі гэтае групы цьвёрда прызнаюць пэўныя агульныя правы й абавязкі адзін да другога ў моц таго, што яны ўваходзяць у гэтую супольнасьць. Менавіта іхнае ўзаемнае прызнаньне ў гэтай якасьці пераўтварае іх у нацыю, а ня іншыя агульныя якасьці — якімі б яны не былі — якія аддзяляюць іх ад несупольнікаў.

Кожная з гэтых папярэдніх дэфініцыяў — і па прынцыпе культурнай еднасьці й па прынцыпе добраахвотнасьці — мае пэўную каштоўнасьць. Кожная зь іх вылучае элемэнт, які сапраўды важны ў разуменьні нацыяналізму. Але ніводная зь іх ня ёсьць дастатковай. Вызначэньні культуры, якія маюцца на ўвазе ў першай дэфініцыі хучэй у антрапалягічным, чымся ў нарматыўным сэнсе, ёсьць відавочна складанымі й недастатковымі. Верагодна, найлепш падыходзіць да праблемы пры выкарыстаньні гэтага тэрміну безь вялікага імкненьня даць яго фармальную дэфініцыю й пры разглядзе таго, што ёсьць культурай...

# *Менскае гарадзкое армянскае культурна-асьветніцкае таварыства „Аястан“*

Кіраўнік — **Егіазаран Георгій Анушаванавіч**, нарадзіўся ў 1954 г. у Ераване. Скончыў Кіеўскі інстытут інжынэраў грамадзянскай авіяцыі. Працаваў у Армянскім упраўленьні грамадзянскай авіяцыі. З 1979 г. — у Беларускім упраўленьні грамадзянскай авіяцыі (цяпер — у авіякампаніі „Белавія“).



Таварыства зарэгістравана 4.01.1992 г. Месца знаходжаньня цэнтральных органаў — Менск, Карла Маркса, 33-16.

Асноўная мэта — спрыяньне поўнаму й глыбокаму засваеньню сябрамі таварыства вартасьцяў армянскай айчыннай і сусьветнай культуры, вывучэньне й прапаганда армянскага прагрэсіўнага літаратурнага, музычнага, харэаграфічнага, выяўленчага мастацтва й іншых відаў яго духоўна-мастацкай культуры, вывучэньне традыцыяў мовы й культурнага багацьця армянскага народу. Задачы: разьвіцьцё і ўмацаваньне культурных сувязяў паміж народнасьцямі як у краіне, так і за мяжой, разьвіцьцё традыцыйных промыслаў і рамёстваў, удзел у стварэньні клюбаў, мастацкіх студыяў, цэнтраў аказаньня падтрымкі мастацка адоранай моладзі.

У 1987-1989 г. армянскае таварыства існавала пры Беларускім Фондзе Культуры. З 1989 г. — працуе самастойна. Кожны год адзначаюцца нацыянальныя сьвяты й памятныя даты: Раство Хрыстова, Вялікдзень, Сьвята Вызваленьня ад нямецка-фашысцкіх захопнікоў (віншаваньне вэтэранаў вайны), Дзень Незалежнасьці (21 верасьня), Дзень генацыду армян (24 сакавіка), Гадавіна землятрусу ў Армэніі (7 сьнежня). Пры таварыстве працуе нядзельная школа (у цэнтры нацыянальных культураў) па вывучэньні мовы й гісторыі. Мае быць створанай армянская бібліятэка, кнігі для якой ужо сабраныя й захоўваюцца ў бібліятэцы ім.Я.Купалы. У 1994 г. была арганізавана выстава мастака Лявона Дарбіняна, наступная рыхтуецца сёлета. У 1993 г. для хрышчэньня мясцовых вернікаў прыяжджаў сьвятар з Армэніі. Прадстаўнікі таварыства прымалі ўдзел у правядзеньні дабрачынных мерапрыемстваў з мэтай збору сродкаў для ліквідацыі наступстваў аварыі на ЧАЭС. У 1991 г. адбыўся канцэрт дзіцячага ансамблю з Армэніі.

5 сьнежня 1995 г. у Доме вэтэранаў праходзіў канцэрт армянскага юнацкага камэрнага аркестра. Перад таварыствам выступіла піяністка Сьвятлана Навасардзян. У адрозьненьне ад шэрагу падобных установаў, Армянскае таварыства мае ўласнае памяшканьне ў цэнтры г.Менску. Аднак існуе вялікая праблема з арэнднай платай.

Таварыства падтрымлівае сувязі з суполкамі Масквы, Рыгі, Краснадару, Днепрапятроўску й іншых гарадоў СНД. Апроч гэтага ўсталяваны сувязі з армянскай суполкай выспы Кіпр. На Беларусі існуюць армянскія суполкі ў Магілёве, Горадні, Берасьці, Гомлі. Непасрэдна ў Армэніі створаны камітэт „Спюрк“ па сувязі з далёкім і блізкім замежжам, які дасылае падручнікі таварыству армян на Беларусі.

Кантактны тэлефон: 275572 (Егіазаран Георгій Анушаванавіч).

# *Беларускае таварыства немцаў „Адраджэньне“ — цэнтар нямецкай культуры*

Старшыня таварыства — **Майснэр Аляксандар Давыдавіч**, нарадзіўся ў 1937 г. у Паволжы. Быў высланы разам з бацькамі ў Сібір. Скончыў Маскоўскую сельска-гаспадарчую акадэмію ім. Ціміразева (1965 г.) і асьпірантуру АН Беларусі. Працаваў ў Інстытуце экспэрымэнтальнай батанікі АНБ, з 1990 г. — старшыня БТН „Адраджэньне“.



Таварыства немцаў было ўтворана ў 1990 г. з мэтай усебаковага спрыяньня этнакультурнаму адраджэньню немцаў Беларусі і ўмацаваньню сувязяў паміж народнасьцямі, задавальненьню іх духоўных і матар'яльных патрэбаў. Асноўнымі задачамі таварыства „Адраджэньне“ зьяўляюцца: спрыяньне адраджэньню нацыянальнай, моўнай і культурнай самабытнасьці немцаў у Рэспубліцы Беларусь; зьдзейсьненьне пасярэдніцтва ў справе разьвіцьця і ўмацаваньня беларуска-германскіх адносінаў і супрацоўніцтва ў эканамічнай, навукова-тэхнічнай, палітычнай і грамадзка-культурнай галінах; адраджэньне народных традыцыяў, фальклёру й прыкладнога мастацтва, адкрыцьцё нямецкіх культурных цэнтраў, нямецкіх нацыянальных школаў, клясаў і г.д. Нямецкія суполкі існуюць ў Віцебску, Бабруйску, Гомлі, Горадні.

Таварыства распачало сваю дзейнасьць з адкрыцьця курсаў нямецкай мовы (6 групаў), правядзеньня тэматычных вечарынаў, прысьвечаных дзеячом нямецкай культуры. Для самых малых (да 6 год) адкрыта нядзельная школа, дзе вывучаюць нямецкую мову, культуру, гісторыю. Адбыліся імпрэзы, прысьвечаныя Л. ван Бэтховэну, клясычнай нямецкай музыцы (разам з Акадэміяй музыкі). Былі наладжаны канцэрты інструмэнтальнага ансамблю Кафэдры музыкі Беларускага Дзяржаўнага пэдагагічнага ўнівэрсытэту, нямецкага ансамбля з г.Масква, у Доме дружбы экспанавалася выстава мастакоў. У Горадні адкрыта лютэранская кірха. У Віцебску працуе тэатральная школа-студыя. У межах падрыхтоўкі да фэстывалю нацыянальных культур будзе праведзены адбор канкурсантаў.

Вывучэньне нацыянальнай мовы й яе захаваньне немагчыма без стварэньня адпаведнага культурнага асяродзьдзя. Таму паўстала ідэя стварэньня пад Менскам цэнтру нямецкай культуры. Ён мусіць быць пабудаваны на ўзор вёскі з усімі адпаведнымі атрыбутамі: гаспадарчай, культуралягічнай, адукацыйнай функцыямі.

Прадугледжаны таксама аздараўляльны цэнтар, абсталяваны нямецкай тэхнікай. Гэты праект быў падтрыманы на ўсіх узроўнях дзяржаўнай улады. Разьлічваць на дапамогу з боку ўраду Беларусі цяжка. Таму таварыства шукае зацікаўленых партнэраў у Нямеччыне. Гэты праект таксама знаходзіцца на разглядзе ў фэдэральным урадзе Германіі. Заснаваны Саюз нямецкай моладзі „Надзея“. Створаны клюб „Бон-Менск“, пакліканы дапамагаць разгортваньню супрацоўніцтва паміж Нямеччынай і Беларусьсю.

Час ад часу выдаецца інфармацыйны бюлетэнь, прысьвечаны праблемам нямецкай меншасьці. Задуманы часопіс аб гісторыі ўзаемадносінаў Нямеччыны й Беларусі. Прадстаўнікі таварыства ўдзельнічалі ў кангрэсе прадстаўнікоў нямецкай дыяспары ў эўрапейскіх краінах (восень 1995), дзе абмяркоўваліся праблемы ўзаемадзеньня немцаў на эўрапейскім кантынэнце. Былі ўсталяваны кантакты з арганізацыямі Чэхіі, Польшчы, Даніі, Італіі, Румыніі. Падтрымліваюцца сувязі зь нямецкімі таварыствамі краінаў-ўдзельніцаў СНД. Прадстаўнікі таварыства ўваходзяць у склад міждзяржаўнай Рады нямецкіх арганізацый СНД.

Кантактны тэлефон: 39-47-48 (Майснэр Аляксандар Давыдавіч).

# *Згуртаваньне татараў-мусульман на Беларусі „Аль-кітаб“*

Згуртаваньне „Аль-Кітаб“ было заснавана 23 чэрвеня 1991 г., але гэтаму папярэднічала работа па стварэньні агульнарэспубліканскай арганізацыі. Спачатку ў 1989 г. пры Беларускім Фондзе Культуры было створана гарадзкое аб'яднаньне татараў „Аль-Кітаб“. Прэзыдэнтам аб'яднаньня быў абраны **Абу-Бякір Юх'янавіч Шабановіч,** віцэ-прэзыдэнтам — **Ібрагім Барысавіч Канапацкі.** У склад аб'яднаньня ўвайшлі прадстаўнікі ўсіх буйных татарскіх суполак: івейскай, наваградзкай, слонімскай, сьмілавіцкай. Цяпер існуе 23 афіцыйна зарэгістраваныя суполкі татараў-мусульман.



*І.Б.КАНАПАЦКІ*

Галоўнай мэтай Згуртаваньня зьяўляецца садзеяньне культурна-нацыянальнаму адраджэньню татараў Беларусі, паглыбленьне гістарычнай, патрыятычнай сьвядомасьці, разьвіцьцё і ўмацаваньне дружбы й дабрасуседзтва зь іншымі народамі й нацыянальнымі меншасьцямі Рэспублікі Беларусь.

Першаступеннай задачай Згуртаваньня „Аль-Кітаб“ зьяўляецца аб'яднаньне намаганьняў татарскіх суполак Рэспублікі Беларусь для адраджэньня сваёй культуры, мусульманскай рэлігіі, гісторыі, мовы, для пашырэньня асабістых сувязяў членаў гэтых суполак, для паляпшэньня эканамічнага, прававога, сацыяльнага, культурнага й духоўнага становішча татараў-мусульман.

Адным з асноўных напрамкаў дзейнасьці аб'яднаньня з самага пачатку была культурна-асьветніцкая работа. Яшчэ да стварэньня рэспубліканскага таварыства быў выдадзены 1-шы нумар штоквартальніка „Байрам“, як органу Менскага абласнога аб'яднаньня. Таксама выдаецца часопіс мусульман Беларусі „Аль-Ислам“. Былі створаны школы, першапачаткова па навучаньні мусульманскай грамаце й мове, потым стала відавочнай неабходнасьць пераносіць асноўны цяжар на культуру й гісторыю. Таварыствам сьвяткуюцца асноўныя мусульманскія сьвяты: „Курбан-Байрам“, „Рамазан-Байрам“, „Ашура-Байрам“.

У 1989-90 гг. праводзіліся выставы мастачкі татарскага паходжаньня зь Менску Александровіч і таксама заплянавана правесьці яе выставу ў гэтым годзе. Цяпер упершыню ствараецца дзіцячы музычны гурт „Ватан“. У канцы 1996г. мяркуецца правесьці канфэрэнцыю, прысьвечаную жыцьцю, дзейнасьці й творчасьці Сьцяпана Александровіча. Мяркуецца распачаць выданьне сумеснай газэты татараў-мусульман Беларусі, Летувы й Польшчы.

Для актывізацыі кантактаў паміж суродзічамі ў Беларусі, Летуве й Польшчы у 1992 г. была створана міжнародная арганізацыя „Кума“ („Аб'яднаньне“). Вялікай праблемай для татараў-мусульман зьяўляецца адбудова мячэці, узьведзенай ў 1902 г. На гэта патрэбна 750 тыс. $ і ў гэтым аб'яднаньне спадзяецца на дапамогу дзяржавы.

За час існаваньня таварыства былі праведзены дзьве буйныя канфэрэнцыі. Першая, пад назвай „Татары-мусульмане на землях Беларусі, Летувы й Польшчы“ адбылася ў сакавіку 1993 г. На яе зьехаліся навукоўцы зь Беларусі, Польшчы, Летувы, Украіны, Крыму. Яна была прысьвечана набліжэньню 600-годзьдзя асадніцтва татараў на землях Вялікага Княства Літоўскага. Другая — „Ісьлямская культура татараў-мусульман Беларусі, Летувы й Польшчы й яе ўзаемадзеяньне зь беларускай і іншымі культурамі“ — мела на мэце высьвятленьне культурнага аспэкту гістарычнай спадчыны. 4 верасьня 1995 г. у рамках сьвяткаваньня Дня беларускага пісьменства й друку быў праведзены плэнэр (сэмінар) па арыенталістыцы (усходазнаўству) і арганізавана выстава ўсходніх рукапісаў, пісаных арабскім пісьмом (з Турцыі, Ірану XIV-XIX стст.)

Згуртаваньне падтрымлівае сувязі з суродзічамі з Крыму, Татарстану. Прадстаўнікі зь Беларусі ўдзельнічалі ў канфэрэнцыях ў Крыме, на Беларусь прыязджаў старшыня Сусьветнага Кангрэсу Татараў.

Кантактны тэлефон: 61-84-93 (Канапацкі Ібрагім Барысавіч).

**З 4.12.95 па 11.12.95** у курортным мястэчку Бад-Кісінген (Bad-Kissingen), што ў Баварыі (Нямеччына), праходзіў Эўрапейскі Кангрэс Нацыянальных групаў, які праводзіцца Фэдэральным Зьвязам эўрапейскіх нацыянальных меншасьцяў. У Кангрэсе бралі ўдзел члены нямецкага культурнага таварыства "Адраджэньне". У структуры Кангрэсу існуе тры працоўныя групы: па пытаньнях сацыялёгіі й права; адукацыйная праграма й праграма па працы з моладзьдзю. Апрача пытаньняў, традыцыйных для такіх мерапрыемстваў (захаваньне нацыянальнай самабытнасьці, мовы, культуры, мовы й г.д.), прадстаўнікамі Беларусі падымалася праблема адаптацыі эмігрантаў у Нямеччыну й сувязі з супляменьнікамі ў Беларусі й СНД. На форуме прысутнічалі прадстаўнікі Міністэрства замежных справаў, парлямэнтарыі Нямеччыны й іншых краінаў Эўропы.

---

**20 сьнежня 1995 г.** у рамках праграмы „Другая Эўропа" Цэнтру Эўрапейскіх досьледаў і культурных ініцыятываў „Эўрафорум" адбыўся сэмінар на тэму „Славянская ідэнтычнасьць і эўрапейскі выбар". На ім прагучалі даклады кандыдата філялягічных навук І. Чароты („Паўднёваславянскі аспэкт ідэі агульнаславянскага адзінства"), кандыдата філялягічных навук В.Вярэніча („Беларусь — Славія — Эўропа: Да праблемы эўрапейскага выбару") і кандыдата філялягічных навук С.Запрудзкага („Славянскія літаратурныя мовы: „расейска-француская", „чэска-нямецкая"... і г.д."). Адбылася зацікаўленая дыскусія.

---

**28 сьнежня 1995 г.** ў Берасьці адбыўся ўстаноўчы сход Палескага навуковага таварыства „Загародзьдзе" (ПНТЗ). Новая арганізацыя мае на мэце спрыяць вывучэньню Берасьцейшчыны й Піншчыны й разьвіцьцю культуры й традыцыяў палескага рэгіёну, унікальнага сваёй шматкультурнасьцю. Таварыства вынікла зь неабходнасьці абараніць, захаваць ці, прынамсі, задакумэнтаваць тыя пласты палескае цывілізацыі, якія апынуліся пад пагрозай зьнікненьня ў індустрыяльную эпоху і, зь іншага боку, з жаданьня надаць новы імпульс працэсам фармаваньня этнічнае самасьвядомасьці палешукоў і стварэньня грамадзянскае супольнасьці ва ўмовах уваходжаньня краінаў Цэнтральнае ды Усходняе Эўропы ў гамагенную эўрапейскую прастору-дзяржаву.

На момант утварэньня таварыства яднае 43 сябры. Найбольшыя філіі створаныя ў Менску, Берасьці, Маскве, Віцебску, Дарагічыне. Пераважная большасьць сябраў — навукоўцы: лінгвісты, этнографы, гісторыкі, грамадазнаўцы, а таксама пэдагогі ды краязнаўцы. На старшыню таварыства быў абраны вядомы мовазнаўца-дыялектоляг Хведар Клімчук, які здаўна займаецца дасьледаваньнем палеска-загародзкіх гаворак.

Узімку ПНТЗ мае ўзяць удзел у правядзеньні канфэрэнцыі на тэму „Унівэрсытэт і грамадзтва" ў Берасьцейскім унівэрсытэце, а таксама наладзіць сэрыю сэмінараў па праблемах нацыянальнае ды этнічнае сьвядомасьці ў Менску.

Кантакты й дадатковая інфармацыя па тэлефоне (0172) 31-69-91.

Андрэй Дынько

---



**Страсбург, Рада Эўропы. Дэпартамант правоў чалавека**